27 сакавіка 2015 | № 12 (429)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Ізраіль пасля выбараў**

стар. 29

ISSN 2218-2144

**4 ХУНТА БУДЗЕ, КАЛІ...**

Пакуль расійскія войскі на Данбасе прыпынілі наступ, ёсць магчымасць паразважаць пра тое, што чакае Украіну



**6 СМАРГОНЬ, БАТЛЕЙКА, АДРАДЖЭННЕ**

Надзея на адраджэнне нацыі прыйдзе з захаду Беларусі — такія нечаканыя высновы я зрабіла пасля наведвання Смаргоні, дзе 21–22 сакавіка праходзіў рэгіянальны фестываль «Чароўны свет батлейкі»

**9–24**

**Літаратурная Беларусь**

**31 ГАРЫЗОНТ БЫЎ ЧЫРВОНЫ АД ПАЛАЮЧЫХ ВЁСАК**

Сто гадоў таму Першая сусветная вайна прыйшла на беларускую зямлю. Сотні тысяч людзей былі вымушаны пакінуць родныя хаты

# Свята Волі

## Крэатыў, які бачны збольшага ў сацыяльных сетках, выліўся на вуліцу



Сяргей ПУЛЬША





Самыя парадаксальныя рашэнні часам бываюць самымі слушнымі. Тое, што арганізатары Дня Волі пагадзіліся з Мінгарвыканкамам правесці акцыю ў сярэдзіне працоўнага дня, ператварыла яе ў свята.

Вядома, прысутнічаў скептыцызм: ну хто пойдзе ў сераду ў 15 гадзінаў на апазіцыйнае шэсце? Аднак наш народ аказаўся больш свядомым, чым пра яго думалі. І ўжо за гадзіну да пачатку шэсця ля кінатэатра «Кастрычнік» сабралася чалавек дзвесце са сцягамі, лозунгамі, расцяжкамі.

Сёлета на Дні Волі быў надзіва святочны настрой. Адчувалася, што гэта не проста шараговае шэсце апазіцыі. Людзі сапраўды прыйшлі ствараць атмасферу свята, і гэта ім выдатна ўдалося. Апроч звычайных «Жыве Беларусь!» і іншых, людзі пачалі крэатывіць, ствараць уласныя лозунгі і фішкі. Гэта і паветраныя шарыкі з гербам «Пагоня», і вышыванкі — хто б мог падумаць, што мода на іх, якая пашыраецца ўжо год, так арганічна ўпішацца ў Дзень Волі? Цікавыя лозунгі салідарнасці з Украінай: «Няма бульбы без укропа», альбо «Крым — Украіне, шчасце — краіне!» Хтосьці ж іх выдумаў і напісаў! Прычым, напісаў самастойна.

Збольшага, канешне, удзельнікамі свята была моладзь і сталыя людзі — тыя, каму не трэба быць на працы. Маладзёны перанялі ўкраінскае: «Хто не скача — той маскаль!», каталіся на роварах, спявалі розныя песенькі, і ўвогуле, адцягваліся па поўнай, што надавала толькі святочнасці.

**Збольшага ўдзельнікамі свята была моладзь**

Той крэатыў, які бачны збольшага ў сацыяльных сетках, выліўся на вуліцу. І гэта надало Дню Волі атмасферу сапраўднага свята.

Нягледзячы на складаную сітуацыю ў нашай паўднёвай суседцы, нягледзячы на засяроджанасць на эканоміцы і эканамічных праблемах у Беларусі, падчас шэсця не было пахмурных, заклапочаных твараў. Суцэльны пазітыў. Пазітыўны настрой — гэтым адрозніваўся сёлетні Дзень Волі ад папярэдніх.

Усё ж, нягледзячы на нязручны час, акцыя была даволі масавай, як зазвычай. Журналісты налічылі ад двух да трох тысяч чалавек, што з'яўляецца стандартам для шэсця 25 сакавіка. А калі б яно было ў зручны час?

Святочны настрой зразумелі і арганізатары акцыі. Яны не сталі псаваць яго нейкімі стасункамі з праваахоўнымі органамі. Прынамсі, раней у людзей выклікала асаблівае незадавальненне тое, што на канцэртную пляцоўку плошчы Бангалор трэба было праходзіць праз кардоны міліцыі і турнікеты-металашукальнікі. І ўсё роўна на гэтую пляцоўку не давалі падвозіць гукаўзмацняльную апаратуру, так што выступоўцаў маглі чуваць толькі тыя, хто стаяў ля самай сцэны.

Гісторыя з гукаўзмацняльнай апаратурай зараз паўтарылася — яе не дазволілі. Арганізатары зразумелі марнасць паходу на пляцоўку, таму спынілі ўдзельнікаў шэсця ла ўваходу ў парк Дружбы народаў. Патлумачыўшы, што гукаўзмацнення там не будзе, яны вырашылі праз міліцэйскія турнікеты не ісці, і заклікалі прысутных разыходзіцца святкаваць дадому, з сябрамі, па кавярнях. Варта зазначыць, што рашэнне «не ісці ў загон» было ўспрынята вельмі пазітыўна. Яшчэ праз паўгадзіны пасля таго, як было абвешчана, што шэсце скончана, а мітынгу не будзе, на ўваходзе ў парк купка людзей пад бел-чырвона-белымі сцягамі працягвала спяваць і паміжсобку размаўляць.

Так што арганізатары вельмі слушна зрабілі, калі вырашылі, нягледзячы на перанос часу, усё ж адзначыць Дзень Волі.

Праўда, без затрыманняў усё ж не абышлося. Праваабаронцы паведамлялі як мінімум пра пяцёх затрыманых удзельнікаў свята, адзін з якіх — былы палітвязень Эдуард Лобаў. Яшчэ двух актывістаў з Бабруйска заблакавалі ў машыне супрацоўнікі ДАІ — нібыта ў аўто «парушаная таніроўка».

Але ўсё скончылася добра. Праз пэўны час усіх адпусцілі з пастарункаў без складання адміністрацыйных пратаколаў.

## ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў РЭГІЁНАХ

### ГОМЕЛЬ. Кветкі выбітным землякам

**Гомельскія дэмакраты традыцыйна адзначылі Дзень Волі ўскладаннем кветак на магілы выбітных землякоў.**

У першую чаргу былі ўскладзены кветкі на магілу Цімоха Вострыкава, пахаванага ў вёсцы Раманавічы Гомельскага раёна. У 1952 годзе Цімох Вострыкаў дэсантаваўся ў Беларусі як упаўнаважаны прадстаўнік Рады БНР, быў арыштаваны, смяротнае пакаранне замянілі 20 гадамі зняволення. Пасля вызвалення жыў у Гомелі.

Нават на могілках за дэмакратамі сачылі — паміж помнікаў увесь час «аціраліся» невядомыя ў цывільным. Тыя ж людзі былі заўважаныя на лясных могілках каля вёскі Сцяг Працы, дзе пахаваны Міхаіл Жызнеўскі, які загінуў на Майдане зімой 2014 года. Да магілы героя Нябеснай Сотні былі ўскладзены кветкі, запалены свечкі.

Таксама кветкі былі ўскладзены да месца на вуліцы Дзімітрава ў Гомелі, дзе раней жыла дзеяч БНР Палута Бадунова.

Увечары ўсе жадаючыя былі запрошаны на паэтычны вечар — прэзентацыю кнігі Таісіі Мельчанка. Мерапрыемства прымеркавана да Дня Волі.

.

**spring96.org**

### БРЭСТ. Бюлетэнь, ініцыятыва, кветкі

**Прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) і кампаніі «Гавары праўду» правялі шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да Дня абвяшчэння БНР.**

«Паколькі гэтая знамянальная дата ўладамі ігнаруецца, то галоўны ўпор мы рабілі на асветніцкую і інфармацыйную працу. Намі падрыхтаваны спецыяльны выпуск бюлетэня «За наш горад», які цалкам прысвечаны гісторыі абвяшчэння незалежнасці і бацькам-заснавальнікам БНР, у тым ліку выхадцам з Берасцейшчыны», — распавёў старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі БСДП Ігар Маслоўскі.

Па словах Маслоўскага, сучасная Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) працягвае традыцыі Беларускай сацыялістычнай Грамады (1903–1918). «Так гучыць п. 1.1 Статута нашай партыі. Падрыхтоўка і абвяшчэнне незалежнасці была здзейснена нашымі ідэйнымі папярэднікамі: сацыял-дэмакратамі і сацыялістамі. І першы Урад таксама быў і беларускім і сацыялістычным, а не як імкнуцца некаторыя паднесці — нацыянальна-буржуазным і нейкім іншым», — дадаў палітык.

Адно з месцаў распаўсюджвання інфармацыйнага бюлетэня сацыял-дэмакраты і гаварыпраўдаўцы абралі нездарма — насупраць старога корпуса БрДУ імя Пушкіна. Менавіта тут размяшчалася мужчынская гімназія, у якой вучыўся будучы гісторык, філосаф, дыпламат, прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі, а затым адзін з заснавальнікаў акадэміі навук БССР Аляксандр Цвікевіч.

«Мы накіравалі прапановы мясцовым органам улады і адміністрацыі ўніверсітэта аб размяшчэнні на корпусе ўніверсітэта памятнай дошкі, прысвечанай Аляксандру Цвікевічу. На наш погляд, вуліца ці сквер імя Цвікевіча ў Брэсце сталі б годным знакам павагі нашчадкаў гэтаму легендарнаму берасцейцу», — адзначыў ўдзельнік акцыі Валянцін Лазарэнкаў.

А ў першай палове дня 25 сакавіка прадстаўнікі БСДП і «Гавары праўду» разам з іншымі актывістамі палітычных партый і грамадскасці ўсклалі кветкі да магілы Адама Трыпуса на Трышынскіх могілках.

**Прэс-служба Брэсцкай абласной арганізацыі БСДП**

### БАБРУЙСК. Паштоўкі палітвязням

**Грамадскія актывісты горада традыцыйна павіншавалі палітвязняў з Днём Волі.**

Паштоўкі паляцелі да Міколы Статкевіча, Міколы Дзядка, Ігара Аліневіча, Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенкі і Юрыя Рубцова. Бабруйчане пажадалі вязням вясновага настрою, моцнага здароўя і хутчэйшага вяртання дахаты. Актывісты заклікаюць усіх неабыякавых далучацца да гэтай добрай традыцыі і падтрымліваць палітвязняў паштоўкамі і лістамі не толькі ў святочныя дні.

**spring96.org**

**Пікеты і мітынгі, прысвечаныя Дню Волі, традыцыйна забароненыя ў Віцебску, Гродна, Бярозе, Лідзе і некаторых іншых гарадах. Шмат дзе актывісты наўпрост фатаграфаваліся з кветкамі і размяшчалі свае віншаванні ў сацыяльных сетках.**

# Фатаграфаванне «з птушкамі і клеткамі» — не правапарушэнне

**Віцебскі праваабаронца Павел Левінаў спрабуе дамагчыся, каб удзельнікаў фотасесіі «з птушкамі і клеткамі» перасталі лічыць правапарушальнікамі. Ён таксама быў у ліку тых, каго аштрафавалі за фатаграфаванне.**

Праваабаронца Павел Левінаў перакананы: удзельнікаў фотасесіі, якія з пачатку лістапада сфатаграфаваліся на фоне гарадскога графіці з папяровымі клеткамі і птушкамі ў руках, пакаралі несправядліва:

«10 студзеня я зрабіў, па-сутнасці, тое самае: сфатаграфаваўся каля таго самага будынка на вуліцы Ільінскага. І нават не з птушкамі — з плакатам, на якім было напісана: «Je suis Charlie» («Я — Шарлі») у памяць пра загінулых французскіх карыкатурыстаў. Фотаздымкі трапілі ў інтэрнэт, іх перадрукавалі некалькі сайтаў. Адным словам, усе было дакладна так, як з журналістамі і актывістамі — удзельнікамі фотасесіі з птушкамі і клеткамі. Але мяне ніхто не выклікаў у міліцыю, на мяне не складалі пратаколаў, не судзілі і не аштрафавалі. У чым жа справа? Хіба толькі ў тым, што супрацоўнікам Чыгуначнага РАУС не паступала каманда ад кіраўніцтва абласнога ўпраўлення, каб пакараць тых, чые фота з'явіліся ў інтэрнэце гэтым разам?»

Як кажуць, каб расставіць усе кропкі над «і», Павел Левінаў звярнуўся да начальніка Чыгуначнага РАУС і пісьмова паведаміў, што не падаваў заяўкі на правядзенне акцыі 10 студзеня і тым не менш правёў яе, карыстаючыся сваім канстытуцыйным правам на выказванне ўласных меркаванняў. Праваабаронца просіць патлумачыць, ці было гэта правапарушэннем з пункту гледжання міліцэйскага начальства. І ці ўяўляла гэтая мірная акцыя пагрозу бяспецы, грамадскаму парадку, ці парушала яна правы і свабоды іншых асоб.

Будзе лагічным, гаворыць праваабаронца, калі начальнік райаддзела адкажа, што фатаграфаванне з плакатам «Je suis Charlie» не было правапарушэннем і не несла аніякай шкоды грамадскасці. Тады будзе зразумела, чаму Левінава не прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці гэтым разам. Але паўстане іншае пытанне: за што пакаралі ўдзельнікаў фотасесіі, якія без аніякіх плакатаў, а толькі з папяровымі клеткамі і газетнымі птушкамі-арыгамі сфатаграфаваліся на фоне графіці ў лістападзе мінулага года.

Дарэчы, Павел Левінаў прапануе паўтарыць фотасесію. Паколькі фотасесія — гэта не пікетаванне, не мітынг і не сход, ён вырашыў лічыць яе перформансам, і менавіта на правядзенне гэткага мастацкага акту папрасіць дазвол у адміністрацыі Чыгуначнага раёна.

«Калі мне адкажуць, што правядзенне перформансаў не падлягае пад дзеянне закону аб масавых мерапрыемствах, то ранейшае пытанне паўстане рубам: за што ж у такім выпадку пакаралі сямёра чалавек, якія фатаграфаваліся каля будынка з графіці ў мінулым лістападзе», — гаворыць праваабаронца.

**spring96.org**

# Калі будзе ўкраінскі канал?

**Перамовы аб пачатку вяшчання ўкраінскага канала ў Беларусі працягваюцца, паведаміў беларускі пасол у Кіеве Валянцін Вялічка ў інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву «Украинские новости» (тэкст размешчаны на сайце МЗС Беларусі).**

«Праца працягваецца. Гэты праект патрабуе ўзважанасці. Трэба вырашыць пытанне з фінансаваннем. У жыцці ёсць такі тэзіс: калі ты зробіш штосьці хутка, але няякасна, усе забудуць, што ты зрабіў хутка, але калі ты зробіш паволі, аднак якасна, усе забудуць, што ты зрабіў гэта паволі. Так, мы вельмі хочам рэалізаваць гэты праект, але ад жадання да рэалізацыі заўсёды ёсць нейкі прамежак часу, які патрабуе дэталізацыі», — сказаў Вялічка.

Пра арганізацыю вяшчання ўкраінскага канала («Первый национальный») дамовіліся ў канцы мінулага года прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка і яго беларускі калега Аляксандр Лукашэнка.

«Мы даўно казалі пра тое, што беларусы маюць права ведаць розныя пункты гледжання, і было б някепска, калі б адзін з інфармацыйных каналаў Украіны меў магчымасць трансляваца на тэрыторыі Беларусі», — сказаў украінскі кіраўнік.

Чакалася, што канал пачне вяшчанне ў студзені.

**БелаПАН**

# Мікалай Статкевіч не спадзяецца на хуткае вызваленне

**Палітвязень Мікалай Статкевіч, апошні з кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, які застаецца за кратамі, не спадзяецца на сваё хуткае вызваленне.**

У лісце да бялыніцкага журналіста Барыса Вырвіча палітвязень, які зараз адбывае пакаранне ў Шклоўскай ПК №17, адзначае «чарговае абвастрэнне, і тэндэнцыі выглядаюць супрацьлеглымі. Але ж — не прывыкаць».

Барыс Вырвіч атрымаў ліст 24 сакавіка, які палітвязень даслаў з ПК-17 12 сакавіка.

Са станоўчых момантаў Мікалай Статкевіч адзначае тое, што з пачатку сакавіка ён нарэшце пачаў атрымліваць асноўныя дэмакратычныя газеты, і зараз у яго ёсць доступ да альтэрнатыўнай інфармацыі. Палітвязень трымаецца вельмі мужна, з гумарам выказвае свае меркаванні, хоць з ліста добра зразумела, што ціск на яго з боку адміністрацыі калоніі пастаянна павялічваецца.

Таксама Мікалай Статкевіч у лісце робіць аналіз існуючай сітуацыі ў дэмакратычным асяроддзі краіны і ў чарговы раз выказвае меркаванне, што «ў любым выпадку аб'яднанне дэмсілаў неабходнае, каб хаця б аднавіць сваю суб'ектнасць на палітычным полі. Бо шмат ад будучай кампаніі ў такіх знешнепалітычных варунках чакаць цяжка».

Нагадаем, што Мікалай Статкевіч быў узяты пад варту пасля падзей на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску 19 лютага 2010 года. У траўні 2011 года быў асуджаны судом Ленінскага раёна г. Мінска да шасці гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і ўзброеным супраціўлам прадстаўнікам улады). Рашэннем суда ад 12 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, Мікалай Статкевіч быў пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 Магілёва. 12 студзеня 2015 года палітвязень быў зноў этапаваны для далейшага адбыцця пакарання ў шклоўскую папраўчую калонію №17.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Бог казаў, каб ты дапамог…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Калісьці Лукашэнка папярэджваў Пуціна, што беларускія інтарэсы ва Украіне яму даражэйшыя за расійскія. І спраўджвае гэтыя словы.**




Беларусь і Украіна маюць намер умацоўваць эканамічнае супрацоўніцтва і ўстараняць бар'еры ва ўзаемным гандлі, паведаміла ў панядзелак прэс-служба беларускага МЗС па выніках праведзеных ва ўкраінскай сталіцы двухбаковых кансультацый.

«Бакі дамовіліся ўмацоўваць двухбаковае эканамічнае супрацоўніцтва, усяляк спрыяць развіццю ўзаемнага гандлю, пашыраць пастаўкі на рынкі дзвюх краін прадукцыі беларускіх і ўкраінскіх вытворцаў», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы. Па выніках сустрэчы было прынята сумеснае рашэнне прадоўжыць актыўную працу па знясці бар'ераў і абмежаванняў ва ўзаемным гандлі, стварэнню спрыяльных умоў для шматпланавага супрацоўніцтва дзелавых колаў Беларусі і Украіны.

Што стаіць за пратакольнымі словамі? За імі стаіць вызнанне Беларусі — ніякая асацыяцыя Украіны з ЕС не перашкаджае нашаму супрацоўніцтву, што б там ні казалі ў Крамлі. Мы маем намер спыняць усялякія «гандлёвыя скандалы» з цукеркамі і півам з нашага боку, і запалкамі і трубапракатам з украінскага. І працягваем супрацоўніцтва.

Варта зазначыць ва ўзаемным гандлі адну пазіцыю. Аб'ём экспарту нафтапрадуктаў з Беларусі ва Украіну ў 2014 годзе склаў амаль два з паловай мільёны долараў — гэта на 10,9% больш, чым у 2013-м, і чвэрць выручкі ад продажу ўсіх нафтапрадуктаў ва ўсе краіны свету. Беларусь стала найбуйнейшым, а з лістапада — адзіным пастаўшчыком авіяцыйнага паліва ў Украіну. Пастаўкі авіяпаліва з Беларусі ў студзені-лістападзе выраслі на 76%. У гэтым годзе толькі за студзень мы паставілі Украіне 235 тысяч тон нафтапрадуктаў, тады як Расіі — 102 тысяч тон.

А гэта азначае, што мы наўпрост змагаемся з сепаратыстамі ў зоне АТА пад Данецкам. На нашым паліве ездзяць украінскія танкі і бронемашыны, і мы запраўляем украінскія самалёты.

Дарэчы, там жа ездзяць і наша тэхніка. У інтэрнэце прайшла навіна, што беларусы на Данбасе атрымалі ад валанцёраў новы аўтамабіль для АТА. Машына пад назвай «Булат» ужо прайшла баявую абкатку.

Асабліва прыемна, што мы дапамагаем Украіне, калі нам самім нялёгка. Прынамсі, «заробак у 500 долараў па краіне» ўжо скончыўся.

Згодна з дадзенымі Белстата, у лютым сярэдні заробак у Беларусі ледзь перавысіў 400 долараў. Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў Рэспублікі Беларусь у студзені-лютым 2015 года склала 6 мільёнаў 69 тысяч рублёў. Рэальная ж заработная плата (зарплата, разлічаная з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі) у студзені-лютым 2015 года ў параўнанні са студзенем-лютым 2014-га зменшылася на 3,2%.

Тут бы беларускаму кіраўніцтву і час задумацца, што б такое новае стварыць, каб яно добра

**Згодна з дадзенымі Белстата, у лютым сярэдні заробак у Беларусі ледзь перавысіў 400 долараў, або 6 мільёнаў 69 тысяч рублёў**

прадавалася, і людзі занятыя былі. Аднак ні пра што такое прыемнае яно не думае. Наадварот, прэм'ер-міністр Кабякоў заняўся тым, што абяцаў Аляксандр Лукашэнка яшчэ 20 гадоў таму, у 1994-м годзе — «запускае заводы». Прэм'ер запатрабаваў ад канцэрна «Беллегпрам» і падведамных яму прадпрыемстваў вярнуць айчынны рынак.

«Уласны рынак лёгкая прамысловасць Беларусі аддала нашым партнёрам, суседзям і вельмі далёкім ад нас краінам. Нягледзячы на тое, што ў іх такая няпростая лагістыка, тым не менш, яны з'яўляюцца дастаткова канкурэнтнымі», — канстатаваў прэм'ер на пасяджэнні Саўміна РБ. «Заўсёды трэба думаць пра тое, як прадаваць там, дзе ты непасрэдна вырабляеш. Калі не зможаш працаваць у сябе, то, натуральна, вынік на знешніх рынках не будзе лепшым», — падкрэсліў Кабякоў.

А як прадаць на ўнутраным рынку? Не ведаю, колькі спецыялісты канцэрна чухалі патыліцу, але вырашылі звярнуцца па дапамогу да тых, каго яны «душылі-душылі» і абзывалі несумленнымі канкурэнтамі.

«Мы запрашаем індывідуальных прадпрымальнікаў за круглы стол, хацелі б правесці нармальны дыялог. Тут пазіцыя павінна быць узаемнай павагі і разумення, што ў кожнага свой бізнес», — адзначыў Яфімчык. На яго думку, дзейнасць усіх удзельнікаў рынку павінна быць празрыстай, ні ў каго з іх не павінна быць асаблівых пераваг. «Усе павінны быць у роўных умовах, і я думаю, што мы знойдзем агульную мову, калі людзі будуць хацець гэта зрабіць», — падкрэсліў старшыня канцэрна Мікалай Яфімчык пасля цырымоніі адкрыцця XXXVI Міжнароднай выставы-кірмашу «БелТЭКСлегпрам. Вясна».

Яфімчык канстатаваў, што многія прадпрымальнікі, асабліва сярэдні і буйны бізнес, згодныя з неабходнасцю рэалізацыі на тэрыторыі Беларусі толькі тых тавараў лёгкай прамысловасці, якасць якіх адпавядае тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза. «Яны згодныя, таму што нельга ўвозіць і прадаваць нашаму народу тое, што не адпавядае разуменню нармальнага тавару», — адзначыў ён.

Пакуль што «разуменню нармальнага тавару» не адпавядае менавіта прадукцыя канцэрну «Беллегпрам». Яна ўжо даўно асацыюецца ў пакупніка з фразай «дрэнная якасць за шалёныя грошы». А калі няма якасці, ніякія «роўныя ўмовы» не дапамогуць.

На заканчэнне, як заўсёды, добрая навіна. Аб'явы і навіны на сайтах некаторых мінскіх школ сталі пісаць толькі па-беларуску. Як распавяла Радыё «Свабода» адна з настаўніц, дырэктар школы загадала пісаць усе навіны і паведамленні на сайце толькі па-беларуску. Журналісты знайшлі, зменшага, шэсць школ, дзе ўжо больш за тыдзень навіны школы публікуюцца на беларускай мове.

Ва ўпраўленні адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Фрунзенскага раёна не пацвердзілі інфармацыі аб беларусізацыі сайтаў школ. «Такога загаду не было і не можа быць, — распавяла начальнік упраўлення Ірына Чарняўская. — У нас дзве дзяржаўныя мовы — руская і беларуская». Але такую ініцыятыву можна толькі вітаць.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

## Максім Ермаловіч



**Першы намеснік міністра фінансаў Беларусі — надзвычайны аптыміст.**

Максім Ермаловіч адзначыў як «высокую» верагоднасць пачатку новай праграмы супрацоўніцтва Беларусі і Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) і вылучэння крэдыту.

Па словах чыноўніка, ацэнка цяперашняй эканамічнай сітуацыі ў Беларусі экспертамі МВФ у прынцыпе супадае з ацэнкай урада. «Яны ў цэлым падтрымліваюць тую палітыку, якую рэалізуе ўрад», — сказаў намеснік кіраўніка Мінфіна ў інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь 1».

Але, як паведамлялася, па выніках працы місіі МВФ было сказана, што для новай праграмы з МВФ «па-ранейшаму патрабуецца сур'ёзны намер, выказаны на самым высокім узроўні, рэалізаваць комплексны пакет глыбокіх структурных рэформаў і паслядоўнай макраэканамічнай палітыкі, якія мог бы быць падтрыманы Выканаўчым саветам МВФ». Гэты пакет павінен уключаць «у поўнай меры гнуткі абменны курс, жорсткую макраэканамічную палітыку і смелыя структурныя рэформы з канцэнтрацыяй асноўных намаганняў на пачатковым этапе».

Да «смелых структурных рэформаў» мы наўрад ці дарaслі.

## Мікалай Дзядок



**Палітвязень з магілёўскай турмы №4 даслаў адкрыты ліст з заклікам скасаваць 411-ы артыкул КК, які прадугледжвае адказнасць за непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы.**

Дзядок зазначае, што сам ён быў пакараны гэтым артыкулам на дадатковы год зняволення ўжо тады, калі фактычна адседзеў выданы яму першапачатковы тэрмін у чатыры з паловай гады зняволення. «У чым жа складалася маё «злачынства»? У 16-ці дысцыплінарных парушэннях, у прыватнасці: нашэнне спартыўнага касцюма, перамовы з суседнімі камерамі і хаджэнне па камеры пасля 22 гадзін. За кожнае з гэтых парушэнняў я ўжо быў пакараны ў дысцыплінарным парадку», — заўважае Дзядок.

Па яго меркаванні, не павінна быць крымінальнага пераследу «за нашэнне ці не нашэнне прадмета адзення, за размову з суседам па камеры».

Дзядок прыводзіць прыклады, за што да ўжо зняволенага могуць прымяніць чарговае крымінальнае пакаранне: «нягаленасць, бруднае адзенне ці абутак, не зашпілены гузік на каўняры, няправільна павітаўся ці не павітаўся з прадстаўніком адміністрацыі, не ўстаў у яго прысутнасці». «Нярэдка акты аб парушэннях проста фальсіфікуюцца, і паспрабуй потым дакажы, што твой абутак у рэчаіснасці быў чысты! Колькі разоў я назіраў прымяненне артыкула 411 КК, і заўсёды яно было помстай асуджанаму за адстойванне сваіх правоў», — піша ён.

«Таму звяртаюся да міжнародных і беларускіх праваабарончых структураў, да ўсіх зацікаўленых у захаванні правоў чалавека міжнародных арганізацый і да ўсіх неабыякавых людзей зрабіць усё магчымае для адмены артыкула 411 КК», — зклікае Дзядок.



## Дар'я Домрачава

**Беларуская біятланістка заваявала Вялікі крыштальны глобус.**

Апошнім пунктам праграмы ў расійскім Ханты-Мансійску быў жаночы масстарт, дзе вырашаўся пераможца агульнага заліку. На Вялікі крыштальны глобус прэтэндавалі Дар'я Домрачава і фінка Кайса Макарайнэн.

Пытанне, у каго нервы будуць мацнейшыя, захоўвалася да апошняга старту. Разрыў паміж канкурэнткамі быў неістотны, і кожная асечка магла стаць вырашальнай. Але Макарайнэн надзвычай дрэнна страляла і, нягледзячы на два штрафныя кругі Домрачавай, адказала яшчэ горшай стралковай падрыхтоўкай.

У выніку на фініш беларуска прыйшла чацвёртай, а фінка — толькі трынаццатай. Домрачава апярэдзіла фінку на 48 балаў — 1092 супраць 1044.

# Хунта будзе, калі…



Зміцер ГАЛКО

**Пакуль расійскія войскі на Данбасе прыпынілі наступ, ёсць магчымасць паразважаць пра тое, што чакае Украіну. Гэта залежыць не толькі ад сітуацыі на фронце. Ва ўкраінскім грамадстве спеюць абсалютна розныя варыянты будучыні.**

## Выхаванне вайной

Руслан Тамбіеў, доктар-афтальмолаг з Марыупаля, прасіў сваіх сяброў адказаць на такое пытанне: «Што выхоўвае ў нас вайна?». Многія знайшлі нешта станоўчае ў драматычных падзеях у краіне. Казалі пра «адчуванне крохкасці свету», «разуменне, што няма нічога немагчымага», «імкненне жыць свядома ўжо сёння, а не калі-небудзь потым», «здольнасць хутка прымаць рашэнні — спачатку рабіць, потым баяцца» і «бескарыслівае жаданне дапамагаць тым, хто мае ў гэтым патрэбу». Разам з тым іншыя называлі «цынізм», «нянавісць», «недавер да людзей» і да т. п.

З праявамі такога выхавання вайной я асабіста сутыкаўся неаднойчы. У сваім бескарыслівым жаданні дапамагчы, напрыклад, украінцы маглі б прэтэндаваць на прызавое месца сярод народаў свету. Часам іх нават даводзіцца стрымліваць. Апроч таго, што разам з калегам мы дзесяць дзён жылі бясплатна ў трохпакаёвай кватэры, куды нас пасяліла Галіна Флора, жанчына прынесла нам каву, калі мы пажаліліся ёй, што недзе забылі сваю, спрабавала накарміць, аддаць свой тэлефон для падключэння да інтэрнэту і наогул абыходзілася з намі як з самымі дарагімі гасцямі. «Я не магу пайсці на фронт, таму імкнуся зрабіць хоць што-небудзь», — проста тлумачыць Галіна.

У мінулым артыкуле я згадваў Тамару, да вайны яна выхоўвала свайго сына, Уладзіка, адна. Бацька, Сяргей, хіба што зрэдзьчасу цікавіўся яго лёсам. Але вайна прымусіла яго перамяніцца, кажа Тамара. Сяргей пачаў бываць у іхнай хатцы значна часцей і шмат ім дапамагаць. «Раней было не да таго, я нават асабліва не задумваўся, здавалася, што ёсць больш важныя справы», — гаворыць ён.

Адначасова з падобнымі людзьмі сустракаеш іншых — гатовых «перастраляць іх усіх да аднаго». Каго перастраляць? Дэпутатаў Вярхоўнай Рады, напрыклад. Ці тых, што патрабуюць «саджаць палонных у клеткі і паказваць на плошчах». Або нават «жорстка катаваць, каб непанадна было да нас ехаць». Час ад часу ловіш на сабе косы позірк спадылба, калі гаворыш, што ты беларус, быў на акупаваных тэрыторыях, і наогул калі раптам спытаеш нешта «лішняе».

Робіць сваю справу і расійская інфармацыйная агрэсія. Падчас гэтай паездкі я ўжо сустракаў нямала гарачых маладых людзей, якія ідэнтыфікавалі сябе, не вагаючыся, як «фашыстаў». Логіка тут працуе вельмі простая: калі наш вораг называе нас такім чынам, маючы на ўвазе нешта кепскае, а ён вядомы сваёй хлуслівасцю, верагодна, быць «фашыстамі» насамрэч крута і правільна. Вось і будзем імі, хай яны там задушацца ад злосці.

## Самае страшнае, што можа адбыцца з Украінай

Гэтую тэндэнцыю Руслан Тамбіеў лічыць навязанай «ролевай гульнёй», якую ён заклікае не ўспрымаць усур'ёз. Аднак яго ўсё-ткі хвалюе распаўсюджванне ў грамадстве «вірусу фанатызму». Фанатызм, кажа Руслан, цягне за сабой збіванне ў зграі, дзяленне на «сваіх» і «чужых», з'яўленне догматаў, якія не абмяркоўваюцца, і «святарных кароваў», якіх не дазваляецца чапаць, мысленне лозунгамі. Руслан бачыць у гэтым поўную супрацьлегласць першапачатковаму Майдану — адкрытаму форуму, цякучаму, стракатаму і жывому, які меўся стаць матрыцай адкрытага грамадства. Самае страшнае, на думку Руслана, што можа адбыцца з Украінай, — гэта яе прыпадабненне да Расіі. Няхай тут будзе не «праваслаўны халіфат», як там, штосьці іншае, на падмурку бяздумнага фанатызму пры любым напаўненні нічога добрага не збудуеш. Фанатызм драпежны, таму шукае ахвяраў — вінаватых ва ўсіх бедах. Фанатызм сілкуецца нянавісцю і сам памнажае яе.

«Няма сілаў назіраць, як людзі выхоўваюць у сабе нянавісць. Навокал занадта шмат стала МЫ і ЯНЫ, якія занадта часта ўжываюць замест Я і ЁН (ЯНА). Гэта палягчае фарміраванне спіралі гвалту», — гаворыць Руслан.

У прыватнасці, Руслан з асцярогай чакае, што правілы ва Украіне хутка пачнуць усталёўваць узброеныя людзі, незадаволеныя цяперашнім кіраўніцтвам краіны, схільныя да простых і хуткіх рашэнняў, і наогул да спрашчэння рэчаіснасці. Ён пабойваецца, што з выдумкі расійскай прапаганды «хунта» ператворыцца ў наяўны факт.

## Мы не грэчкасеі і салаеды

Арцём — якраз адзін з тых, каго пабойваецца Руслан. Калісьці праз незадаволенасць вышэйшым і непасрэдным кіраўніцтвам ён сышоў з тады яшчэ добраахвотніцкага батальёну «Азоў». І не збіраўся вяртацца на фронт. Але не вытрымаў мірнага жыцця, вярнуўся, хоць і ў іншае вайсковае фарміраванне. Цяпер гэта сапраўдны «чалавек вайны», якога не пужае перспектыва поўнамаштабнага ўварвання расійскай арміі. Наадварот, яна нават вабіць яго. Бо тады, гаворыць ён, «вайна стане сапраўды народнай». Гэта значыць, весці рэй у ёй будуць адданыя вайне людзі — добраахвотнікі.



Былы баец «Азову» Арцём

> Мы былі грэчкасеямі і салаедамі, але вы абудзілі ў нас раз'ятранага дзікага звера. Пільнуйцеся цяпер, да ранейшага стану мы ўжо не вернемся



Руслан Тамбіеў



Максім Барадзін

Адказнымі за паразы на франтах Арцём лічыць сённяшняе кіраўніцтва Украіны. «Калі б не яны, добраахвотнікі яшчэ ўлетку мінулага года былі б у Растове, настолькі моцным быў энтузіязм. Нас улады баяліся болей за Расію, таму яны мэтанакіравана душылі добраахвотнікаў і дамагліся свайго», — сцвярджае Арцём.

Ён упэўнены ў выніковай перамозе над Расіяй, але для яго гэта ўжо не канчатковая мэта. Арцём марыць аб тым, што ўкраінскі Майдан стане новай Вялікай французскай рэвалюцыяй, Украіна з аб'екта сусветнай палітыкі ператворыцца ў суб'екта і экспартуе рэвалюцыю ў Еўропу.

«Мы былі грэчкасеямі і салаедамі, але вы абудзілі ў нас раз'ятранага дзікага звера. Пільнуйцеся цяпер, да ранейшага стану мы ўжо не вернемся», — гаворыць Арцём.

## Украінскімі сцягамі ўсе дзіркі не заткнуць

Тое, чаго прагне Руслан, амаль немагчыма ва ўмовах баявых дзеянняў. Планы Арцёма, хаця гэта вельмі моцны і валявы чалавек, пакуль выглядаюць фантастычнымі. Але ў выпадку далейшага працягу вайны, пагатоў паўнамаштабнага ўварвання Расіі, Арцём мае значна болей шанцаў на тое, каб павесці за сабой украінскае грамадства. І чым болей няўцямныя будуць дзеянні ўкраінскіх уладаў, тым болей у яго шанцаў. Бо калі вайна зробіцца ўсёабдымнай, «хунта», то бок вайсковая дыктатура, стане выглядаць аптымальным тыпам кіравання.

Паводле Максіма Барадзіна, актывіста экалагічнага руху Марыупаля, для таго, каб гэтага не здарылася, улады на месцах мусяць перастаць займацца імітацыяй патрыятычнай дзейнасці. Максім выступіў супраць ініцыятывы гарадской адміністрацыі зладзіць штодзённае прайграванне ўкраінскага гімну ў цэнтры Марыупаля. Ён лічыць гэта марнаваннем грошай і таннай спробай адміністрацыі падмазацца да цэнтральных уладаў.

«Украінскімі сцягамі ўсе дзіркі не заткнеш, а гімнам усе незадаволеныя галасы не заглушыш. Сапраўды патрыятычным дзеяннем зараз будзе наладжванне жыцця. Зрэшты, чыноўнік так уладкаваны, што пакуль яго не пхнуць, ён нармальна не запрацуе. Таму грамадства мусіць больш актыўна яго штурхаць, не даваць заснуць ці заняцца сваёй улюбёнай актыўнасцю — імітацыяй карыснай дзейнасці», — кажа Максім.

Калі ж чыноўнікі таго не зразумеюць, падобна на тое, што ва Украіне насамрэч можа з'явіцца хунта. Тая ці іншая…



# З дыпламатаў у маркетолагі

Заканчэнне. Пачатак у №11

Мікалай АНІШЧАНКА

Рэгіён:
## Лацінская Амерыка
Ключавыя партнёры:
## Венесуэла



**Ключ да поспеху: Уга Чавес**

Краіны Лацінскай Амерыкі можна ўмоўна падзяліць на дзве групы: хаўруснікаў ЗША, дзе Беларусі, вядома, нічога не свеціць, і ўсіх іншых, дзе Мінск спрабаваў атрымаць дывідэнды.

Апошнія прадстаўлены, збольшага, левымі рэжымамі рознай ступені адыёзнасці. Добрая навіна для Беларусі — шматлікія праекты сацыяльна-эканамічнага развіцця ў гэтых краінах маюць патрэбу ў іншаземнай дапамозе, і беларускія тэхналогіі і спецыялісты падаюцца для іх някепскім варыянтам па параметры «цана/якасць». Дрэнная навіна — тавары пастаўляць туды дужа далёка, дый заплаціць за іх урады не заўсёды могуць.

Відавочна, што Мінск з самага пачатку арыентаваўся ў рэгіёне на плацежаздольных партнёраў: у гады дарагой нафты тое была, перш-наперш, нафтаносная Венесуэла.

«Тыя рэчы, якія рабіліся ў Венесуэле, — можа, многія з іх былі і сумнеўныя па якасці, — але, тым не менш, яны далі добры прыбытак. Гэта было ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва. Мы паказалі, што можам працаваць у такіх умовах. Бо вылезці са свайго ўсходнееўрапейскага хутара і зрабіць нешта на іншым канцы свету — гэта не так проста», — робіць камплімент беларускай дыпламатыі аналітык Цэнтра Астрагорскага Сяргей Богдан.

Паводле яго, многія рэчы, якія там рабіліся, працягваюць працаваць — да прыкладу, венесуэльская нацыянальная сістэма супрацьпаветранай абароны, у праектаванні і стварэнні якой Беларусь брала пэўны ўдзел. «Да праекту, вядома, спрычыніліся яшчэ Расія і Кітай, але беларускія спецыялісты там адыгралі вялікую ролю, былі каардынатарамі. Гэта рэч, якую мы зрабілі, і яна працуе на наш імідж. У гэтым сэнсе тое, што рабілася ў Венесуэле, — істотна».

Аднак пасля смерці Уга Чавеса маштаб супрацоўніцтва з Венесуэлай сур'ёзна змяншыўся. Істотна адбілася гэтая падзея і на кантактах з іншымі краінамі рэгіёну. «Забуксавалі справы ў Балівіі — там нешта не склалася. Спадзяванні на яе былі вялікія, бо ў Балівіі можна рабіць шмат з таго, што рабілася ў Венесуэле, таму што патрэбы сацыяльна-эканамічнага развіцця ў абедзвюх краінах крыху падобныя. Справа, канешне, яшчэ і ў тым, што краіна вельмі аддаленая ад Беларусі. Тым больш, гэта краіна сухаземная — таму наўпрост марскім транспартам яе не дасягнеш».

Замарудзілася праца і ў Нікарагуа. Там, паводле эксперта, ёсць яшчэ адна вялікая праблема: абмежаваныя фінансавыя магчымасці.

Паступова прасоўваецца праца з Эквадорам — Богдан кажа пра станоўчую тэндэнцыю на гэтым напрамку.

Амаль не прысутнічаюць беларускія тавары ў дзвюх найбуйнейшых дзяржавах рэгіёну — Бразіліі і Аргенціне. У 200-мільённую Бразілію Беларусь заўсёды пастаўляла калійныя ўгнаенні — але, паводле Богдана, «калій прадаць — не надта вялікае дасягненне». Прадаць прадукцыю машынабудавання туды пакуль не асабліва ўдаецца.

Аргенціну эксперт лічыць адным з вялікіх беларускіх правалаў. «Не ведаю, якому бліскучаму розуму прыйшло ў галаву адкрыць там амбасаду, бо ніякіх перадумоваў для таго, каб паспяхова развярнуцца, там не існавала. Маглі быць спадзяванні на тое, што праз кантакты на левай глебе — з Чавесам і Фідэлем — мы маглі б супрацоўнічаць таксама з левым урадам Аргенціны. Але левыя Аргенціны моцна адрозніваюцца ад левых на поўначы кантынента. Урэшце, мы там разгарнулі амбасаду, якая паспяхова напрацавала вялізнае адмоўнае сальда знешняга гандлю».

Рэгіён: **Афрыка**
Ключавыя партнёры: **Лівія, Егіпет (да рэвалюцыйных падзей); Эфіопія, блок краінаў на поўдзень ад Сахары, Зімбабвэ**

**Прэзідэнт моцна пакрыўдзіўся**

Арабская вясна спарадзіла няпэўнасць адносна будучыні Егіпта, Лівіі і іншых партнёраў Беларусі ў рэгіёне. Услед за гэтым прыярытэты Мінска змясціліся на поўдзень ад Сахары.

Апошняя аптымізацыя дыпламатычных прадстаўніцтваў нашай краіны добра прайшлася па афрыканскім кантыненце: дзе-нідзе штат амбасадаў быў скарачаны, а ў шэрагу краінаў яны былі адкрытыя. Самая істотная падзея тут, на думку Богдана, — адкрыццё амбасадаў Беларусі ў Нігерыі і Эфіопіі.

Нігерыя — найвялікшая, і да таго ж нафтаносная краіна кантыненту — мае пэўныя праблемы з бяспекай з-за міжрэлігійнага супрацьстаяння (палова насельніцтва — хрысціяне, а палова — мусульмане) і дзейнасці тэрарыстычнай групоўкі «Бока харам». Але, лічыць аналітык, на афрыканскім тле сітуацыя ў Нігерыі яшчэ не самая горшая.

Што да Эфіопіі, то гэта таксама вялікая краіна, якая можа быць для Беларусі перспектыўным рынкам збыту. Што яшчэ важна — гэта былы хаўруснік Савецкага Саюза, а значыць, там ёсць «нашы савецкія людзі», якія ведаюць рускую мову і маюць уяўленне пра нашы тэхнічныя стандарты. Гандляваць з такімі краінамі заўсёды нашмат прасцей, заўважае суразмоўца «Новага часу».

Яшчэ адзін важны момант: у сталіцы Эфіопіі Адыс-Абебе знаходзіцца штаб-кватэра Афрыканскага Саюза. Таму беларускія ўлады, магчыма, разлічваюць на паступовае наладжванне кантактаў з многімі новымі для нас афрыканскімі дзяржавамі праз тамтэйшую амбасаду.

Сяргей Богдан зазначае, што на Эфіопію ў афіцыйнага Мінску былі вялікія планы яшчэ шмат гадоў таму. «У сярэдзіне 2000-х гадоў у нас з Эфіопіяй пачало нешта складвацца. Але пасля на навучанне прылацелі эфіопскія лётчыкі, якія праз пэўны час дружна папрасілі палітычны прытулак у Беларусі. Нашы ім адказалі, што прытулку не будзе. Тады Адыс-Абеба ветліва папрасіла іх вярнуць назад, а ўлады Беларусі іх выпусцілі з краіны — то бок, проста іх не злавілі. Вы самі разумееце, што з магчымасцямі нашых сілавікоў і спецслужбаў вылавіць пэўных людзей у Беларусі, тым больш тых, хто мае пэўныя паўднёвыя асаблівасці, праблемы не ўяўляе, — кажа Богдан. — Гэта быў скандал. Кіраўнік Эфіопіі страшэнна на гэта пакрыўдзіўся, і на гэтым тады ўсё фактычна скончылася. Гэта ўсё завісла, пакуль у 2012 годзе ён не памёр. Тады зноўку пачаліся спробы намацаць нейкую глебу. І яны ўжо прывялі да адкрыцця амбасады».

**Праблема застаецца**

«Насамрэч, беларуская дыпламатыя нашмат больш рафінаваная, чым часам здаецца, — гаворыць Богдан. — Калі яна адначасова можа працаваць з Арменіяй і Азербайджанам, з Ізраілем і Іранам, з Сірыяй і Турэччынай — гэта вельмі няпроста; гэта азначае, што пэўны ўзровень ужо ёсць».

Ён звяртае асаблівую ўвагу на тое, што афіцыйны Мінск у сваёй супрацы з радыкальнымі рэжымамі дзейнічае вельмі асцярожна — і даўно перастаў адкрыта кідаць выклік Захаду.



«Апошнім такім выклікам быў Садам. Зараз такіх фокусаў, ці таго, што было з Югаславіяй пры Мілошавічы, ніхто не наважыцца рабіць, — гаворыць эксперт. — Прынамсі, афіцыйны Мінск узнавіў супрацу з шыцкімі краінамі толькі пасля таго, як ступень рызыкоўнасці знізілася. Яшчэ некалькі гадоў таму, калі пачыналася вайна ў Сірыі, Беларусь магла прадаць Дамаску шмат зброі, і Тэгеран заплаціў бы за ўсё гэта. Але, колькі б Мінск ні абвінавачвалі, дагэтуль аніводнага доказу беларускіх паставак зброі ў Сірыю не было знойдзена — у адрозненне, напрыклад, ад украінскіх. Відавочна, што Мінск стараўся не рызыкаваць, не дапускаць таго, каб нейкія такія пастаўкі былі знойдзены».

Рэвалюцыйныя падзеі ў шматлікіх краінах — партнёрах Беларусі, а таксама ўваход амерыканцаў у Ірак паставілі крыж на многіх айчынных праектах. Пасля гэтага ў МЗС пачухалі патыліцу і ператасавалі многія амбасады. «Асноўныя рэгіёны, дзе можна штосьці рабіць, зараз закрытыя», — кажа аналітык.

Ён прызнае, аднак, што і да гэтых падзей у тых рэгіёнах з продажам беларускай прадукцыі часам былі зусім не знешнія праблемы, а звязаныя са здольнасцямі канкрэтных прадаўцоў. «Якую б тыя краіны патрэбу ні мелі, без нармальнага маркетынгу, сервісу вы нічога не прадасце».

Аналітык прыводзіць інтэрв'ю са старшынёй гандлёва-прамысловай палаты іранскай правінцыі Казвін, якое выйшла на інфармацыйнай стужцы агенцтва «Fars» з год таму. У ім іранскі чыноўнік сярэдняй рукі расказвае, што ў ягоны рэгіён прыязджала афіцыйная беларуская дэлегацыя, але дасягнутыя дамоўленасці па супрацоўніцтве не выконваюцца.

«Паслаць дэлегацыю, ажыццявіць афіцыйны кантакт — адна справа. Зусім іншая — разгарнуць сетку гандлю, сэрвісу. Дагэтуль ёсць праблема ў тым, каб кіраванне гэтымі працэсамі ажыццяўлялася на прыстойным узроўні», — кажа Богдан.

Ва ўсіх узгаданых рэгіёнах Мінск спрабуе прымяніць даўнюю тактыку: прыцягваць нейкую краіну ў свеце, каб яна фінансавала беларускія праекты ў трэціх краінах. «Яшчэ напрыканцы 1990-х гадоў яны спрабавалі пастаўляць МАЗы, іншую тэхніку ў Судан за грошы Саудаўскай Аравіі. Я так разумею, што па Афрыцы былі спадзяванні, што заможныя арабскія краіны, суніцкія манархіі, ажыццяўляючы сваю гуманітарную палітыку ў Афрыцы, будуць карыстацца таварамі і паслугамі Мінску. Ці гэта спрацавала — не ведаю. Зараз, відавочна, спрабуюць з Сірыяй за іранскія грошы. Цікава, ці атрымаецца гэта».

Пабачыць, хто плаціць за беларускія прадукцыю ды паслугі, можна толькі па ўскосных прыкметах: «Калі гэта ёсць, то беларуская прадукцыя пастаўляецца пад нейкія лёгкія ўмовы, без перадаплаты і гэтак далей. Гэтак, як мы паставілі 100 аўтобусаў на Кубу. Калі б Чавес не паабяцаў аплаціць, то ніхто б іх туды не пастаўляў», — мяркуе аналітык.

Разглядаючы ўсе пералічаныя напрамкі для супрацы як перспектыўныя, Богдан заўважае, што пры ўсіх пазітыўных прагнозах і дынаміцы закрыць за кошт пералічаных рэгіёнаў велізарныя дзіркі ў беларускім бюджэце будзе немагчыма.

**Цалкам артыкул чытайце на нашым сайце novychas.info**

**Надзея на адраджэнне нацыі прыйдзе з захаду Беларусі — вось такія нечаканыя высновы я зрабіла пасля наведвання Смаргоні, дзе 21–22 сакавіка праходзіў рэгіянальны фестываль «Чароўны свет батлейкі».**






Малыя акторы батлеечнага тэатру са Смаргоні



Батлейка Наталлі і Васіля Пяўцоў

# Смаргонь, батлейка, адраджэнне

Ганна МЫЗЕНКА

Буйныя прадпрыемствы, часоў СССР у Смаргоні выкарыстоўваюцца не болей, чым на трэціну. Затое своечасова забітая надзея на росквіт мясцовай прамысловасці дапамагла жыхарам знайсці новае месца пад сонцам.

Мабыць, таму цяпер, калі заязджаць у горад з боку Крэва, на ўскрайку можна пабачыць не прыкметы заняпаду, а акуратныя катэджы мясцовых жыхароў. Гарадскі парк побач з помнікам архітэктуры XVI стагоддзя — былой лютэранскай кірхай (зараз касцёлам Міхаіла Арханёла) — здзіўляе скульптурамі, а колькасці культурніцкіх мерапрыемстваў ды імпрэзаў можна толькі пазайздросціць. Адно з іх, дарэчы, і стала нагодай наведаць Смаргоншчыну.

### Чароўны свет батлейкі

Адкрыты рэгіянальны фестываль «Чароўны свет батлейкі», які праходзіў у Смаргоні, — сур'ёзная заява мясцовых уладаў на тое, каб зрабіцца ўсебеларускім цэнтрам батлеечнага мастацтва. Тым болей, што ў наступным годзе гэтае мерапрыемства хочуць перавесці на міжнародны ўзровень. А пакуль 10 калектываў з розных куткоў Беларусі сабраліся, каб прадэманстраваць свае здольнасці.

Батлейка, між іншага, — не проста дзіцячая забава. Некаторыя спектаклі нясуць сур'ёзны філасофскі сэнс, і таму больш зразумелыя дарослым. Менавіта такую пастаноўку прадставілі на конкурс Наталля Пявец і яе муж Васіль з сямейнага тэатру «Батлейка». А пачыналі яны 12 гадоў таму ў нядзельнай школе.

«Я прачытала пра батлейку ў беларускай энцыклапедыі, і мы з мужам вырашылі паспрабаваць аднавіць яе. Знайшлі чарцяжы — і зрабілі батлеечную скрынку, спачатку з кардону. А лялькі былі з паперы. Спярша паставілі класічнага «Цара Ірада» ў нядзельнай школе. Дзецям вельмі спадабалася, потым нам прапанавалі выступаць на духоўна-асветніцкіх ярмарках, а потым мы вырашылі прыцягнуць да ўдзелу ў спектаклях яшчэ і дзяцей. Таму ў рэпертуары з'явіліся больш дзіцячых п'есаў», — распавяла Наталля.

Усе спектаклі Пяўцоў — дабрачынныя, фінансуюцца з уласнай кішэні. Цяжкасці з фінансаваннем прызнаюць і іншыя стваральнікі батлеечных тэатраў.

«Мы сюды трапілі толькі дзякуючы Смаргонскаму райвыканкаму. Вялікі дзякуй ім, — кажа Кацярына Цубер, кіраўніца студэнцкага тэатру «Адраджэнне Батлейкі» факультэта дашкольнай адукацыі Мінскага педуніверсітэта. — Для нас гэта вельмі важна — трапіць на такі фэст. Мы можам не толькі сябе паказаць, але і на іншых паглядзець. Гэта каласальны досвед. Але самае страшнае, што пра батлейку як беларускі нацыянальны тэатр абывацелі часцей за ўсё нічога не ведаюць! А гэта частка нашай нацыянальнай самасвядомасці, гэта нашы традыцыі, наша культура!»

«У палякаў зусім іншае стаўленне да іхнага тэатру, зусім іншае стаўленне да рускага і ўкраінскага вяртэпаў. Гэтыя традыцыі берагуць і шануюць. А ў нас, на жаль, гэта даводзіцца адраджаць, таму што яны часткова страчаныя», — працягвае Кацярына.

Працаўніца Смаргонскага цэнтру дзіцячай творчасці Іна Яновіч свае першыя веды пра батлейку атрымала ў Мінскім педагагічным універсітэце, з таго часу марыла арганізаваць тэатр. Атрымалася толькі год таму. Але спадарыні Іне пашанцавала болей, чым іншым калектывам, — начальства аказала фінансавую падтрымку.

Выхаванцы ставяць п'есы на дзвюх мовах.

— Дзеці! А на якой мове вам больш падабаецца іграць — на рускай ці на беларускай? — пытаюся ў малых.

— На беларускай! — хорам крычаць акторы.

— «Каза Манюка» мая ўлюбёная! — дадае адна з дзяўчынак.

— Лялек я рабіла са сваёй дачкой, яна 8 гадоў займалася ў мастацкай школе, — распавядае Іна Яновіч. — Дачка рабіла з палімернай гліны, я рабіла каркас, сукенкі шылі мае сяброўкі.

Спадарыня Іна ні разу не пашкадавала, што вярнулася ў свой час у Смаргонь пасля вучобы, і сваёй працай задаволеная.

### Прыкметы крызісу

Аднак не ўсе такія аптымісты. Майстар па вырабу цацак спадарыня Таццяна ў свой час таксама працавала з дзецьмі, аднак мусіла сысці праз маленькі заробак, вялікую частку з якога, паводле яе словаў, даводзілася да таго ж выдаткоўваць на матэрыялы для гуртка. Пры гэтым кіраўніцтва ніяк не кампенсавала страты. Дый бацькі не надта імкнуліся забяспечыць дзяцей матэрыяламі, ім працэс было ўвогуле адмовіцца ад занятkаў, чым плаціць.

Зараз Таццяна жыве з продажу цацак ды іншых вырабаў хэнд-мэйд. Распавядае, што раней людзі больш грошай трацілі на забавы, а з надыходам крызісу ўсё больш купляюць тое, што каштуе танней. Аднак продаж уласных вырабаў усё роўна дае жанчыне лепшы заробак, чым, напрыклад, сталая праца дворніка за мільён васемсот тысяч рублёў штомесяц.

А вось медсястра спадарыня Марыя працаваць за аклад у мільён васемсот згадзілася, бо для яе гэта дадатак да пенсіі. Праца ў доме састарэлых хаця і цяжкая, але бачна, што пенсіянерцы падабаецца быць патрэбнай людзям. Тым болей, што і ахвотных на яе пасаду ў Смаргоні знойдзецца няшмат.

Увогуле ж, на сайце з вакансіямі ў Смаргоні www.shliah.by/vakansii самы вялікі заробак — крыху болей за шэсць мільёнаў рублёў. Ды і той абяцаюць або ветэрынарнаму лекару або дырэктару прадпрыемства. Астатнім разлічваць болей чым на 4 мільёны не даводзіцца.

Дзе ж зарабляюць на жыццё смаргонцы?

— Мужчыны ўсе ў Расіі працуюць, — адказваюць мясцовыя жыхары. Аднак і тут крызіс нагадвае пра сябе.

— Ёсць такая тэндэнцыя, зараз вяртаюцца людзі з Расіі, — кажа начальніца аддзелу ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Таццяна Ражава, — працаўладкоўваюцца ў нашай арганізацыі, на заводы. Крызіс — ён жа не толькі ў Беларусі...

— Ці вядзецца нейкая праца, каб гэтым людзям было прасцей адаптавацца? — спытала я.

— Ну, не зусім мае пытанне, але я ведаю, што ёсць сістэма перападрыхтоўкі, калі чалавек вярнуўся, яму няма дзе працаўладкавацца, ён можа перавучыцца на тую спецыяльнасць, якая запатрабаваная на рынку працы. Я не лічу, што праблема вельмі вострая, яна вырашальная.



Помнік Францішку Багушэвічу ў цэнтры Смаргоні

### Прыкметы беларушчыны

Дарэчы, Таццяна Ражава, як і іншыя мясцовыя чыноўнікі, адказвае на пытанні на выдатнай беларускай мове.

«Мне вельмі прыемна размаўляць па-беларуску, — кажа Таццяна. — На жаль, у сваім паўсядзённым жыцці, калі я працую больш як адміністратар, размаўляю па-руску. У райвыканкамах мала беларускай мовы засталося, але яшчэ ёсць. Я думаю, што з цягам часу мова павінна вярнуцца. Я доўгі час працавала ў метадычным цэнтры рэжысёрам. Увесь сцэнарны матэрыял быў на беларускай мове. Калі думаеш на беларускай мове, калі творыш на беларускай мове, то і размаўляць добра, а калі доўгі час думаць на рускай мове, забываешся. Я адчуваю сябе беларускай, тут нарадзілася, працую ўсё жыццё, мне вельмі цікавая гісторыя майго краю, акрамя традыцый батлейкі тут было шмат яшчэ чаго, і «Мядзведжая акадэмія», і смаргонскія баранкі — ці ведаеце вы, што мы можам лічыць сябе радзімай баранак? Так! Гэта былі такія своеасаблівыя хлебныя кансервы для акадэміі, іх бралі з сабой, яны доўга не псаваліся і можна было падсілкавацца».

Пасля гэткіх словаў не дзіўнымі выглядаюць і іншыя прыкметы беларушчыны ў Смаргоні. У цэнтры горада яны літаральна кідаюцца ў вочы. Абстрактная скульптура аздобленая нацыянальным арнаментам, вялікі помнік Францішку Багушэвічу з адпаведным подпісам. Большасць надпісаў — па-беларуску.

І каб адразу адкінуць спекуляцыі пра беларускую мову як модны трэнд, трэба адзначыць, што ўсё гэта будавалася ў той час, калі ніхто яшчэ не казаў пра гэтак званую беларусізацыю зверху. Падобна, што сваёй спадчынай тут ганарацца і шануюць зусім не на паказ і не дзеля новага палітычнага курсу кіраўніка дзяржавы.

### Надзея на адраджэнне — на захадзе Беларусі

Увогуле ж складаецца ўражанне, што такіх патрыётаў роднага краю, як на Смаргоншчыне, трэба яшчэ пашукаць. Сапраўды, пакуль моладзь з іншых рэгіёнаў усімі праўдамі і няпраўдамі шукае магчымасці з'ехаць з краіны або хаця б застацца ў Мінску пасля вучобы, маладыя смаргонцы вяртаюцца дадому, і не збіраюцца мяняць месца жыхарства.

Лепшае сведчанне: маладыя бацькі, якія масава шпацыруюць па вуліцах роднага гораду з дзіцячымі вазкамі. Хіба гэта не лепшая прыкмета таго, што яны ўсё яшчэ маюць надзею на добрую будучыню ў сваёй краіне?

TV

## 30 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.40** Ретрадрама «Тальянка».
**11.00** 90 секунд.
**11.50** Меладрама «Берагі кахання».
**12.00** Навіны.
**13.00** 90 секунд.
**13.45** Мастацкі фільм «Самая прыгожая 2».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.50** Мастацкі фільм «Самая прыгожая 2».
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Ретрадрама «Тальянка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.40** Мастацкі фільм «Вакзал для дваіх».
**01.50** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** Баявік «Напралом».
**00.00** «Вячэрні Ургант».
**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.50** «Вялікі сняданак».
**10.05** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Такі лёс».
**15.15** «Дарагая перадача».
**15.35** Мае цудоўныя.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Усё жыццё наперадзе».
**01.30** «Дакументальны праект».

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Тэлесерыял «Шпік без ліцэнзіі».
**10.05** Тэлебарометр.
**10.40** Камедыйны серыял «Ландыш серабрысты» (Расія).
**12.30** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**14.50** Мастацкі фільм «Заўтра была вайна».
**16.35** Тэлесерыял «Шпік без ліцэнзіі».
**17.50** Тэлесерыял «Віртуозы».
**18.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**18.55** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**20.25** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**21.00** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**23.20** Тэлесерыял «Як я сустрэў вашу маму».
**23.50** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**00.35** Тэлесерыял «Віртуозы».

### 3 Беларусь

**07.10** «Дабраранак».
**07.40** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**07.50** Калейдаскоп.
**08.00** «Дыя@блог P.S.».
**08.30** «Багема». Музычная драма (ЗША, 2005 г.).
**10.45** «Культпрасвет».
**11.20** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Шчыт і меч». Ваенна-прыгодніцкі фільм. 1-я - 4-я серыі (СССР, 1967 г.).
**16.45** Калейдаскоп.
**16.55** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**17.25** Дыя@блог». «Пра мову».
**17.55** «Чараўнік Лала». Фільм-казка (Венгрыя, 1981 г.).
**19.05** Калейдаскоп.
**19.15** «Чырвонае лісце». Гістарычная драма (Беларусь, 1958 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Дыя@блог». «Пра мову».
**21.30** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**22.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**22.55** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Паліна Рэспубліка.
**23.30** Джазавыя вечары ў філармоніі. «New Bone».
**00.30** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі.
**10.05** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету. Лісабон.
**00.35** Баскетбол. НБА. «Бруклін» - «Лэйкерз».
**14.25** Футбол.
**14.55** Футбол. Беларусь -Габон.
**16.55** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету. Лісабон.
**19.25** Хакей. КХЛ. Трэці матч. СКА - ЦСКА.
**21.40** Час футболу.
**22.25** Футбол. Беларусь -Габон.
**00.00** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі.
**02.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**02.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** ПраСвет.
**07.35** Людскія справы.
**08.05** Два на два (тэледыскусія).
**08.40** «Таямніца следства. P.S.», дак. фільм.
**09.10** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**10.00** «Забытыя ў Пхеньяне», дак. фільм.
**11.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.25** Кінаклуб: «Для Элен».
**11.35** «Для Элен», маст. фільм.
**13.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.50** «Таямніца следства. P.S.», дак. фільм.
**14.25** «Made in Poland», дак. фільм.
**15.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Беларускія землі ў складзе Расейскай імперыі.
**15.10** «Забытыя ў Пхеньяне», дак. фільм.
**16.15** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**17.00** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**17.50** Мова нанова: «Трасянка».
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Людскія справы.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**22.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Тацццяна Траяновіч.
**22.45** Кінаклуб: «Для Элен».
**22.55** «Для Элен», маст. фільм.
**00.35** Студыя «Белсат».

## 31 САКАВІКА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладрама «Нявеста майго жаніха».
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Ретрадрама «Тальянка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Здрада.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Меладрама «20 гадоў без кахання».
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Ретрадрама «Тальянка».
**21.00** Панарама.
**22.05** Ваенная драма «Сямнаццаць імгненняў вясны» СССР.
**23.30** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**00.10** Навіны.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Меладрама «20 гадоў без кахання».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** «Сам-насам з усімі».
**15.10** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Арлова і Аляксандраў». Шматсерыйны фільм.
**23.00** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**00.00** «Вячэрні Ургант».
**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Мастацкі фільм «Апантанасць».
**10.20** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** «Наша справа».
**14.30** «Мінск і мінчане».
**15.00** «На 10 гадоў маладзейшы».
**15.35** «Мае цудоўныя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Вам і не сніласяя».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Высокі бландын у чорным чаравіку». Камедыя.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Я не ведаю як яна робіць гэта».
**00.50** «Дакументальны праект».

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Участковая».
**10.05** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.30** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**13.20** Ікра.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.40** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма Расія.
**16.40** Серыял «Участковая».
**17.45** Тэлесерыял «Віртуозы».
**18.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**20.20** Моладзевы серыял «Як я сустрэў вашу маму» ЗША.
**20.55** Мазгавы штурм.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**22.40** Тэлебарометр.
**23.25** Тэлесерыял «Як я сустрэў вашу маму».
**23.55** Камедыйная фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны» (Новая Зеландыя).
**00.40** Тэлесерыял «Віртуозы».

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Пітэр Пэн». Фантазійная меладрама (Аўстралія-ЗША-Вялікабрытанія, 2003 г.).
**09.50** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.15** «Пяць вечароў». Драма (СССР, 1978 г.).
**11.55** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Паліна Рэспубліка.
**12.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Мікалая Гуціева.
**13.00** Калейдаскоп.
**13.10** «Палацы Крамля». Дакументальны серыял. Фільм 1-ы і 2-гі.
**14.05** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**14.35** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія, 2011-2012 гг.).
**15.05** «Персона». Віктар Сухарукаў.
**15.30** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм (СССР, 1973 г.).
**16.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**16.35** «Вясёлка». Ваенная драма (СССР, 1943 г.).
**18.00** Калейдаскоп.
**18.10** «Людзі і манекены». Мініяцюры, інтэрмедыі і маналогі ў выкананні Аркадзя Райкіна і яго трупы. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1974 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**21.30** «Лёгкае жыццё». Камедыя (СССР, 1964 г.).
**23.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Мікалая Гуціева.
**23.25** «Персона». Вікторыя Тарасава.
**23.40** Калейдаскоп.

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Час футболу.
**08.15** Футбол. Беларусь -Габон.
**10.05** Хакей. КХЛ. Трэці матч. СКА - ЦСКА.
**12.00** Баскетбол. НБА. «Чыкага» - «Нью-Ёрк».
**13.50** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі.
**15.55** Спорт-кадр.
**16.25** Хакей. КХЛ. Трэці матч. «Сібір» - «Ак Барс».
**18.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Фінал. Сёмы матч.
**21.05** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Калеў» - «Цмокі-Мінск».
**22.45** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Чвэрцьфінал.
**00.45** Еўрапейскі покерны тур.
**01.40** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Людскія справы.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Тацццяна Траяновіч.
**11.15** «Дом», серыял.
**12.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Чачот.
**12.50** Студыя «Белсат».
**13.15** Людскія справы.
**13.50** Студыя «Белсат».
**16.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**16.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Чачот.
**17.15** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Студыя «Белсат».
**19.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** Два на два (тэледыскусія).
**22.25** «Урок любові Джанкарлё Боні», рэпартаж.
**22.45** «Забытыя ў Пхеньяне», дак. фільм.
**23.45** Студыя «Белсат».

Новы Час | 27 сакавіка 2015 | № 12 (429) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (103)




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (103)
(сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info


## Змест



# Хто ацэніць Вялікі беларускі раман?

**Галоўная праблема беларускай літаратуры добра вядомая: улады чыняць перашкоды на ўсіх дарогах і сцежках яе развіцця.**



Перадусім нацыянальную літаратуру забаронена выкладаць у поўным аб'ёме ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах (так, у 1996 годзе з праграмаў былі выкінутыя ўсе пісьменнікі-эмігранты), а стварэнне свабоднага камерцыйнага кніжнага рынку ў краіне сур'ёзна абмежавана (узгадаем суд над кнігаром Логвінавым).

Але гэта вонкавае зло, так бы мовіць, звыклае: яно пераследуе беларускую літаратуру з першых дзён існавання. Толькі адзін факт: у 1903 годзе Круг беларускай народнай прасветы і культуры (арганізацыя дзейнічала у Санкт-Пецярбурзе) выдаў Янку Лучыну як... балгарскага паэта, каб толькі абысці расейскую цэнзуру.

Нашмат жахлівей для нацыянальнай літаратуры цяпер іншае. Новае кіраўніцтва Беларусі вырашыла пайсці далей за сваіх «папярэднікаў», царскі і камуністычны рэжым: паступова і мэтанакіравана яно пазбаўляе беларускую літаратуру чытача.

## Раман як грамадскі праект

Напрыканцы мінулага года ў беларускіх СМІ, а таксама блогасферы і сацыяльных сетках вялася справакаваная кіраўніком краіны палеміка пра неабходнасць і магчымасць Вялікага беларускага рамана — эпапеі накшталт «Войны и мира». Аднак галоўнае пытанне тады не было абмеркаванае: ці будзе ўспрыняты беларускім чытачом Вялікі беларускі раман, калі з'явіцца?

Узорны эпічны раман, як «Будэнброкі» Томаса Мана ці «Людзі на балоце» Івана Мележа — не толькі выкшталцоны з гледзішча формы і зместу літаратурна-мастацкі тэкст; бездакорная мова, спеласць аўтарскай думкі і пачуццяў, выразная маральна-філасофская праблематыка, псіхалагічна дакладныя вобразы, аб'ёмная панарама эпохі, гістарызм і інш. Гэта найперш аповед, насычаны яснымі, зразумелымі кодамі для чытачоў, мастацкі і адначасова грамадскі праект. Маральныя, інтэлектуальныя пошукі раманіста і чытацкай аўдыторыі супадаюць, і нездарма чытачы ўспрымаюць аўтара Вялікага рамана як прыхільніка, выразніка іх каштоўнасцяў, аб чым яскрава сведчыць гісторыя сусветнай літаратуры.

Сапраўдны раман адразу робіцца з'явай жыцця грамадства і ў найноўшыя часы. Яго стварэнне стаіць у адным шэрагу, прыкладам, з прыняццем паправак у Падаткавы кодэкс краіны, будаўніцтвам новай сеткі дарог, рэформай сістэмы адукацыі і іншымі значнымі агульнаграмадскімі падзеямі.

Так, у Германіі ўвагу чытачоў цяпер захапіў раман Луца Зайлера «Рабінзон», які напрыканцы 2014 года атрымаў прэстыжную Нямецкую літаратурную прэмію (Deutscher Buchpreis). У сваім 500-старонкавым творы Зайлер распавядае пра выспу Хідэнзе ў Балтыйскім моры, дзе ў часы ГДР знаходзілі прытулак людзі, якія па тых ці іншых прычынах не «падышлі» сацыялістычнаму рэжыму. Тэма свабоды асобы ў часы існавання ГДР — вельмі балючая для нямецкай нацыі. Не дзіва, што раман-напамін атрымаў шырокі розгалас, запачаткаваў новыя дыскусіі.

## «Мы, беларусы...»

Сучаснае беларускае грамадства страшэнна раструшчанае, разбітае на кавалкі, лакальныя групы і падгрупы, клубы па зацікаўленням. Мы не адчуваем і, адпаведна, не паводзім сябе як нацыя, мы не функцыянуем гэтак зладжана, як пчаліны вулей.

Так, нас па-ранейшаму яднае геаграфічнае месца пражывання, але ж толькі гэта ў нас і ёсць — далей пачынаецца тэрыторыя адрозненняў, несумяшчальных інтарэсаў і зацікаўленняў, прыхаванага ці адкрыта варожага стаўлення адзін да аднаго.

Грамадствам нас можна назваць таму, што мы ўяўляем сабой сукупнасць адзінак, асобаў. Прычым сучаснае беларускае грамадства абсалютна не прызнае аніякіх аўтарытэтаў: ні ў жыцці, ні ў палітыцы, ні нават у культуры. Кожны сам сабе гаспадар...

Духоўныя ж лідары Беларусі, уключна з выдатнымі пісьменнікамі, фактычна засталіся ў мінулым часе, у прасторы па-за намі. І калі адны беларусы працягваюць чытаць Васіля Быкава, то другія цяпер адкрыта (о, бессаромнае стагоддзе!) прыгадваюць, што з нудою гарталі яго творы ў школе, трэція — «глынаюць» за адну ноч які-небудзь «Гнеў Наваросіі» Георгія Савіцкага (падобнай прадукцыяй завалены беларускія кніжныя кірмашы — попыт спараджае прапанову).

Раман — гэта не толькі сцяг агульных ідэяў, думак і перажыванняў, пад якім па добрай волі шыхтуюцца чытачы-грамадзяне, але і агульная мова, агульныя літары і сэнсы. Беларусы не могуць пачуць адзін аднаго, пакуль іх мова адрозніваецца, не супадае, пакуль у іх «дзве душы».

**Новае кіраўніцтва Беларусі вырашыла пайсці далей за сваіх «папярэднікаў», царскі і камуністычны рэжым: паступова і мэтанакіравана яно пазбаўляе беларускую літаратуру чытача**

Нядаўна мой знаёмы пісьменнік са скрухаю распавядаў мне пра рускамоўны раман, дзе апісваецца жыццё вёскі — кніга рыхтуецца да друку, і мой знаёмы прымае ўдзел у яе выданні як рэдактар. «Як можна пісаць па-руску твор пра беларускую вёску?» — пытаецца ён і не знаходзіць адказу.

Між тым двухмоўе — норма ў Беларусі, а насамрэч яшчэ адна лінія разлому нацыянальнай псіхікі...

## 9 мільёнаў Лявонаў Бушмароў

Мы, беларусы, гаворым на розных мовах, жывем кожны ў сваім свеце, вызнаем асабістыя каштоўнасці. Кожны цяпер у апазіцыі да суайчыннікаў і ўсяго свету — суцэльны лясісты край звяравата-панурых Лявонаў Бушмароў, «мая хата з краю», «за адзін кацёл я ні з кім не сяду».

Аднак мы забыліся, што не заўсёды былі такія, што гэтае раз'яднанне, разрыў усіх камунікацыяў і сувязяў у грамадстве адбыліся насамрэч не па нашым жаданні, без нашай на тое згоды. Кіруючы рэжым прыкладае ўсе намаганні, каб адзінства і еднасці ні ў якім выглядзе, форме (у тым ліку мастацкай) на гэтай зямлі не было. І ў першую чаргу мусіць быць парушаны, скажоны беларускі культурны код — такая стаіць задача.

Бачачы, што кантраляваць пісьменніцкі розум не дужа атрымліваецца, улады вырашылі пазбавіць розуму чытача літаратуры (найперш з ліку сярэдняга класу), скалечыць яго невуцтвам, прапагандай, галечай, цяжкай і нізкааплатнай працай. Каб ён наагул адмовіўся ад чытання, палічыў яго заняткам, не вартым дробнага шэлега, каб ён не пабачыў у раманах сваіх думак, спадзяванняў, надзей і аказаўся няздольны весці дыялог з аўтарам і іншымі чытачамі.

У гэтых сацыяльна-палітычных варунках цяжка ўявіць, што нашы людзі змогуць належным чынам ацаніць Вялікі беларускі раман, які ў выпадку яго стварэння сапраўды здольны «даць красу, даць мысль, паднімаць і весці душы» (Вацлаў Ластоўскі), дапамагчы беларусам пачуваць сябе грамадою, з усёй глыбінёю і адказнасцю ставіцца да сваіх грамадзянскіх абавязкаў. Як адбывалася гэта раней у нацыянальнай літаратуры, калі ў яе былі беларускамоўныя чытачы, не «апрацаваныя» дашчэнту ўладамі, чытачы, якія разумелі і цанілі раманы найперш за адчуванне еднасці праз выкшталцонае мастацкае слова з нацыянальнай гісторыяй і культурай.

Верагодна, у новым Вялікім беларускім рамане, роўным «Каласам пад сярпом тваім» і «Камароўскай хроніцы», гаворка пойдзе менавіта пра раз'яднанне — хваробу, што стачыла беларускае Дрэва жыцця. Верагодна, гэты новы эпічны твор будзе напісаны так прыгожа, моцна і пераканальна, што ўсе мы, ацалелыя чытачы, паасобку адчуем і зразумеем: тое сапраўды наша агульная хвароба. І што нас заразілі наўмысна, скарыстаўшыся нашымі страхамі, крыўдамі, недаверам, няўпэўненасцю...

А магчыма, Вялікі беларускі раман пішацца ўжо сёння, і насамрэч гэта вялікая сукупнасць твораў — падобна таму, як нацыю ўтварае мноства людзей, якія спавядаюць адзіныя ідэалы, ідэі і прынцыпы, чый культурны код — адзіны і без расколінаў.

**Павел Абрамовіч**

# «Пуціна» ў Мінску

**У мінскай галерэі «Ў» адбылася прэзентацыя новай празаічнай кнігі Барыса Пятровіча «Пуціна». Сустрэча прайшла ў межах Марафону падтрымкі кнігарні «логвінаЎ», яе наведалі блізкія і сябры, калегі і паплечнікі аўтара, а таксама чытачы і прыхільнікі ягонай творчасці.**



У кнігу «Пуціна» ўвайшлі дзве аповесці, што былі напісаныя раней, аднак дапрацоўваліся цягам гадоў і ўпершыню, пад адной вокладкай, выйшлі нядаўна ў выдавецтве «Кнігазбор».

Пытанні, закранутыя празаікам у аповесці «Стах», датычныя рэфармавання нацыянальнай свядомасці пасля 1994 года, шляхоў развіцця беларускай культуры, — не страчваюць актуальнасці і цяпер, і пакуль неясна, на жаль ці на радасць, зазначыў Барыс Пятровіч.

Але, акрамя вонкавага сюжэту, які апісвае грамадскія рэаліі пачатку 1990-х, вялікую ўвагу, па словах крытыкаў, чытачам варта звярнуць на філасофскі падтэкст, на вобраз Стаха, галоўнага героя, падобнага да Сартраўскіх персанажаў экзістэнцыялізму.

Хрысціянскія матывы, канфуцыянства, будызм — вельмі розныя канцэпты ўзаемадзейнічаюць у аснове трыпціха «Стах». Аўтар распавёў, што многае ў творы з'яўляецца мастацкай выдумкай, і, магчыма, гэта было нязвыкла для прыхільнікаў рэалістычнай літаратуры, асабліва ў часы 1990-х, калі адна з частак аповесці была апублікаваная ў перыёдыцы ўпершыню.

Цягам прэзентацыі Барыс Пятровіч зачытваў фрагменты з аповесцяў, расказваў пра гісторыю іх напісання і пра тое, што з'яўляецца фантасмагарычным, а што ўзятае з рэальнасці.

У выступленнях узялі ўдзел Сяргей Законнікаў, Леанід Галубовіч, Андрэй Федарэнка, дзядзька пісьменніка Алесь Сачанка, Сяргей Дубавец, Людміла Рублеўская, Алесь Пашкевіч. Аўтар і выканаўца ўласных песень Алесь Камоцкі забяспечыў музычную частку імпрэзы.

Прэзентацыя завяршылася аўтограф-сесіяй.

**Паводле lit-bel.org**




# Літаратурны конкурс імя Рыгора Барадуліна

**24 лютага, у дзень, калі Народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну споўнілася б 80 гадоў, ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» абвясціў пра пачатак прыёму прац на конкурс «Экслібрыс».**

Да ўдзелу ў конкурсе імя Рыгора Барадуліна запрашаюцца паэты і перакладчыкі паэзіі на беларускую мову ва ўзросце да 30 гадоў.

Журы конкурсу: Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк, Вольга Іпатава, Наталля Кучмель і Уладзімер Някляеў.

Пераможцы будуць вызначаны ў дзвюх намінацыях: «Паэзія» і «Паэтычны пераклад на беларускую мову».

Свае вершы і пераклады на конкурс дасылайце адным файлам у фармаце .doc да 1 чэрвеня 2015 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Конкурс». Файл назавіце сваім прозвішчам лацінскімі літарамі. У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

**За ходам конкурсу сачыце на сайце lit-bel.org.**

## КРАСАВІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Алена Уладзіміраўна Таболіч (нар. 15.04.1940)
Анатоль Канстанцінавіч Клышка (16.04.1935)
Віктар Апанасавіч Казько (23.04.1940)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



# Нявыдуманая літаратура: Беларусь – Швецыя

**На пачатку сакавіка інтэлектуальны Мінск стаў цэнтрам гутарак пра сутнасць і адметнасць нявыдуманай літаратуры (або так званай літаратуры нон-фікшн).**



Анэт Розэнгрэн, Катарына Б'ярвал, Генрык Бергрэн

Разам з беларускімі аўтарамі і літаратуразнаўцамі аб тым разважалі пісьменнікі са Швецыі Анэт Розэнгрэн, Катарына Б'ярвал і Генрык Бергрэн.

Пакуль у Беларусі ідзе пошук дакладнага вызначэння, што ўключаць у літаратуру нон-фікшн, шведы ўжо даўно вызначыліся, аб'яднаўшы ў гэты «падвід» і сацыяльныя даследаванні, і біяграфіі, і кнігі па кулінарыі.

3 сакавіка ў мінскім музеі Петруся Броўкі шведскія пісьменнікі правялі з беларускімі калегамі сустрэчу пад назвай «Шведская літаратура нон-фікшн: тэмы і праблемы». Мадэравала сустрэчу Наталля Гардзіенка, старшыня секцыі непрыдуманай літаратуры Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У краіне, дзе да свабоды слова ставяцца звышсур'ёзна, няма недакранальных тэм для даследчыкаў любой галіны.

У межах сустрэчы Генрык Бергрэн распавёў, што ў Швецыі продажы кніг даволі істотна скараціліся за апошні час. Але рэч не ў тым, што чытачы перайшлі на электронныя выданні. Па меркаванні Бергрэна, тут адыграла сваю ролю зніжэнне цікавасці да літаратуры наогул: «Цяпер людзі больш сядзяць праз свае гаджэты ў інтэрнэце, чым чытаюць кнігі».

Вялікім сегментам кніжнага рынку Г. Бергрэн назваў кнігі па кулінарыі: «Гэта дзіўна, бо ў нас мала хто мае час, каб гатаваць вячэру. Не ведаю, хто іх купляе».

Сапраўдным бэстсэлерам сярод дакументальных кніг старшыня секцыі нон-фікшн Шведскага саюза пісьменнікаў Анэт Розэнгрэн назвала кнігу двух журналістаў, якія апісалі свае 438 дзён у турме Эфіопіі.

Але часцей шведскія пісьменнікі літаратуры нон-фікшн звяртаюцца да лакальных падзей. Цікавымі замежнаму чытачу тэмамі А. Розэнгрэн назвала пытанні месца жанчыны ў шведскім соцыуме, тэмы грамадскай ізаляцыі і міграцыі, праблемы ЛГБТ супольнасці.

Анэт і сама задала некалькі пытанняў беларускім пісьменнікам. Яе цікавіла, ці наведваюць беларускія аўтары дзеля сваіх даследаванняў іншыя краіны, і ці плануецца якое выданне да чарговай гадавіны выбуху на ЧАЭС.

«У гісторыі Швецыі мала драматызму. Напэўна, таму нашай гістарычнай літаратурай складана зацікавіць чытача. А гісторыя Беларусі насамрэч можа стаць папулярнай», – адзначыла літаратарка.

А. Розэнгрэн падкрэсліла, што ў Швецыі бракуе перакладаў беларускіх твораў і кніг пра Беларусь. «Нашыя краіны падобныя па плошчы і насельніцтву. Мне падаецца, што яны могуць добра дапаўняць адна адну», – сказала Анэт.

На наступны дзень шведскія і беларускія пісьменнікі сустрэліся ў мінскай кнігарні «ЛогвінаЎ», каб абмеркаваць

**Пакуль у Беларусі ідзе пошук дакладнага вызначэння, што ўключаць у літаратуру нон-фікшн, шведы ўжо даўно вызначыліся, аб'яднаўшы ў гэты «падвід» і сацыяльныя даследаванні, і біяграфіі, і кнігі па кулінарыі**

сацыяльна-культурную праблематыку ў літаратуры нон-фікшн і журналістыцы Швецыі і Беларусі.

У дыскусіі ўзялі ўдзел госці са Швецыі, літаратаркі Катарына Б'ярвал і Анэт Розэнгрэн, да якіх далучыліся беларускія аўтары Валер Каліноўскі, Паліна Качаткова, Уладзімір Сіўчыкаў, Аляксандр Тамковіч, Сяргей Харэўскі, Ціхан Чарнякевіч.

А 5 сакавіка ў галерэі «Ў» прайшоў семінар «Біяграфічная літаратура ў Швецыі і Беларусі». У абмеркаванні актуальных пытанняў развіцця біяграфічнай літаратуры ўзялі ўдзел гісторык, журналіст са Швецыі Генрык Бергрэн і беларускія аўтары Альгерд Бахарэвіч і Аляксандр Тамковіч.

Біяграфію складана аднесці да пэўнага жанру літаратуры. Яна знаходзіцца на мяжы паміж гістарычным, журналісцкім даследаваннем, мастацкім творам, эсэ.

«Яшчэ працуючы ў газеце, – распавёў Генрык Бергрэн, – я пачаў пісаць работу, прысвечаную вывучэнню жыццёвага і прафесійнага шляху прэм'ер-міністра Швецыі Улафа Пальме, якая пазней ператварылася ў паўнавартасную біяграфію. Ён быў вельмі незвычайным палітыкам, інтэлектуалам з моцным пачуццём маралі, надзвычай разумным тактыкам.

Я адразу ведаў, што хачу напісаць яго біяграфію — гэта выдатная магчымасць распавесці пра асобу і ў той жа час паставіць яе ў шырокі гістарычны кантэкст. Праца над гэтай кнігай доўжылася каля 5 гадоў. Я паспрабаваў паглядзець не толькі на самога Улафа Пальме, але і людзей вакол яго: кім яны былі, што думалі, як уплывалі на асобу прэм'ер-міністра».

Біяграфічная кніга Г. Бергрэна пра Улафа Пальме вельмі хутка стала папулярнай. Яна разышлася тыражом больш як 100 тысяч і была перакладзеная на шэсць моў. Варта адзначыць, што біяграфічнае даследаванне Г. Бергрэна, прысвечанае Улафу Пальме, не так даўно пабачыла свет і па-беларуску. Кніга выйшла ў выдавецтве Зміцера Коласа. Сам спадар Зміцер таксама прысутнічаў на сустрэчы і зазначыў, што выданне біяграфій выдатных дзеячаў з іншых краін — вельмі добры спосаб адукоўваць суайчыннікаў.

Наталля Гардзіенка заўважыла, што ў сучаснай беларускай літаратуры нон-фікшн можна прыгадаць не так шмат кніг, якія былі б паўнавартаснымі біяграфіямі. Але ёсць аўтары, якія звяртаюцца да біяграфістыкі ў зборніках эсэ, газетах, часопісах, робяць інтэрв'ю. Ёсць асобы, якія прапануюць новы погляд на творчыя здабыткі вядомых аўтараў, творцаў.

А. Розэнгрэн, старшыня секцыі нон-фікшн Шведскага саюза пісьменнікаў, распавяла, што ў Швецыі сёння біяграфічная літаратура на ўздыме папулярнасці. Цікавяцца і кнігамі, у якіх простыя людзі распавядаюць, як яны знайшлі выйсце са складаней жыццёвай сітуацыі, да прыкладу, перамаглі рак ці перажылі смерць блізкага чалавека.

**Паводле lit-bel.org**

15 сакавіка пайшоў з жыцця пісьменнік, сябар СБП Аркадзь Іосіфавіч Нафрановіч. Смуткуем і выказваем спачуванні родным і блізкім.

***

Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае сардэчныя спачуванні сябрам Рады арганізацыі пісьменнікам Валянціне Аксак і Уладзімеру Арлову з прычыны смерці іх бацькі і цесця. Вечная памяць!

# Верыць людзям і жыццю

## Да 90-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта з Беласточчыны Віктара Шведа

**Вёска Мора на Беласточчыне – гэта радзіма старэйшага беларускага паэта Віктара Шведа, якому 23 сакавіка споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння.**

Пяць гадоў таму мы трымалі ў руках яго прыгожую і шчырую кнігу вершаў «Адплываем з Мора». Ужо тады паэт пісаў, што амаль усе яго сваякі з роднай вёскі Мора адплылі ў іншы свет, а цяпер наступае яго чарга. Я напісаў артыкул пра той зборнік вершаў і назваў яго «Адплываць з Мора яшчэ рана». Ды куды адплываць, калі наперадзе шмат спраў, планаў, літаратурных задумак і адкрыццяў?!. Эрнэст Хэмінгуэй некалі напісаў празаічны твор «Стары і мора». Калі б сёння жыў прадзядуля Хэмінгуэй і калі б ён сваё апавяданне прысвяціў Віктару Шведу, то назваў бы яго не інакш, як «Малады чалавек і Мора». Бо Віктар Швед, нягледзячы на свае дзевяць дзясяткаў гадоў, заўсёды малады, прыгожы, шчаслівы, натхнёны, і нам, маладзейшым літаратарам, застаецца толькі яму пазайздросціць, браць з яго прыклад, вучыцца ў яго літаратуры і аптымізму. А роднае яму Мора па-ранейшаму натхняе яго на новыя творы, вяртае ў маленства і юнацтва, якія не даюць яму старэць і падаць духам. Вось такі ён, Віктар Швед.

А яшчэ ён вельмі шчыры беларус. Пра гэта паэт адкрыта і публічна сказаў ажно ў 1957 годзе, калі ў беларускім тыднёвіку «Ніва» апублікаваў свой першы верш «Я – беларус». І пра тое, што ён – беларус, што мова наша беларуская, што мы павінны гэтым ганарыцца, паэт піша ў кожным паэтычным зборніку. Нацыянальная тэма скразной лініяй праходзіць праз усю творчасць Віктара Шведа.

Ён – пясняр беларускай вёскі на Беласточчыне. Сваёй роднай вёсцы Мора прысвяціў дзясяткі паэтычных радкоў. Шмат створана настальгічных вершаў пра вясковае маленства і юнацтва, пра тыя гады, калі беларуская вёска сапраўды была вялікай, гаманлівай, таленавітай, народнай і дружнай. Толькі сапраўдны паэт можа так апісаць вёску свайго маленства, як гэта рабіў неадноойчы Віктар Швед. Ну, скажыце, чым не хрэстаматыйныя радкі:

*Дзедаўская хата*
*Поўна экспанатаў.*
*З карэнняў калыска,*
*Гліняная міска,*
*Драўляная лыжка,*
*Двайная гладышка,*
*Святыя іконы,*
*Круглы серп зублёны,*
*Вялікія кросны,*
*Кадаўбец дзівосны,*
*Каменныя жорны,*
*Дзяжа на хлеб чорны,*
*Стары калаўротак,*
*Са сноўніцай мотак,*
*Гладка качалка,*
*Крэсіва-запалка...*

Дабрата, шчырасць, інтэлігентнасць духу – вось тыя рысы, якія вызначаюць сёння



характар лірычнага героя Віктара Шведа. Гэтыя рысы прысутнічаюць у зборніках вершаў «Жыццёвыя сцежкі» (1967), «Дзяцінства прыстань» (1975), «Дружба» (1976), «Мая зялёная Зубровія» (1990), «Родны схоў» (1991), «Wiersze wybrane» (1997), «Выбраныя вершы» (2000), «Lata wiatr skrzydlaty» (2000), «Мае Айчыны» (2003), «Адплываем з Мора» (2010) і ў іншых. Віктар Швед не мудрагеліць у паэзіі, не філасофствуе над праблемамі і чалавечым жыццём. Ён заўсёды быў і застаецца прыхільнікам традыцыйнай паэзіі.

Чытаючы вершы Віктара Шведа, адчуваеш жывую душу чалавека, яго імкненне сказаць сваё запаветнае. Яго вершы абуджаюць думку і пачуццё. Паэтычны свет беларускага паэта з Беластока – гэта свет сціпласці, стрыманых пачуццяў і замілавання някідкай прыгажосцю жыцця. Паэт – у лепшых і найбольш характэрных для яго творах – настройвае нас на хвалю нейкай асаблівай спагадлівасці, даверлівай шчырасці. З ім, з яго лірычным героем прыемна быць побач: радавацца жыццю і перажываць яго неўладкаванасць, верыць у шчасце, у будучыню, смуткаваць аб праляцелай маладосці і трывожыцца за будучыню не толькі Беларусі, а ўсяго свету, арганічна і проста быць сваім сярод людзей, сваім і пры нялёгкім успаміне, і ў хвіліну весялосці.

Паэт усё ж заўсёды верыць людзям і жыццю. Ён стараецца прапаведаваць шчырасць і натуральнасць чалавечых узаемаадносінаў і заўсёды горнецца душою да нас, яго чытачоў, запрашаючы да ўзаемнасці і паразумення.

Шмат вершаў Віктар Швед прысвяціў сваім землякам, сябрам, знакамітым беларусам, якія жывуць з ім побач і якіх даўно няма. Многіх з іх ён асабіста ведаў, сустракаўся, сябраваў. Праз яго паэтычныя радкі праходзяць такія асобы, як прафесар Васіль Белаказовіч, Васіль Быкаў, Кастусь Майсеня, Ада Чачуга, Яўген Міклашэўскі і дзясяткі іншых. Ён напісаў і апублікаваў шэраг артыкулаўуспамінаў пра тых людзей, якіх ведаў у Польшчы, Беларусі і ў іншых краінах свету.

Віктар Швед у сваіх вершах заўсёды паэтызуе пагодненасць сэрцаў, узаемны давер і рашуча адмаўляе няшчырасць і здраду. Без суладдзя з дабратой, чалавечнасцю для яго немагчымы свет, разбураюцца сувязі не толькі паміж людзьмі, але і паміж чалавекам і прыродай.

Шмат паэтычных радкоў Віктар Швед прысвяціў дзецям. З друку выйшлі яго кнігі вершаў «Вясёлка» (1991), «Вершы Натальцы» (1998), «Смяшынкі» (2009) і іншыя. Асабліва папулярныя на Беласточчыне яго вершы-смяшынкі, якія аўтар пастаянна друкуе на старонках беларускага тыднёвіка «Ніва». Як сказала неяк Тэрэза Занеўская, у смяшынках Віктара Шведа «быццам у люстры адбіваюцца з'явы штодзённага жыцця і цэлае багацце сітуацый, якое яно нясе з сабой». Героямі вершаў-смяшынак паэта з'яўляюцца дзеці, дарослыя, жывёлы, з'явы прыроды – усе разам яны захапляюць чытачоў сваім гумарам і настроем. Вось адзін з такіх вершаў-смяшынак:

*Пытае мама сынка Колю:*
*— Як адчуваеш сябе ў школе?*
*Адказвае сыночак маці:*
*— Быццам у камісарыяце:*
*Там, мая мама дарагая,*
*Усё пытаюць і пытаюць.*
*Пытаюць часта, надта многа...*
*А я не ведаю нічога.*

Сёння пра творчасць юбіляра можна разважаць доўга. Бо за 90 гадоў пражыта, напісана і надрукавана вельмі шмат. Паэт заўсёды даражыў і даражыць творчай радасцю, верыў і верыць у беларускае слова, яго вялікія магчымасці і дзейсную сілу. Таму ён і бадзёрым сустракае свой вялікі ЮБІЛЕЙ. З чым яго шчыра і віншую!

**Сяргей Чыгрын**

# Душа паэта

## (З прадмовы да «Выбраных вершаў» Віктара Шведа)

**...Адгрымела другая сусветная вайна, канчаткова вызначыўшы межы Польшчы і Беларусі. Ці захавала насельніцтва гэтага краю свае звычаі, абрады, мову і песні? Нешта захавала. Беларускія сяляне могуць яшчэ і паразмаўляць па-беларуску, і паспяваць у застоллі свае спрадвечныя песні. А вось моладзь... Яна асімілявалася.**

У беларусаў няма імунітэту ад асіміляцыі, ад разбурэння свайго нацыянальнага ўкладу жыцця і страты духоўнай спадчыннай культуры. Такімі зрабіў беларусаў на працягу некалькіх апошніх стагоддзяў іх гістарычны лёс.

Беларусы ў Польшчы — нацыянальная меншасць, і асіміляцыя тут – з'ява як быццам што заканамерная. Аднак у Польшчы ёсць і беларускія падставовыя школы, гімназіі і ліцэі, а ў Варшаўскім і Беластоцкім універсітэтах — аддзяленні (кафедры) беларускай філалогіі. Але куды можа паехаць беларуская моладзь беластоцкага краю, каб паслухаць жывую беларускую мову і ўдасканаліць веды па ёй? У Рэспубліку Беларусь? Там — таксама асіміляцыя. У гарадах і пасёлках Беларусі беларускай мовы не пачуеш. Трэба ехаць у палескую вясковую глуш. Можа, там пашанцуе пачуць калі не беларускую, дык беларуска-ўкраінска-рускую ці палескую мову.

Такая рэальнасць...

У зборніках вершаў Віктара Шведа шмат старонак адведзена працэсу асіміляцыі беларусаў беластоцкага краю. Лірычны герой Віктара Шведа, прататыпам якога, бясспрэчна, з'яўляецца сам паэт, — беларус, надзелены інтэлектам захавальніка і апантанага абаронцы нацыі, адзін з нешматлікіх носьбітаў нацыянальнай свядомасці і духу беларускага этнасу, і яго боль і перажыванні, звязаныя з гэтым трагічным і, хутчэй за ўсё, вырашальным працэсам у гісторыі беларускага народа, не пакінуць чытача абыякавым.

Паэт у форме вершаў занатоўвае ўсе свае назіранні — ад успамінаў пра казачна-шчаслівыя дні бясхмарнага дзяцінства да чалавечых перажыванняў і шкадаванняў, выкліканых непазбежным прыходам дажджлівай і невясёлай пары сталасці, скрухі і пакутлівага роздуму, няўмольнага разбурэння чалавечай асобы самім жыццём.

Кожны чалавек перш-наперш цікавы тым, што і як ён робіць, якія будуе палацы, рэальныя і паветраныя, што вынаходзіць і ўдасканальвае, пра што марыць і да чаго імкнецца. А калі ён — творца і сваім талентам прыпісаны да сферы літаратуры ці мастацтва — тым больш.

Той, хто пазнаёміцца з вершамі Віктара Шведа, нават не з'яўляючыся ганаровым членам клуба апантаных прыхільнікаў класічнай ці мадэрністкай паэзіі, зацікавіцца і асобай самога паэта. А гэта ўжо нешта значыць...

Непаўторнае хараство прыроды і любай жанчыны, радасць сустрэчаў і смутак расстанняў, невыказны боль па беззваротных стратах, чалавечыя крыўды і абурэнне, захапленне і расчараванне, — усё, што прымушае хвалявацца і непакоіцца, любіць і ненавідзець, не абышло засяроджанай увагі і дапытлівага розуму і неспакойнай, як і сам час, душы паэта.

«Я нарадзіўся беларусам» — так называецца адзін з вершаў зборніка. Аднак Віктар Швед нарадзіўся не толькі беларусам, але і паэтам. І, нягледзячы на тое, што ён усё жыццё працаваў у сферы культуры, працаваў у розных установах і на розных пасадах, ён з поўным правам можа сказаць: «Мая прафесія — паэт»...

Прырода надзяліла яго незвычайна чуйнай і пяшчотнай душой, якая выяўляе сябе ў кожным вершы, і яе хваляванне пульсуе ў кожным радку, як электрычны ток, і вокамгненна перадаецца ўсім, хто іх пачуе ці прачытае. Так хваляванне паэта перакідаецца з аднаго сэрца на другое, як полымя.

Аднак Віктар Швед нарадзіўся не толькі паэтам, але і грамадзянінам. Можа таму грамадзянскія матывы яго паэзіі заўсёды робяць пэўнае ўздзеянне на розум і свядомасць чытача.

У творчасці Віктара Шведа яскрава акрэсліліся дзве тэматычныя сферы, да якіх ён пастаянна звяртаецца. Гэта — свет інтымных перажыванняў, трывога за свой асабісты лёс і такая ж неаслабная трывога за сваю нацыянальную супольнасць, за будучыню свайго народа і яго гістарычны лёс.

Паэтычны талент Віктара Шведа з тых жа глыбінь народнага духу, што і талент тысяч і тысяч народных песняроў, казачнікаў — безыменных стваральнікаў нацыянальнай духоўнай культуры народа. Паэзія для Віктара Шведа — гэта не інтэлектуальная гульня па законах высокага рамяства, гэта інтуітыўнае выяўленне праз прызму слова зменлівага і вельмі няўстойлівага стану чалавечай душы.

**Яўген Міклашэўскі**

*Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў сардэчна віншуе свайго ганаровага сябра, вядомага беларускага паэта Віктара ШВЕДА з узнёслым юбілеем і шчыра жадае яму сакавіцкага здароўя, беларускай радасці і сонечнай натхнёнасці!*

# Імёны Свабоды

## Паўстанец 1863 года: Генадзь Кісялёў



Дзве кнігі асвятлялі мой шлях у нацыянальны космас: раман «Каласы пад сярпом тваім» Уладзімера Караткевіча і томік гістарычных нарысаў «З думай пра Беларусь» Генадзя Кісялёва.

Насупор універсітэцкім падручнікам і лекцыям на нашым гістфаку БДУ гэтыя шчаслівa адкрытыя мною кнігі сцвярджалі крамолу: гісторыю робіць не народ, а — асобы. І калі ў Караткевіча гэта былі літаратурныя персанажы, якія пакуль дараcталі да сваіх будучых дзеяў, то са старонак Кісялёва да нас прыходзілі рэальныя героі — з адрасамі, імёнамі, мянушкамі. Іх партрэты хацелася павесіць над сваім ложкам у інтэрнацкім пакоі.

Для мяне было вялікай нечаканкаю даведацца, што Генадзь Кісялёў нарадзіўся не ў Беларусі, а ў падмаскоўнай Каломне і што ягоны бацька-расеец амаль усё жыццё служыў у органах дзяржбяспекі. Дарэчы, гэтыя магутныя аргументы не раз выкарыстоўвалі рэдактары кніг Кісялёва, каб абараніць аўтара ад абвінавачванняў у нацыяналізме. Тое, што Генадзь Васільевіч атрымаў дыплом Маскоўскага гістарычна-архіўнага інстытута (у 1953 годзе, пазначаным у савецкім календары смерцю Сталіна), было аргументам слабейшым, бо гісторыкі і літаратуразнаўцы з вайсковымі званнямі ведалі гэтую навучальную ўстанову як «рассаднік вальнадумства».

Каб ураўнаважыць згаданы факт, некім была запушчаная думка, што Кісялёва накіравалі з Масквы менавіта ў Вільню, каб дапамагчы літоўскім таварышам перавыхаваць ідэалагічныя хістанні. Мне думаецца, на выбар месца працы найперш паўплываў сам выпускнік: сказалі сваё слова і беларускія карані маці-віцябнянкі і тое, што ўжо ў віцебскай сярэдняй школе, якую пасля вайны закончыў Генадзь, ён захапіўся гісторыяй Беларусі. Але як бы там ні было, а паўтара дзесяцігоддзя, праведзеныя Кісялёвым на пасадзе супрацоўніка Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы, сталася для беларускай гісторыі і літаратуразнаўства шчасцем. Атмасфера нашай старажытнай сталіцы і яе архіўныя скарбы, памножаныя на магутны талент і апантанасць сваёй справаю, зрабілі Генадзя Кісялёва яшчэ да пераезду ў 1971-м у Менск выдатнай постаццю айчыннай навукі і культуры.

Наступнай сустрэчаю з Кісялёвым — зноў вяртаюся ў гады юнацтва — былі выдадзеныя да 100-годдзя паўстання Каліноўскага «Сейбіты вечнага», першая кніга майго ўжо ўлюбёнага аўтара. Яна чыталася, быццам гістарычны раман: «1863 года 7 сакавіка наглядчык за арыштантамі ў Пабернардынскім будынку жандарскі унтэр-афіцэр Скараходаў падаў у следчую камісію белую насавую хустачку, прынесеную з абедам да арыштаванага Карла Станкевіча (адзін з галоўных дзеячаў нелегальнай менскай паўстанцкай арганізацыі). На хустачцы было напісана алоўкам выяўленне нязменнай любові да яго Камілії Марцінкевіч, якая ўтрымліваецца ў астрозе, вядомая сваім дзёрзкім характарам і адкрыта выказвала свае рэвалюцыйныя ідэі. Пастанавілі: для падтрымання далейшай перапіскі, якая можа выкрыць некаторыя акалічнасці, загадаць Скараходаву перадаць хустачку Станкевічу».

На пачатку 1990-х Генадзь Кісялёў прынёс да нас у выдавецтва «Мастацкая літаратура» дзве важкія тэчкі, на якіх было напісана: «Кастусь Каліноўскі» — яго публікацыі, лісты, дакументы паўстання, сведчанні сучаснікаў. Я развязаў тасёмкі і прачытаў эпіграф.

— *Каго любіш?*
— *Люблю Беларусь.*
— *Так узаемна!*

Пароль паўстанцаў 1863 года.

Ды неўзабаве над краінаю падзьмулі іншыя вятры. Мая рэдакцыя была разагнаная, і загадам палкоўніка, што быў кінуты кіраваць нашым міністэрствам (на тым свеце палкоўнікі Лосеў і Шалгуноў разам з Мураўёвым задаволена пацёрлі рукі), я ў кампаніі аднадумцаў быў звольнены з выдавецтва «за выпуск исторической и другой сомнительной литературы». На вялікае шчасце, тыя дзве тэчкі не загінулі і ў 1999-м папоўнілі «Беларускі кнігазбор» зялёным томам «Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць». Тут у чарговы раз на ўсю поўніцу выявіўся геній Кісялёва — архівіста, гісторыка і публіцыста, які рашуча бараніў імя нацыянальнага героя ад спробаў паставіць яго подзвіг пад сумнеў.

Ужо ў новым стагоддзі мне выпала інтэлектуальная раскоша супрацоўнічаць з Генадзем Кісялёвым у часе падрыхтоўкі першага выдання «Імёнаў Свабоды». Можна сказаць, што дзясяткі яе старонак, азораных імёнамі паўстанцаў 1863-га, былі напісаныя з блаславення мэтра. Ён падказаў, дзе знайсці выявы Камілы Марцінкевіч і Ахіла Банольдзі або са скрухаю, але абсалютна ўпэўнена параіў спыніць пошукі партрэта юнага Адама Пуслоўскага, які ўздельнічаў у паўстанні адзін дзень і ўсё роўна загадам Мураўёва-вешальніка быў пакараны смерцю...

У мяне ўваччу і цяпер стаіць спадар Генадзь — у калідорчыку, вузкім ад кніжных шафаў, што не змяшчаюцца ў пакоях, схуднелы, з прабачлівай усмешкаю, уласцівай хвораму чалавеку, які ўжо прадчувае блізкасць сыходу.

Падпісаць яму «Імёны» я яшчэ паспеў...

А праз пяць гадоў мне выпаў гонар пісаць прадмову да ўжо не першай пасмяротнай кнігі спадара Генадзя «Смак Беларушчыны», куды ўвайшлі шмат якія дасюль незнаёмыя чытачу тэксты. Ужо самі іх назвы прымушалі душу заходзіцца ў радасным прадчуванні — і проста захапляльнага чытва, і глыбіні, і заўсёды неабходнай для маўклівай размовы з Генадзем Кісялёвым разумовай працы: «Пра вешчых песняроў, фартуну Радзівілаў і сакрэты старых радаводаў», «У Дабраўлянах, прыстанку музаў, у 1863 годзе», «Беларускія вёрсты шатландскага двараніна Сен-Клера»... Аматараў гісторыі чакалі сапраўдныя сенсацыі.

Цяпер ён сам навекі далучыўся да сваіх сейбітаў вечнага. Да тых, хто стаяў ля вытокаў нацыянальнай ідэі, хто натхняўся ёю, хто вучыў беларусаў жыць у нацыянальных каардынатах — каб здзейсніцца. Хто ведаў адказ на пытанне, якое і ў XXI стагоддзі не страціла вострай надзённасці: «Каго любіш?»

## Апошні дуэлянт: Уладзімір Дамашэвіч



Аўтары ўсяго толькі пішуць кнігі, робяць іх — рэдактары.

У нас мноства помнікаў пісьменнікам і ніводнага — рэдактару. Калі будзе нарэшце прынятая пастанова пра выпраўленне гэтай несправядлівасці, я прапаную зрабіць правобразам бронзавага Рэдактара незабыўнага Уладзімера Дамашэвіча.

Часам здаецца, што ён быў рэдактарам ледзь не ўсёй сучаснай беларускай літаратуры, прынамсі, той, якая чытаецца й перачытваецца — пачынаючы ад Быкава, Караткевіча, Адамчыка...

Мне выпаў шчаслівы білет: рэдактарам маіх першых опусаў стаў Дамашэвіч. Працаваць з ім было не проста лёгка, але, я сказаў бы, светла. І гэтую светлыню аніяк не азмрочваў той факт, што Уладзімер Максімавіч заўсёды бязлітасна, як пустазелле, выполваў з маіх тэкстаў выраз «так бы мовіць».

Адрозна ад большасці сваіх тагачасных калегаў, Дамашэвіч ніколі не браў на сябе цэнзарскіх паўнамоцтваў. Ён да апошняга змагаўся з галоўным рэдактарам «Маладосці» за тое, каб у маёй першай аповесці «І вярталіся мы...» гарадскіх калядоўшчыкаў-«нацыяналістаў» разганяла й затрымлівала ўсё ж міліцыя, як у аўтара, а не народныя дружыннікі, як загадваў галоўрэд. А потым разам з аўтарам радаваўся, што хоць у эстонскім перакладзе ў тэкст вярнуліся сапраўдныя «героі».

Ён ведаў смак гэтай радасці, бо як пісьменнік сам не раз рабіўся ахвяраю цэнзарскіх нажніцаў, а дакладней — сякеры, што высякала ўжо не абзацы або старонкі, а цэлыя выпакутаваныя кнігі. Дастаткова згадаць мужны раман Дамашэвіча «Камень з гары», які не мог дакаціцца да чытача цэлыя два дзесяцігоддзі.

Праз розніцу гадоў і досведаў я не меў магчымасці зрабіцца ягоным сябрам, але ўдзячны лёсу, што Максімавіч, як ён дазваляў сябе называць яшчэ з «маладосцеўскіх» часоў, заўсёды трымаў мяне ў полі сваёй цёплай увагі ды ветлівай цікавасці.

Сёння, пасля таго, як ён заснуў астатнім сном, імгненна засвяціліся ў памяці тры гісторыі, без якіх уявіць Дамашэвіча мне абсалютна немагчыма.

Першую можна з гістарычнай падкладкаю назваць — «Клецкая бітва».

Гадоў пятнаццаць таму мы з зусім дамашнім Дамашэвічам ды ягонай жонкаю Галінай сядзелі за сталом у іхнім клецкім доме — дыхтоўнай шляхецкай камяніцы напалеонаўскіх часоў, дзе жылі продкі гаспадыні, бацька якой на пачатку 1920-х працаваў дырэктарам Клецкай беларускай гімназіі. Уразілі не столькі сама дамоўка і старасвецкая мэбля, як схаваныя пад будынкам велізарныя сутарэнні, у якіх, адразу падумалася, маглі б адбывацца самыя неверагодныя падзеі з удзелам інфернальных істотаў. Як неўзабаве выявілася, яны там і віравалі, што вымагала ад уладальнікаў дома немалой адвагі.

Аднаго разу пры гасцях і застоліцы спадарыня Галіна выправілася ў спадчыннае падзямелле па мачоныя яблыкі. Падымаецца па каменных сходах назад у хату, а дарогу ёй раптам заступае велізарны пацук. Мужная ліцьвінка, не выпускаючы місы з рук, уступае з нахабаю ў бойку, каб давесці, хто ў гэтых сценах сапраўдныя гаспадары. І тут на дапамогу свайму каралю з усіх куткоў кідаюцца дзясяткі ягоных падданых. Следам за Галінаю яны ўрываюцца ў дом, ускокваюць на канапы й крэслы, караскаюцца па абрусу на стол... Уся застоліца ў жаху кідаецца да дзвярэй. Але на шляху хвастатых захопнікаў устае ўзброены каванай качаргой Уладзімер Дамашэвіч. Менавіта за ім, як калісьці за князем Міхалам Глінскім у Клецкай бітве з татарамі, і застаецца перамога.



Другая гісторыя, у якой таксама можна ўбачыць след пацукоў, адно што іншага кшталту, прычынілася напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 года.

Уладзімер Максімавіч пазваніў (слова «патэлефанаваў» я не ўжываю свядома, бо Дамашэвіч-рэдактар гэты дзеяслоў звычайна правіў як занадта доўгі) з прапановаю тэрмінова сустрэцца. Ён чакаў мяне каля Мастацкай акадэміі. «Валодзя, — сказаў Максімавіч, калі мы зайшлі ў двор, — у бліжэйшы тыдзень, калі ласка, не начуйце дома. Будуць браць. Звесткі з дакладных крыніц. Усюды ёсць нашы людзі». Я згадаў «Клецкую бітву» і сказаў, што буду адбівацца. Дамашэвіч не падтрымаў майго легкаважнага тону і на развітанне паказаў спіс людзей, якіх ён яшчэ павінен быў папярэдзіць.

Трэба сказаць, што я не паслухаўся і начаваў дома. Праз колькі дзён узялі падчас разгрому намётавага мястэчка на плошчы Каліноўскага нашага сына Багдана. Браць дома пачалі праз чатыры гады — у снежні 2010-га. Аднак, упэўнены, што Максімавіч і той, хто перадаў яму спіс, не жартавалі. Проста тады быў запушчаны іншы сцэнар.

Трэцяя гісторыя — пра Дамашэвіча-дуэлянта.

Як вядома, у 1980-я гады дый раней на пісьменніцкіх з'ездах і сходах Уладзімер Дамашэвіч востра выступаў супроць русіфікацыі. А яшчэ — быў час — ён ваяваў з сакратаром Саюза пісьменнікаў Іванам Чыгрынавым. Той паводле пасады адказваў за працу з літаратурнай зменай. Дамашэвіч некалькі разоў публічна прапаноўваў Чыгрынаву зняць з выдавецкіх планаў шматлікія ўласныя выданні й перавыданні на карысць першых кніг маладых пісьменнікаў. Урэшце з гэтай нагоды Уладзімер Максімавіч выклікаў Івана Гаўрылавіча на дуэль.

Усё, здаецца, скончылася прыкладна так, як гісторыя з выклікам на двубой, пасланым у гады Інфлянцкай вайны вялікім князем і каралём Сцяпанам Батурам Івану Жахліваму. Або як гісторыя з такім самым выклікам, што маскоўскі ваявода Шуйскі ў часе аблогі Пскова нашымі войскамі атрымаў ад кароннага гетмана Яна Замойскага, калі, парушыўшы слова, масковец на прызначанае месца не з'явіўся.

Але як бы там ні было, Уладзімер Дамашэвіч, апрача ўсяго іншага, застаўся ў гісторыі і як апошні дуэлянт беларускай літаратуры.

## Прыяцель Скарыны, які марыў пра даведнік «БНР»: Алесь Петрашкевіч



На самым пачатку 1990-х нас пазнаёміў акадэмік Дзмітрый Ліхачоў, якога тады называлі «сумленнем расійскай інтэлігенцыі». Была вечарына ў менскім Доме літаратара, на якой я, не зрабіўшы, вядома, ніякага адкрыцця, сказаў, што і самыя сумленныя і дэмакратычныя «старэйшыя браты», калі заходзіць гаворка пра беларускую або ўкраінскую незалежнасць, імгненна мяняюцца. У пацверджанне згадаў некалькі выказванняў Ліхачова. Напрыклад, пра тое, што «не радея о единстве Русской земли, полоцкий князь Всеслав провел свою жизнь в беспутных походах».

Пасля вечарыны мяне спыніў высокі і высакалобы чалавек з уважлівым позіркам. «Намеснік галоўнага рэдактара «Беларускай Энцыклапедыі» Алесь Петрашкевіч, — адрэкамендаваўся ён. — Пра Ліхачова — цалкам згодны...»

Выдавецтва тады яшчэ называлася «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя». Мне спадабалася, што новы знаёмы прапусціў другое слова.

Я не схільны ідэалізаваць яго. У свой час ён працаваў у апараце ЦК КПБ, пісаў п'есы «у духу патрабаванняў партыі», да прыкладу, пазмагаўся сваім пяром з рэлігіяй. Але Петрашкевіч, па-першае, заўсёды заставаўся беларусам, а па-другое, яго найперш вабіла не апаратная дзейнасць, а гісторыя і навуковая праца, чым ён і заняўся, калі сышоў у «Энцыклапедыю».

Ён пісаў сцэнары мастацкіх фільмаў, апавяданні, памфлеты, лібрэта, але найбольш цікавае і вартае стварыў у жанры гістарычнай драматургіі. Петрашкевіч прызнаваўся, што хоча адлюстраваць у сваіх п'есах увесь шлях беларускага народу — ад часоў Рагвалода да нашых дзён.

Літаратуразнаўцы адзначаюць, што драматургіі Петрашкевіча ўласцівыя канцэптуальнасць, вострая інтрыга, дакладнасць моўнай характарыстыкі вобразаў, публіцыстычная страснасць. Згаданыя якасці найперш выявіліся ў прысвечанай Францішку Скарыну дылогіі «Напісанае застанецца» і «Прарок для Айчыны».

У першай п'есе разам з гуманістам-першадрукаром дзейнымі асобамі сталі Мікола Гусоўскі, Пятро Мсціславец, Максім Грэк, Марцін Лютар, Мікалай Капернік, што стварае пераканаўчы кантэкст еўрапейскага Рэнесансу, аванпостам якога была Беларусь. Часам на сцэне хацелася ўбачыць і самога аўтара, што ў спісе дзейных асобаў мог быць пазначаны як прыяцель Скарыны.

Другі твор, як вынікае ўжо з ягонае назвы, ставіць вечнае пытанне лёсу прарока ў сваёй Айчыне. Скарына апынаецца ў пазыковай пастцы, трапляе ў познанскую турму і ўрэшце пакідае радзіму. Сюжэт, аналогіі з якім няцяжка знайсці і ў сучаснасці.

...Нязменна застаючыся і навукоўцам, Алесь Петрашкевіч пакінуў нам сваю нязздзейсненую мару: выдаць энцыклапедычны даведнік «Беларуская Народная Рэспубліка».

Хто здзейсніць гэтую задуму?

## Самотны рыцар: Кастусь Тарасаў



На пачатку XXI стагоддзя Кастусь Тарасаў атрымаў унікальны пашпарт. Старонку, дзе ставілася адзнака аб прапісцы, аздабляла адно назва краіны. Больш нічога: ні вуліцы, ні нумароў дома і кватэры. Про-ста — Рэспубліка Беларусь.

Прычыну такой анамаліі можна, вядома, лічыць чыста бюракратычнай. Але мне бачыцца тут рука вышэйшых сілаў. Тарасаў сапраўды быў (і застаецца) прапісаны не ў нейкім канкрэтным месцы і годзе, а ва ўсёй Беларусі. Дакладней — у беларускай гісторыі.

Аднойчы мы, яшчэ незнаёмыя, павінны былі спаткацца ў маім Полацку. Каб не размінуцца, прызначылі сустрэчу каля помніка Скарыну. Спадара Кастуся я пазнаў адразу. Ён выглядаў абсалютна нетутэйшым. Падазраю, што такім самым Тарасаў мог падацца і бронзаваму першадрукару.



Я, аўтар першага і пакуль адзінага гістарычнага апавядання, пацісну руку мэтру, з-пад пяра якога ўжо выйшаў раман пра Грунвальд. Але для мяне Тарасаў найперш быў аўтарам кнігі эсэ «Памяць пра легенды»...

«Памяць пра легенды» ў маім кнігазборы ўладкавалася поруч з «Зямлёй пад белымі крыламі» Караткевіча. Як быццам дзве кнігі, асцярожна прабіраючыся паміж іншых тамоў, імкнуліся сустрэцца і пасумовіцца. А можа, хацелі, каб гаспадар паклаў іх на вагі свайго не астылага за дзесяцігоддзі захаплення?

Шалі вагаў пахісталіся, але хутка зноў набылі раўнавагу.

Караткевіч і Тарасаў не канкуруюць, а — дзякуючы розным ракурсам і розным метадам мастацкага даследавання гісторыі — цудоўна дапаўняюць адзін аднаго, прычым гаворка не толькі пра дзве згаданыя кнігі эсэ, а пра іх творчасць увогуле.

Першы — вандроўнік, які глядзіць на мінулае, праплываючы над ім на мангальф'еры. Другі — падарожнік, які ступае па зямлі і можа ахапіць вокам меншы абсяг, затое здольны зблізку пачуць і распазнаць патаемныя шолахі, рухі, прыкметы.

Калі гісторыя, згодна з французскім рамантыкам Жулем Мішле, гэта ўваскрашэнне, то Караткевіч уваскрашаў атмасферу і каларыт даўніны, а Тарасаў — рэальных гістарычных асобаў.

Ён ведаў, што гісторыя — не толькі перамогі і ўзлёты чалавечага духу, але — ці не часцей — горкія паразы, рэнегацтва, чорныя здрады з падзеннем у пекла без ніякага спадзявання на прыпынак у чыстцы. Ён, магчыма, як ніхто іншы адчуваў (і прадчуваў!) трагізм беларускай гісторыі, дзе краіна зноў і зноў апынаецца перад мяжой, за якой — нацыянальнае небыццё.

Аднак Тарасаў не быў бесстароннім сузіральнікам-фаталістам і ніколі не зачыняўся ў кабінеце. Ён не раз пакідаў пісьмовы стол, каб — заўсёды рэзка і доказна — выступіць на мітынгу. Ён не адзін год захоплена й зацята працаваў у часопісе «Спадчына», быў намеснікам галоўнага рэдактара незалежных газетаў «Навіны» і «Наша Свабода». Пазней стаўся адным з заснавальнікаў газеты «Новы час».

Мы не зрабіліся сябрамі, бо гэтага не дазваляла розніца ў гадах, у жыццёвым досведзе, у характарах, але я заўсёды ганарыўся магчымасцю папрасіць спадара Кастуся стаць першым чытачом майго новага тэксту. Штораз гэта ўяўляла сабой складаны экзамен: Тарасаў бездакорна адчуваў любую эпоху, мог умомант злавіць фальшывую ноту і непраўдзівую дэталь...

На мяжы стагоддзяў, ужо ў новым палітычным клімаце, Кастусь Тарасаў выдаў аповесць «Апошняе каханне Міндоўга», якая ўяўляецца мне найлепшым у нашай гістарычнай літаратуры творам пра дачыненні ўлады і ўлады.

Часам здавалася, што для жыцця спадару Кастусю дастаткова адно чытацкай увагі і любові. У тыя гады ён жыў надзвычай сціпла. Наймаў кватэру, а, здаралася, наогул начаваў у майстэрні сябра — мастака і літаратара Вячаслава Дубінкі.

А потым грымнула бяда. Пасля інсульту Тарасаву адняло мову. Нават простым рэчам давялося вучыцца нанова. На шчасце, розум застаўся светлым. Яшчэ не асвоіўшы вуснае мовы, ён зноў пачаў пісаць. Часопіс «Дзеяслоў» прысудзіў яму прэмію «Залаты апостраф». Уразіла сваім экзістэнцыялізмам аповесць «На вайне» пра крывавы патоп сярэдзіны XVII стагоддзя.

Увесну 2010 года Беларускі ПЭН-цэнтр вырашыў уганараваць Тарасава прэміяй імя Францішка Багушэвіча. За колькі дзён я патэлефанаваў, каб паведаміць навіну лаўрэату. Памятаючы, што прамаўляць сказы яму цяжка, я не разлічваў шмат пачуць з таго боку. І раптам — як гром з яснага неба — Тарасаў адказаў мне выразна і чыста, свежым, быццам толькі што народжаным голасам. Я віншаваў яго ўжо не столькі з прэміяй, як з вяртаннем мовы.

Тая наша размова была апошняй. Праз два дні Тарасава знайшлі нежывым на найманай ім кватэры.

З надмагільнага помніка глядзіць такі самы, як і некалі даўно, у Полацку, чалавек з адбіткам нетутэйшасці на твары.

Гэты самотны рыцар і цяпер у падарожжы — у мінулых ці ў будучых стагоддзях.

Там, дзе мы некалі сустрэнемся.

## Кала Бруньён нашага часу: Яўген Будзінас



Калі я задаў сабе пытанне, каго з літаратурных персанажаў нагадвае мне Яўген, адказ выплыў адразу — раланаўскага Кала Бруньёна. На гэтае параўнанне спрацавала нават прысвячэнне рамана святому Марціну, які «сам віно п'е, а ваду на плаціну пры млыне лье».

Яўген, праўда, анічым не нагадваў святога. Хіба што сваёй фантастычнай стваральнай энергіяй, якая дазваляла яму здзяйсняць справы, падобныя да дзівосаў.

Нам вельмі пашанцавала, што сын літоўскага камуніста, колішняга рэвалюцыйнага камісара Жамойці, пагойсаўшы па савецкай імперыі ад Масквы да Цюмені, прыбіўся ўрэшце да беларускага берагу, пачаў працаваць у журналістыцы і стаў адным з вядучых айчынных публіцыстаў.

Пры канцы 1980-х Яўген быў сярод тых, хто не толькі чуйна лавіў вецер пераменаў, але і сам дзьмуў у ветразі нашага карабля на шляху да незалежнасці. Мы і ўбачыліся ўпершыню ў тыя гістарычныя дні, калі ў Чырвоным касцёле адбыўся ўстаноўчы сход «Мартыралогу Беларусі», дзе былі створаны аргкамітэт БНФ, і дзясяткі тысяч беларусаў неўзабаве прыйшлі на Дзяды 1988-га...

Новыя часы дазволілі Будзільніку, як яго клікалі сябры, «зазвінець» на поўную сілу. «Будзі нас, Будзінас!» — напісаў яму тады ў вершаванцы на дзень нараджэння Рыгор Барадулін.

Не пакідаючы літаратуры і публіцыстыкі (шмат хто ўзгадае, да прыкладу, раман «Дураки»), ён стаў старшынём праўлення фірмы-выдавецтва «Паліфакт», якое здзейсніла запатрабаваны на ўсёй постсавецкай прасторы праект «Итоги века» — выпусціла цэлую бібліятэку важкіх буйнафарматных тамоў з вершамі, казкамі, дэтэктывамі, самвыдатам ХХ стагоддзя...

Ён меў безліч клопатаў, але ўлюбёным ягоным дзіцём стаў музейны комплекс старадаўніх народных рамёстваў і тэхналогіяў «Дудуткі» каля вёскі Дудзічы Пухавіцкага раёна. Яны, паводле непахіснага пераканання Будзінаса , былі якраз тымі Дудуткамі з «Слова пра паход Ігаравы», дзе ў свой час адзначыўся ўдачлівы супернік самога язычніцкага бога сонца Хорса полацкі князь Усяслаў Чарадзей.

У 1994-м дзякуючы Яўгену і ягоным аднадумцам Дудуткі пачалі новае жыццё. Там задыхаў кавальскі горан, закруціліся ганчарныя колы, загрукацелі ткацкія варштаты, пацягнула дымком ад бровара...

На ладжаных Яўгенам шматлюдных святах з іхняй непаўторнай куражнай атмасфераю вакол славутага тамтэйшага самагоннага агрэгата ўперамешку раіліся, нібы пчолы, дыпламаты і літаратары, журналісты і музыкі. І я там быў, і шчасліва адпачываў пад кустом агрэсту, калі пасля шкляначкі «будзінасаўкі» галасы рабіліся цішэйшымі, фарбы — ярчэйшымі, а жанчыны — прыгажэйшымі...

Уяўлялася, што Будзінаса любілі ўсе — былыя жонкі, не былыя дзеці і унукі, Генадзь Бураўкін, Барыс Забораў і Андрэй Вазнясенскі, дзеці і ўнукі сяброў, якім уражанняў ад Дудутак хапала на цэлы год.

Аднак знайшліся і тыя, каму Яўген, ягоныя таленты, вальнадумства, поспех, яго афарызм, што «палітыка — гэта задворкі розуму», сталі ўсё больш замінаць...

Надышоў дзень, калі ён не змог прыехаць у Дудуткі як гаспадар.

...На самым схіле жыцця, безнадзейна хворы на рак, Будзінас напісаў і паспеў выдаць кнігу пра каханне «Давайце, девочки». У пакінутым мне аўтографе ён у сваім стылі выказваў веру ў тое, што мы іх усіх (меліся на ўвазе зусім не дзяўчаткі) перапішам, пераплюнем, перакрычым... далей ішла экспрэсіўная нецэнзурная лексіка.

Гэтыя ўсе ў апошні момант (ужо і арэнда была аплочаная) подла сарвалі прэзентацыю «Девочек» у мінскім Доме літаратара, які ўжо належаў не літаратарам, а тым, каму чытаць кнігі «нету ўрэмені». Але Яўген усё роўна прэзентаваў кнігу — у Дудутках, каля свайго загараднага дома, куды і запрасіў усіх, хто сабраўся перад зачыненымі дзвярыма ў сталіцы.

Хвароба ўжо пахіствала яго, але здавалася, ён проста рухаецца ў такт мелодыі вядомай саксафаністкі. На шчодрых сталах былі ягоныя ўлюбёныя беларускія і літоўскія прысмакі. За сталамі — тыя, каго ён не хацеў пераплюнуць і перапісаць.

Гэта было развітанне.

Наступны раз мы сустрэліся там, калі ў садзе, зусім блізка ад дома, які так любіў Яўген, з'явіўся надмагільны камень.

**Уладзімер Арлоў**

# Розныя простыя рэчы



Франц СІЎКО

**Дабрыня — як патрыятызм: і дурною можа быць, і кваснаю, і, наадварот, высокаю, годнаю. Вось старая маці спаларушанага, ды збольшага ўжо паднятага лекарамі на нозі 40-гадовага сына ў цягніку дадому з санаторыя вязе. Анёлахоўнік, іначай не скажаш — гэтулькі даклівае, ледзь заўважнае староннюму воку самаахвярнасці ў кожным жэсце жанчыны. Адзінае, што дарэшты выдае стан душы — водбліск трывогі ў вачах, калі памагае даросламу дзіцяці ўсторкнуць на ногі тапкі, праводзіць паглядам у калідор, а потым чакае, наструнішыся ўсім целам, калі ж яно ўрэшце вернецца з прыбіральні ў купэ.**

Такое ўражанне бывае пасля сустрэч са знаёмымі ў горадзе, быццам я адзіны тут, у гэтым амаль паўмільённым Віцебску, шчаслівы чалавек. Усім кепска, усе пры сустрэчы скардзяцца, на штосьці ці кагосьці наракаюць. Тое самае па тэлефоне: жальбы, жальбы, жальбы... Матор аўто не цягне, ныркі хібяць, яешня прыгарэла, піва занадта горкае, цешча (свякрова) зноў свінню падклала і г.д.

Крыху падсалоджваюць карціну масавай роспачы самадзейныя паэты. Жаліцца, жаліцца чалавек, а напрыканцы і агаломшыць знячэўку тым, дзеля чаго, відаць, і патэлефанаваў: «А давайце вам вершы пачытаю! Хочаце?»

Ну што за пытанне! Канечне ж — «хочаце», асабліва калі заспелі цябе спрасоння ці калі з ванны на званок выскачыў і стаіш басанож мокры на халоднай падлозе са слухаўкаю ў намыленай руцэ.

А іншым разам слухаеш, слухаеш жальбы ды, збіты дазвання з панталыку патокам словаў на тым канцы проваду, чакаеш: ну калі ж? калі?

Доўгі, як дарога да святасці, маналог пра беды-няшчасці, уздых, усхліп, хвіліна маўчання, і вось яно, нарэшце, доўгачаканае-жаданае, галоўнае — наконт вершыка: «А хочаце..?»

Як знячэўны ўдар пад дых — купка маміных півоняў наўзбоч зараслага быльнягом ды вербалозам папялішча. Наўкола хмыз, трава ў рост чалавека, бязлюддзе, і раптам — такое. І горыч, і радасць, і здранцвенне. І ўсё-такі радасці куды больш. Як прывітанне з іншасвету, як доўгачаканая вестка пасля трох дзесяцігоддзяў маўчання.

Не так тое цікава, як цяжка было чалавеку ў сітуацыі прыніжанасці, як тое, што сталася прычынаю метамарфозы, калі ён, крыху ўзняўшыся над іншымі, сам пачаў іншых прыніжаць. Як тыя, што з затурканых выбіліся, самі іншых туркаць пачынаюць? Вось тут, мабыць, вартая пяра псіхалогія і пачынаецца.

Памятаю, вёў курсы для супрацоўнікаў тэхналагічнага ўніверсітэта, большасць з якіх складалі бібліятэкары. Правялі жанчыны ўсё справаводства ў бібліятэцы на мову, а потым прыйшла з ідэалагічнага аддзела нейкая пстрычка і ціха сказала: «Па-беларуску ў вас усё? А навошта?». І гэтага было дастаткова, каб напрацаванае ўадначас скасаваць. Цікава, колькіх дэцыбелаў голасу спатрэбіцца наглядчыкам ад ідэалогіі, каб сённяшні рух вакол мовы зачыніць? Ці і шэпту будзе даволі?

Журналіст з дзяржвыдання: «Ну, і калі ўжо вы, пісьменнікі, пачнеце да справы беларусізацыі прычыняцца?». — «А што ты на ўвазе маеш? Прыйсці да вас у рэдакцыйны калектыў за мову агітаваць? А прыцэл хіба нельга зрабіць? Збярыце калектыў, аб'явіце беларускую асноўнай рабочай — і справа ў капелюшы».

Звычайнае айчыннае нахлебніцтва: грошы за працу атрымліваць буду я, а выконваць працу — ты, калі ласка, парупся.

Даводзілася назіраць у студэнцкіх групах: часам лепш за ўсіх валодаюць беларускаю мовай самыя кандовыя, самыя непрымірымыя беларусафобы. І ўсё адно гэта — яшчэ не паказчык узроўню самасвядомасці маладога чалавека. Жыццё наперадзе, і як яно павернецца, якім бокам — хто ведае.

Калісьці ўдваіх са старшынёй гарадской суполкі ТБМ напрасіліся да тадышняга мэра Віцебска наконт пашырэння сферы ўжытку ў горадзе беларускай мовы пагаварыць. Сустрэў такі імпазантны, хітраваты чалавечак, ківаў у адказ на нашы ветлівыя закіды, быццам пагаджаўся з тым, што яму казалі, а на твары чыталася няўцямна-непрабівальнае: «Што вам трэба, дзецюкі? Які бес вас круціць з гэтаю вашаю мовай?» Бачна было: іншае зусім, толькі не мова, у галаве ў чалавека, іншае яму абыходзіць. А праз колькі месяцаў і вылезла вонкі таемнае: злодзей аказаўся наш гарадскі галава, пракраўся на нечым, пасадзілі. І цяпер ужо нам, двум дурням, няўцям стала: навошта хадзілі? І галоўнае — да каго?

Вушмала. Так кажуць пра дзіця, якое быццам бы ўжо збольшага і разумее, што яму кажуць, і разам з тым яшчэ — не зусім. Недарослае, але ўжо разумнае.

Я ў свае шэсцьдзясят з гакам таксама, аказваецца, вушмала. «Вы стары, але разумны стары», — быў днямі ашчаслівілены фразаю знаёмага студэнта-земляка.



Землякі-міжрэчанцы дзівіліся: «У горадзе жывеш, а ніколі ад цябе рускага слова не чулі. Няўжо не навучыўся па-гарадскому дэчыць?» А я на той час якраз у школе рускую ўжо ці не дзясяты год выкладаў. Але што праўда, з вяскоўцамі ні разу сабе размаўляць не па-іхняму (не па-нашаму) не дазволіў. І не з ідэі нейкай ці ўпёртасці. Проста вылучацца з роднага асяроддзя лічыў за негустоўнае. Яны па-беларуску, я па-руску — якая нясветная мешаніна была б пры размове, які дысананс.

У гарадской ратушы падзея: прэзентацыя выдадзенага нашым творчым Саюзам літаратурнага альманаха. Людзей аж зашмат, а журналістаў з дзяржвыданняў — каб хоць адзін дзеля разводу. І зразумець іх можна: напішаш, а рэдактар не ўхваліць, не пусціць у друк на падставе, што Саюз жа, маўляў, «не той», апазіцыйны. У рэдактара дзеці, на паборы з людзей падчас падпісной кампаніі гадаваныя, унукі, што з голаду, мабыць, пухнуць і сваёй чаргі на дабрачыннасць памяркоўных гараджанаў чакаюць. Там, глядзіш, праўнукі з'явяцца — іх трэба будзе ўсім народам, талакою падымаць. У простыя ж карэспандэнты рэдактару ісці, дарма што год пяць ужо, калі не болей, паводле ўзросту пенсіянер, зусім не хочацца. Так і працуем грамадою на тых згладнелых начальніцкіх нашчадкаў.

Ва ўсёй гэтай гісторыі са змушэннем літаратараў да пераходу ў праўладны Саюз — быдляцтва і нічога болей. Прыходзіць нейкая сволач і пачынае вучыць людзей, дзе і з кім ім быць. Кожны, каму ўзбрыдзе ў галаў, нясе ў творчую сферу паводле вызначэння неўласцівыя ёй правілы гульні. Дасядзіць чалавек да пенсіі ў нейкай канторы, а затым гоп — у тыя ж літаратары. Статус быццам памяняе, а ўсё, што спадарожнічае яму, прыняць ні жадання, ні волі, ні — галоўнае — звычкі не мае. І пры чым тут была б псіхалогія? Тая, корпацца ў якой — тое самае, што шукаць чалавечнасці ў алігатара або, як казала Како Шанэль, дбаць пра космас замест таго, каб пастарацца забяспечыць усіх больш-менш прыстойнымі прыбіральнямі.

З усіх святых дваіх асабіста ведаю. Ірыну і Рысіка, сястру і мужыка яе. Дваццаць сем гадоў штодня з лыжкаю пры спаларушаным, нерухомым дзіцяці — хіба не годна чыну святасці? І ўсё — моўчкі, без нараканняў, крыўдаў на несправядлівасць лёсу.

У вёсцы, што ў вярстах чатырох ад Віцебска, могілкі на ўскрайку, упрытык да апошняй хаты. Вузенькая, метры ў чатыры, паласа паміж сцяной жытла і агароджаю кладоў, і адразу ж за ёю — захаванні, крыжы, пастаменты. Уявіць толькі: у хаце гаспадар на ложку, побач, амаль што ўстыч, парэшткі нябожчыкаў у трунах. Якія нервы трэба мець, каб з дня ў дзень, з году ў год вытрымліваць гэткае суседства. Ды яшчэ ў дадатак да ўсяго спажываць з гародчыка ў ежу садавіну-гародніну. А ці яшчэ лепш: панесці тую гародніну на кірмаш, прапанаваць людзям на добрае здароўе ўсё тое амаль што на могілках вырашчанае.

Як паглядзіш каторыя айчынныя інтэрнэт-форумы, дык часам такое ўражанне складваецца, быццам адны 80-гадовыя старыя на іх пішуць-дыскутуюць. І не ва ўбостве афармлення думак справа. Штосьці іншае, кшталту кашы ў галаве, з шэрагу светапогляднага, дакладней — адсутнасці яго, мабыць. У сукупнасці ж з бязграматнасцю і наогул уражанне канца свету.

Ноўкаўскі лес — зусім прыгарадны, вярстах у шасці ад Віцебска. Між тым месцамі глухі да вусцішу: яры, яміны, гушчар. Асабліва ў бязлюднае будзённае ранне страхавіты. І грыбны, як ні дзіўна. Асабліва там, дзе дзікамі акупаваны-развораны. На разворах тых заўсёды што-небудзь ды знойдзеш. Не баравік, дык так званы польскі грыб падымеш, не падасінавік, дык сушонік. Груздоў шмат, парасонаў. Паходзіш па вепручных сцежках, і няўзнак кошык з сяго-таго і набярэцца. І ўдала, і не самотна: хто-ніхто, хоць якая, хоць вепручыная, але ж жывая душа побач. А сёлета — каб след жывёліны у лесе. Выбілі ўадначас дзічыну з-за пагрозы эпідэміі чумы, і адразу спусцеў неяк, зрабіўся няўтульным, нежывым прыгожы ноўкаўскі лес.

Па звальненні з універсітэта, падчас працы прыбіральшчыкам пры храме дзве рэчы асабліва прыгняталі: грэблівае стаўленне людзей да фізічнае працы і, адпаведна, праявы высакамер'я да чалавека, што ёю займаецца. Але найбольш — непрыкрытае часам дэманстраванне переваі перад такім чалавекам. І з боку тых жа святароў, Божых служкаў, між іншым, таксама. Што асабліва прыкра.

Як бы проста ні выглядаў часам Чэхаў, асоба яго на фоне нават такіх няпростых дзеячаў рускай літаратуры, як, напрыклад, Дастаеўскі, — самая няпростая, загадкавая. У такой аграмаднай перапісцы не дае майстар кароткага апавядання зачэпкі для пранікнення ў глыбінныя пласты душы. Пра тое, што елі ўранні, напіша, пра ўласны гемарой — калі ласка. А што за ўсім тым — аднаму толькі Богу ды самому аўтару ведама. Такое ўражанне, што староннія — усе, а душа — заўжды па-за кантэкстам прамоўленага.

Ці быў Чэхаў чалавекам апалітычным, асацыяльным, як яму гэта закідаюць (і часта не без змыслу ўласную адсутнасць грамадзянскай пазіцыі апраўдаць), лёгка праверыць. Напішам твор пра высокага чыноўніка па імені Равуноў-Каравулаў або Прышыбееў, дадамо, што быў ён «старэнькі і заржавелы» і занясем у якое-небудзь нашае сённяшняе дзяржаўнае выданне. Ці надрукуюць?

Быццам апалітычны, быццам асацыяльны, а з усяго пакалення расійскіх літаратараў мяжы стагоддзяў — выкрывальнікаў сацыяльных заганаў таго часу — не выпадае. Хіба што Салтыкову-Шчадрыну крыху ў імпэце выкрывальніцтва саступіць. Чэхаў не шукаў праўды, ён яе ведаў, ілюстраваў бязжаласна і разам з тым па-мастакоўску адстаронена, і гэта больш за ўсё людзей і збівае з панталыку.

На фоне шчыраванняў вядоўцаў расійскіх тэлеканалаў на тэму ўкраінскіх падзей шторазу іншыя расіяне ўзгадваюцца. Талстой з яго «Хаджы Муратам» ды прасякнутым спачуваннем да ўдзельніка вызвольнай барацьбы 1863 года творам «За што?». Антон Паўлавіч з ягонымі добразычлівымі згадкамі пра сялянаў-украінцаў з ваколіцаў Славянска ў лістах да сястры па дарозе ў Таганрог. І хоць і няшмат такога ўзгадаеш, ды ўсё ж хоць на які градус не такою змрочнай выдае сітуацыя з братамі-расіянамі.

А самая наша "Вайна і мір", галоўны літаратурны здабытак, — канечне, «Тутэйшыя». Тут галоўнае: і гісторыя, і метафізіка, і псіхалогія, і калектыўнае бессвядомае, і тэатр абсурду. Люстэрка, у адбітку якога ўсё астатняе, нават самае выбітнае — усяго толькі варыяцыі, фрагменты мазаікі. Нязручная, мулкая, дакладная ў сваёй непрывабнасці ілюстрацыя адсутнасці, дурнога пафасу ад наяўнасці таго, чым хваліцца ніяк не выпадае. Было б іначай — вунь бы як ахвотна сёння на цытаты расцягвалі.

# Экспромты каля Каложы



Данута БІЧЭЛЬ

### Дасвеццем

*Твая сівая Каложа*
*не дапаможа,*
*нас ніякіх няма даўно ўжо...*
*Сама я на бездарожжах*
*не назбірала нікчэмных грошай,*
*не памятаю, як там прыгожа...*
*Гародня без агарожы...*
*Між зор-гарошын*
*размінемся, агню нап'емся*
*ці сцюжы –*
*незаўважныя душы...*
*Час ліхтары патушыць...*

### З маленства

*Ад страху ўцякала я ў кроны дрэваў...*
*Цяпер шукаю гаючай вады.*
*Гаіла душу мне сястрыца Рэня.*
*Цяпер мяне слухаеш толькі Ты.*

*Бывае, з Табой уначы размаўляю,*
*з Кісуляй муркочам малітвы ў цямне.*
*Выпрошваю тым, хто любіў мяне, раю.*
*І чую: Ты, Божанька, чуеш мяне.*

*Раслі ў бядноце з Табой таксама,*
*бабкі пяклі з залатога пяску...*
*Калыску маю калыхала мама,*
*Тваю — Маці Божая на святым абразку...*

### Але не ўсюды

*Адбываюцца цуды,*
*але не ўсюды.*
*Дапамажы мне, святы Антоні,*
*выплыць на чыстыя тоні!*

*Пабылі мы ў Гародні ў гасцях,*
*як пакупаліся ў сажы.*
*Скакалі па нечых касцях.*
*Нехта паскача па нашых.*

*З каменя ў камень сцяжыны*
*ўцякаюць ад летняга грому.*
*Гэтыя чужыя машыны*
*адвозяць душы дадому.*

*З віру ў вір віравалі,*
*заблудзіліся ў глеі...*
*Назбіралі... Падаравалі...*
*Болей анічога не ўмелі.*

*Нават вораг не памятае,*
*якая была я не тая...*
*Адчыняць акно ў Беларусі,*
*а я не прачнуся...*

### У цішы

*Цішы дрыготкія хвалі*
*дрыжалі, паветра ўдыхалі,*
*на выспе нябёс нічыёй*
*чужую душу прызямлялі.*



*Застануся на выспе*
*незабранай зямлі нічыёй,*
*ціша ніколі не выспее,*
*наталюся яе гаманой.*

*Словы шукаю –*
*знаходжу вечнасці знакі, –*
*Бога дыханне, укрытае*
*у Табэрнакулюм.*

*У Дрэве Жыцця Сына Божага,*
*ў вечнасці нішы*
*цёплым дыханнем узношуся,*
*раствараюся ў цішы...*

*Шчэ адчуваю навобмацак*
*быту грэшнага цвердзь.*
*Шчэ прысяду на воблачках...*
*Шчэ не ведаю, што гэта ўжо смерць...*

### З маладосці

*Дачка Адама з Гародні*
*маршчынкі хавала пад маску,*
*адчыняла акенца ў казку...*
*На дрывотні...*
*І Нёман — праз пералазку.*

*Ад Каложы да той хаціны*
*па каменні ветрык каціўся.*

*На клёнах Каложы птаства*
*спраўляла бязладныя хоры,*
*нават ты, невылечна хворы,*
*крыху папраўляў гуморы...*

*На Каложы*
*сама Маці Божая*
*шліфавала з маёлікі пліткі,*
*укладала каляровыя крыжыкі*
*паміж плінфамі...*

*Ты варыў чарадзейную каву,*
*ў турку з Нёмана чэрпаў ваду...*

*Божа!*
*Так нерэальна прыгожую,*
*так празаічна цікавую*
*казку... Ты нам прыдумаў!*

### Світанак

*Світанак*
*пасля бязладных начных выпіванак –*
*на хмарках шкельцы ад шклянак,*
*з паблытаных нітак-маланак...*
*За плотам зялёным ганак...*
*Месячык з-за фіранак...*
*Францішак?*
*Антонік?*
*Янак?*
*Так...*
*Клёны пайшлі за Адамаўнай*
*ва ўсясветнае бездарожжа...*
*ад Маці Божай з Каложы.*
*Нёман руйнуе бераг –*
*трашчыць Каложа.*
*Толькі сонейка*
*тое самае.*
*Знак.*

**Студзень 2015 г.**

# Бяссонныя дрэвы



Іна СНАРСКАЯ

### Памяці нябеснай сотні

*Па беламу — трава,*
*па чорнаму — няволя.*
*Галосіць удава*
*савою ў чыстым полі.*
*Па чорнаму — снягі*
*пярыну сцеляць душам,*
*дзе волаты ляглі,*
*там і сірот задушаць.*
*А пушчы хараство*
*спяліць птушыны вырай.*
*Лятучае яство*
*успомніць сны пра крылы.*
*Успомніць даўніх дзён*
*жывую таямніцу:*
*хто ў вышыні анёл,*
*той на зямлі — крыніца.*
*А прашчур скажа нам:*
*«Не будзі яко чэрві...»*
*І херувім, як храм,*
*асвяціць шлях вячэрні.*

### Воўк снягоў

*Што не заб'е, то зробіць нас мацнейшымі.*
*І выйдзе воўк снягоў хадой адважнай.*
*Ён, князь лясоў, ступіў на след мой першы,*
*ён ведае, чаго свабода важыць.*
*І я ваўку зірнула прама ў вочы.*
*Пабачыла паходні і капканы,*
*І зоркі спелыя сярод сірочай ночы,*
*і кінуты ў звера чорны камень.*
*Што не заб'е, то зробіць нас мацнейшымі.*
*Мы па адной цяпер ішлі сцяжыне.*
*Душу сваю я ратавала вершамі,*
*а воўк снягоў застыў кустом ажыны.*

***

*Дзе неба з аўчыну,*
*там ў сэрцы — айчына.*
*Сірочае шчасце*
*у людзях не прапасці,*
*выжыць, не знікнуць,*
*да здрады не звыкнуць.*
*А вецер — салёны.*
*А позірк — калёны.*
*І жоўтыя вёрсты —*
*няродныя сёстры.*

***

*Не паспяваю жыць*
*не для сябе, для іншых,*
*і дарагіх людзей*
*губляю па чарзе.*
*Гарыць мае лясы —*
*душу ўкрывае іней.*
*Гарыць мая зямля —*
*скляпенне сноў-надзей.*
*Не паспяваю жыць —*
*за хлебам, не за срэбрам.*
*І некалі сустрэць*
*сваіх сівых сяброў.*
*Ляціць, ляціць жыццё*
*да брамы ў лютым небе.*
*І не хапае сіл,*
*і не хапае слоў...*

*Мы — дрэвы, бяссонныя дрэвы.*
*Далей і далей ад зямлі*
*ляцім пад замовы мяцеліцы,*
*пад міты шаўковай травы.*
*Мы — дрэвы. Пішыце лісты нам*
*на крыльцах сівых матылькоў,*
*на павуцінках асенніх,*
*на лапах галодных ваўкоў.*
*Далей і далей ад карэння...*
*Жадаем, як волі, нябёс,*
*ды цяжка нам стаць на калені,*
*прыняць адзінокі наш лёс.*
*І горка, і позна вярнуцца*
*галінкам на небе вякоў,*
*і не дае азірнуцца*
*кара са слядамі цвікоў.*

***

*Знямелі вершы, песні адзвінелі,*
*змялела рэчка вербамі на ўсход,*
*а я іду да пракавечнай веры*
*у адмысловы сонечны паход.*
*А я іду — і дрэвы вырастаюць,*
*і матулькі садзяцца на руку,*
*а гэта значыць, што мяне пазнаюць*
*на тым баку.*
*Адтуляцца нябёсы — брама ў сэрца,*
*на могілках загояцца крыжы.*
*Там, дзе любоў — няма тугі і смерці.*
*Хіба дажджы...*

***

*Нябыту кажа дарога: «Не!»,*
*«Не!» — забродам і выраканцам.*
*Мой лёс запрагае лепшых коней,*
*на Радзіму збірацца раніцай.*
*А Радзіма кожнаму сілы дае*
*аб каменне не біць калені.*
*Дарога вучыла мяне сталець*
*памяццю пакаленняў.*
*А на могілках родных крывавяць крыжы.*
*Жаўрукам акрыляць далягляды.*
*Дарога-сястрыца дадому бяжыць,*
*да бацькаўскага пасаду.*
*Нябыту кажа дарога: «Не!».*
*А я прарастаю галінамі*
*ад каранёў, што жывілі мяне*
*і на зямлі пакінулі.*

***

*Мы сустрэнемся ўсе калі-небудзь*
*на скрыжалях вятроў і дарог,*
*у далонях сунічнага неба,*
*на зары каралёў і нябог.*
*За ракой, за абшарам сусвету*
*чарадзейныя ёсць астравы,*
*там і вечар рыфмуецца з верай,*
*там і сосны — сёстры травы.*
*Мы сустрэнемся ўсе нечакана*
*па крыві, па сумленню радня...*
*І рукі не падыме Каін,*
*і прыме яго зямля.*

### Жаўруковая воля

***Памяці загінулых***

**1**
*Дзяўчынка, вяшчунка, душа,*
*ты моўчкі крычыш ад болю.*
*Толькі табе вырашаць,*
*ці прадаецца воля.*
*За сотню, ці за пятак,*
*за маселка з пірагамі.*
*Бо каінава пячаць –*
*штандарам чужым над намі.*

**2**
*Цёмна, сястрыца, цёмна*
*у светлы жніўеньскі дзень.*
*На камяністай прошчы*
*я запалю агмень.*
*І паляцяць, як знічкі,*
*золатам да нябёс*
*душы ахвяраў прошчаных*
*у жаўруковы лёс.*

**3**
*А яны больш лістоў не напішуць,*
*бо паляцелі лісты*
*пялёсткамі сонных вішань,*
*водарам кветак лясных.*
*А яны лістоў не напішуць.*
*Надта павольна хада*
*дрэваў, што бачылі іх яшчэ*
*жывымі. Пакуль бяда*
*не разлучыла.*
*Заснулі. Спачылі.*

**4**
*А лёс схавае пад крыло*
*апошнюю зару.*
*Усе дарогі замяло,*
*а я агнём гару.*
*Цяпер за кожнага дажыць*
*прыйдзецца ўдвая*
*табе і мне на той мяжы,*
*дзе вешчая трава.*
*На той адчаянай мяжы*
*прастрэленых вятроў,*
*дзе нават горкія крыжы*
*спяшаюцца дамоў.*

# Згублены ключ



Сяржук СЫС

**Аднойчы я нетаропка крочыў старымі кварталамі паўднёвага, амаль курортнага, палескага горада. У той вераснёўскі ціхі надвячорак я нічога не заўважаў вакол сябе: ні засяроджаных гараджанаў, якія спяшаліся пасля працы схавацца за сценамі ўласных ракавак-кватэр, ні адвольна падзеленых светлафорамі табуноў імклівых аўтамабіляў, ні тое, што пад нагамі гучна хрумсцелі апалыя рудыя лісты.**

На душы было ніякавата, а, мусіць, нават і горш — пагана. Тым вечарам я неяк выразна адчуў, што мне катастрафічна не хапае грошай. Дальбог, пярэчу сам сабе, а калі іх увогуле хапае? Ды і не толькі мне. Але тут… тут іншае. Перад табой — утульная вуліца, вірue жыццё, а ў цябе ў кішэні — анічога. Добра, што яшчэ засталіся цыгарэты, інакш быў бы зусім кірдык.

Я ішоў, напружваючы памяць прыгожай вуліцай, што плаўна збягала ўніз, да ракі. Недзе тут, паблізу, мусіла месціцца невялічкая майстэрня. Звычайна ў такіх можна адрамантаваць парасон, заправіць газам запальнічку. Мне ж патрэбна было тэрмінова вырабіць ключ. Дакладней — два. Звычайныя «англійскія» ключы ад звычайнай савецкай «хрушчоўкі». Недарэчна так атрымалася, што амаль адначасна ключы пагубляліся — спачатку дачка «пасеяла» свой, а назаўтра згубіла ключ і жонка. Трэці і апошні быў пры мне: ляжаў глыбака ў кішэні джынсаў.

Майстэрня, заціснутая з абодвух бакоў стракатымі камерцыйнымі павільёнамі, аказалася зусім побач з тралейбусным прыпынкам. Вусаты дзяцюк прасунуў палову няголенага твару ў металічную амбразуру і, зірнуўшы на працягнутую далонь з ключом, запэўніў: «Зраблю. Такія нарыхтоўкі якраз падвезлі. Толькі якіх пяць хвілін пачакай. І рыхтуй дванаццаць тысяч».

Раніцай, перад тым, як выправіцца на працу, жонка дала дваццатку. На два ключы не хапала, але калі замовіць хаця б адзін — застанецца восем тысяч рэшты. Не вагаючыся, я пагадзіўся.

Новы ключ-блізнятка быў яшчэ цёплы ад напільніка майстра, калі я ўкруціў яго на металёвае колца і глыбей засунуў у кішэню. Затым няспешна палез у барсетку па цыгарэты «LM», закурыў. Жонка звычайна вяртаецца дадому а сёмай, а цяпер — гадзіннік звыкла слізгануў па запясцю — толькі пяць. Часу заставалася яшчэ ладнага, і можна нетаропка прайсціся пешшу.

Калі быць, наколькі гэта магчыма, шчырым, то я не магу адказаць нават сабе, чаму ўзгадваю той звычайны дзень гэтак падрабязна. Якая прычына? Ці патрэбныя каму гэтыя недарэчныя ўспаміны, гэтая залішняя дэталізацыя шэраговага вечара правінцыйнага саўковага журналіста. Хіба што толькі сабе. Верагодна, было яшчэ тут нешта іншае, адметнае і няўлоўнае, і таму, відаць, спрацаваў механізм перасцярогі: не забыць, не згубіць у мітусніне падзеяў дробныя дэталі таго вечара.

Вялае сонца даўно кульнулася за няроўную сцяну дыхтоўных мураваных дамоў. Але ліхтароў яшчэ не запалілі. Вуліца, яшчэ больш прыгожая і загадкавая, паволі ахутвалася сіняватаю вераснёўскай дымкаю, якая няўлоўна пачала раз'ядаць строгія абрысы рэчаў. Раптам я звярнуў увагу на нешта знаёмае: у натоўпе мільганула стракатае паліто, — рэдкая з'ява для нашага горада. Раскрыўваючы лёгкае мроіва, паліто імкліва перасякала вуліцу. Яно таксама заўважыла мяне і, шырока раскінуўшы рукавы, заварочвала ў мой бок. Так яно і ёсць: Барбароса.

— О, Жорж! Якая сустрэча! Няўжо, нарэшце, мы пабачыліся? — ягоная нардычная ўсмешка, падалося, асвяціла на момант наваколле.

Прызнацца, у той дзень мне не хацелася бачыць нікога са знаёмых, але што, урэшце, залежыць ад нашага жадання?

— Прывітанне! Куды спяшаемся? Табе ж, здаецца, у адваротным накірунку, — азваўся я, трапляючы ў абдымкі даўняга сябрука.

— Вяртаюся на працу. Хутка павінны пад'ехаць знаёмыя лабусы па тэксты. Публіка жадае співаць маімі словамі, разумееш? Грэх, браце, адмовіць. Ну а ты? Як жыццё, нацыяналіст? Чакай… месяцы два не бачыліся, відаць? — без перадыху, нібы ў радыёэфіры, сыпаў словамі, як заўсёды, цупкі і чырвонашчокі Барбароса.

— А што тут казаць? Усё як і раней. Жыццё, кажаш… Што за жыццё! Так, звыклая бытавуха, тлум. Ты ж сам бачыш, колькі часу прайшло ад нашай апошняй сустрэчы. Ды і сустрэліся во, на бягу, выпадкова. Смешна казаць — жывем жа амаль побач. А каб вось знайшлася вольная гадзінка, дык маглі б па-ранейшаму, па-людску, правесці час.

— Хіба паўгадзінкі, не болей. Можна крыху прайсціся, — і дадаў асцярожненька, нібы правяраючы маю рэакцыю: — Можа, дзе піва на вочы патрапіць.

Верыце, піць мне не хацелася. Тым больш піва. Устыла, мякка кажучы. Аднак, зрабіў выгляд, што якраз гэтага і чакаў, моцна ж хацелася «паспавядацца» пра свой, надта ж незразумелы і трывожны, настрой перад



**Амаль усе твае рухі пад татальным кантролем. І ты думаеш, мне гэта не абрыдла? Начальству што? Тыдзень — у Балгарыі, тыдзень у Германіі. Затым у сталіцу, за прачуханцам, затым — разборкі і накачкі на месцы…**

сябруком. Барбароса перакінуў пашарпаную, са штучнай скуры, сумку з пляча на плячо, і мы шпарка перайшлі на другі бок вуліцы, дзе магчымасцяў «піўнуць» было значна больш.

У бліжэйшым гастраноме таннага піва не было. Скончылася яно і ў піўным шапіку, які нахабна вытыркаўся з-за вугла яшчэ, мусіць, даваеннага гмаха.

— Слухай, Жорж, тут непадалёк закусачная, памятаеш? Можа, лепей гарэлкі возьмем па чарцы, — сябар яўна рушыў напралом. — Толькі вось што ў нас з фінансамі?

— Тысяч восем усяго… — сціпленька і неяк вінавата вымавіў я.

— Ну, я сёння нашмат багацейшы, — канчаткова ламаючы маё крохкае супраціўленне, усклікнуў Барбароса.

У чырванаватым паўзмроку закусачнай хісталіся-таньчылі мужчынскія сілуэты, глуха плёскалася бязладная гамонка. Тут было вільготна, цёпла і кісла. Бармэнша прыязна прывіталася з Барбаросам. «Цікава, — разглядваючы закускі за шклом вітрыны, заўважыў я пра сябе, — і калі гэта ён паспеў стаць тут сваім?»

Узялі па сто пяцьдзясят «Белай Русі» ды па бутэрброду з вэнджанінай. Чыстая стойка была адна, каля ўваходу. Да яе і прымацаваліся.

— Дарэчы, якім бокам ты сюды завітаў са свайго Зарэчча, — ставячы напалову асушаны кілішак, пацікавіўся Барбароса.

На момант зморшчыўшыся ад выпітай гарэлкі, я дастаў з кішэні ключы.

— Бачыш, ключ рабіў ад кватэры. Ключ, браток, на тое і ключ, каб аднойчы згубіцца. І тым самым даць магчымасць, напрыклад, сустрэцца старым сябрукам. Інакш — калі б яшчэ пабачыліся. Ты ж як заўсёды — з галавою ў сваім эфіры: «Доброе утро, дорогие радиослушатели!»

Я ведаў, што Барбароса недзе ў сярэдзіне леташняга красавіка нарэшце ўладкаваўся на сталую працу. Увогуле, такі расклад мне падабаўся. З аднаго боку. А з іншага… Знікла магчымасць для сумесных тусняўкоў. Праўда, інтэрпрэтацыя гэтай падзеі з ягоных вуснаў прагучала крыху інакш.

— Ведаеш, я даўно шукаў творчае працы. І вось… паабяцалі спачатку і самастойнасць, і свабоду, але якая ў фірмачоў творчасць, хутчэй «творчаства». Спусташальны канвеер, пры якім сябе ўсведамляеш нейкім робатам, ды і ініцыятывы аніякай не праявіш. Амаль усе твае рухі пад татальным кантролем. І ты думаеш, мне гэта не абрыдла? Начальству што? Тыдзень — у Балгарыі, тыдзень у Германіі. Затым у сталіцу, за прачуханцам, затым — разборкі і накачкі на месцы… Але, даруй, нешта мяне не ў той бок панесла. Па-сутнасці, гэта для нас не мае аніякага значэння, бо мы з табой жывем, як той казаў, «тут і цяпер». І гэта галоўнае… Во, ледзьве не забыўся, — разліваючы пароўну гарэлачныя рэшткі, працягваў Барбароса. — Уяўляеш, сустрэў неяк на праспекце знаёмага, ну, тыпу музыканта. Ну дык ён, між іншым, прызнаўся, што намерваецца стварыць песню-гімн пра Гомель. «Музыка ўжо ёсць, штогадзінна гучыць на Палацавай вежы, што ў парку, засталося напісаць толькі тэкст». Давялося чэлу распавесці пра верш Канстанцыі Буйло, на які і напісалі тую музыку. Ён жа ад пачутага нават падвяў.

Гарэлка тым часам скончылася, так і не наталіўшы, не сагрэўшы нутро. Выйшлі вонкі на прыступкі, прыценены шырокім рознакаляровым навесам, хапнулі поўныя лёгкія ледзь ядранага, бадзёрага пасля кіслай духаты закусачнай паветра. Я выцягнуў з пачка апошнюю цыгарэту.

— Няблага для пачатку, — бесцырымонна, ажно да хрусту ў костках, пацягнуўся Барбароса, — толькі, ведаеш, нешта яшчэ мацней захацелася піва, і з гэтым ніяк не суладаць.

Цяпер ужо я імгненна падтрымаў ідэю сябра, бо смага і сапраўды станавілася нясцерпнаю.

Півас чакаў нас амаль што побач, у нядаўна адрэстаўраваным падвальчыку за вуглом. Раней тут месцілася «апорка», у якой гадоў некалькі назад азвярэлыя мянты паламалі мне дзве рабрыны. Карацей, да майго незразумелага настрою прычапіліся яшчэ й тыя «настальгічныя» ўспаміны.

Выбар спынілі на «Рэчыцкім». Я не баюся, калі нехта пачне аспрэчваць, што «Рэчыцкае» піва з маёй, амаль роднай Рэчыцы, — верх асалоды. Я магу сцвярджаць гэта настолькі ўпэўнена, наколькі ўпэўнены ў тым, што, скажам, пасля гэтай восені абавязкова надыдзе зіма. Шкада, што «Рэчыцкае» цяпер вараць зусім у іншым месцы — на Бабруйскім бровары.

Падлічылі дробязь. Грошай заставалася і на піва, і на цыгарэты абодвум. Вяртацца ў закусачную расхацелася. Заставаўся адзіны, правераны шматкроць варыянт: густы і амаль бязлюдны цяпер сквер, што на працягу амаль цэлага квартала прымыкаў да вуліцы-красуні, ад якой мы і завярнулі сюды. Адшукалі лавачку паміж вялізных дрымучых таполяў, расселіся надоўга і грунтоўна. Барбароса

тварам да тратуара, я — спінай да яго. Звычка. Каб не лахануцца і не загрымець у чорны варанок за распіццё алкаголю ў грамадскім месцы.

Зусім побач, з-за рознакаляровай і яшчэ не апалай лістоты цьмяна вытыркалася бронзавая калода бюста вялікага земляка.

Парушаючы стромкую цішыню, па тратуарнай плітцы звонка пракаціліся два металічныя коркі.

— Дык вось, — адпіўшы з бутэлькі на чвэрць, сказаў Барбароса, — спяшацца ўжо няма куды, і таму пачнем з вершаў. Слухай, браце, амаль свежачок, учорашні.

Чамусьці паэзія з піўным «гарнірам» мяне ніколі не вабіла, хаця паасобку і першае, і другое ўяўляе значную каштоўнасць. Дык жа не перапыніш паэта, пакрыўдзіш. А ён вунь, чытае, забыўшыся пра сустрэчу з музыкамі, як і я, дарэчы, пра тое, што ў жонкі няма ключоў ад кватэры.

— Ну і як табе? — хітраватая ўсмешка на твары Барбаросы чакала неадкладнага адказу.

— Нешта надта брутальнае, — пацягваючы піва, неяк глыбокадумна азваўся я. Асабліва моцнае вось гэта… Я паўтарыў тое, што запомнілася — фінал верша:

*Всё дальше от тепла,*
*от естества истоков…*
*И хочется рожать*
*в реальную среду.*
*Не в среду, не в четверг,*
*а в безвременье сроков,*
*Пока усталый мозг не перегнил*
*в бреду…*

Мне асабліва хваліцца не было чым, таму змог адказаць хіба што просценькім экспромтам, кшталту гэтага:

*Апошняе піва сезона*
*У брудным сырым павільёне*
*Такое ж цягуча-стылае,*
*Як сум непраходны мой.*

— Жорж, што за настрой, ты смярдзіш песімізмам! Такія опусы нават у тваёй сранай газеце не надрукуюць, — Барбароса выбухнуў раптам грунтоўным маналогам, спыніць які, што перайсці пешшу праз Чорнае мора. — Эх, Жоржык, як хутка час пралятае! Пясок жыцця сочыцца няспынна і няўмольна. Трэба рабіць нешта важнае. Глянь вакол, колькі харошых людзей, колькі цікавых спраў. А мы… і пасярод недзе, у гушчыні, як кажуць, і ўсё адно ў нейкім глухім вакууме. Мы нібыта манекены за вітрынай… нават горш. Яны хоць вопратку рэкламуюць, а нам увесь час даводзіцца прымерваць да сябе чужыя паводзіны, правілы, думкі, урэшце рэшт. А насамрэч — трэба жыць напоўніцу, толькі тут і цяпер. Іншага не можа быць.

З глыбіні скверу нечакана прысунулася, шоргаючы сухім лісцем, пажылая жанчына ў пакамечаным даўгім плашчы.

— Дай Бог вам здароўечка, сыночкі! Ці не аддасце пустыя бутэлькі? — дыпламатычна звярнулася да нас старая.

Я добра ведаў Барбаросу, таму маўчаў, з цікаўнасцю чакаючы далейшага разгортвання падзей.

— Ды вы што? Нас нельга турбаваць ні ў якім разе. Прашу, не перашкаджайце. Тут вырашаецца важнае дзяржаўнае пытанне… Якое ёсць таямніца. Праходзьце міма, не парушайце кармы вечара. Мы падумаем пра вас, толькі пазней, пасля… пасля…

Уздыхнуўшы ўголас і яшчэ больш прыгнуўшыся, яна адышла на дзясятак метраў назад, у цемру, спынілася за дрэвамі.

— Слухай, а як там Класік маецца? — прыпыняючы няёмкую паўзу, запытаўся я.

— Захрас трывала ў хаце, нікуды не вытыркаецца, хіба што зрэдку півасу выпаўзе пахлябаць пры наяўнасці капусты. Сустракаліся днямі, дык ён за старое: «Усё, блін, дзяцінства скончылася. Бяруся за справу».

Калі вам раптам даводзілася чытаць кнігу «Гамбургскі рахунак», толькі не Бахарэвіча, а расійскага пісьменніка Віктара Шклоўскага, тады вы можаце ўзгадаць, як там пра класікаў напісана: «Класікамі людзі, звычайна, становяцца не адразу. А тут здараецца, жыве сярод нас чалавек. Ідзе, скажам, куды-небудзь, а мы, разам усе, гаворым: «Вось ідзе Класік»».

У нашым горадзе таксама жыве Класік, і ён лічыць нас з Барбаросам сваімі сябрамі. І таксама псуе паперу геніяльнымі творамі.

Аднак дастойна завяршыць свой маналог Барбароса не паспеў: размову перапыніў моцны шум. Пад разлапістай ліпай гучна сварыліся тры пажылыя кабеціны. Сярод іх і нашая нядаўняя знаёмая ў даўгім плашчы. Яе голас дамінаваў над астатнімі.

— Ды вы толькі гляньце на гэтую прайдзісветку, — крычала яна, нібыта звяртаючыся да ўяўнай публікі. — Апошні сорам згубіла. І кватэру мае, і вопратка цёплая ёсць, а ёй усё мала. Але тут ты не разгавеешся. Давай, кацiся прэч адсюль!

Збольшага, усё было зразумела. На чужой тэрыторыі пад сховаю цемры аб'явілася непажаданая канкурэнтка, вось яе і выжываюць тутэйшыя абарыгенкі.

Я спехам дапіў піва.

— Хопіць назіраць за боем быкоў! Давай вяршыць лёс. Трэба, каб і пустыя бутэлькі прынасілі людзям карысць. Ці ёсць якая прапанова?

Барбароса ажывіўся зноў:

— Паколькі прынцып сацыяльнай справядлівасці грамадства адпрэчылі канчаткова і беспаваротна, бутэлькі проста так дзяліць не будзем. Ды і як падзеліш, калі іх дзве, а бабулек трое. Таму прапаную абвясціць аўкцыён.

Давялося перапыняць слоўную траскатню сябра сваім варыянтам.

— А што, калі пляснуць іх аб тратуар, проста так, на вачах у гэтых прагных цярпельцаў?

— Ну, Жорж, прымітыўна гэта, мы ж не вандалы…

Тым часам падзеі пад ліпай разгортваліся натуральна і хутка прыйшлі да лагічнага завяршэння: пасаромленая канкурэнтка, брудна лаючыся, шыбавала да прыпынку. Парадак на тэрыторыі пратэктарату быў аднаўлены, а нашыя бутэлькі трапілі па прызначэнні. Мы неяк нават расчараваліся хуткім завяршэннем лакальнага інцыдэнту.

— Вось яна, проза жыцця, — расчулена вымавіў я і дадаў, уздыхнуўшы: — Праўда, менавіта з гэтага эпізоду прозы якраз і не атрымаецца: ні дынамікі, ні сюжэту. Ні вастрыні…

— Ну не кажы, — з паўабароту завёўся Барбароса, — навелы часта вось так і растуць, нечакана, на голым месцы. Прыгадай Бёля, Борхеса. Або таго ж Акутагаву. Усё да простага рэалістычна, і вось гэта — кла-сі-ка. Мы ж, лічы, перажылі сапраўдную буру пачуццяў. Ледзь-ледзь крутнуць сюжэцец — і шэдэўр гатовы…

— Але тады гэты эпізод перастане быць праўдай. Праўда, яна й была вось тут, 5 хвілінаў назад, а што застанецца ў памяці?.. Звычайны суб'ектыўны ўспамін з ладнымі дамешкамі нашага цынізму і эгаізму. Дадай яшчэ, што адны і тыя ж падзеі бачацца намі зусім па-рознаму. Годзе пераймацца, яшчэ адзін Класік адшукаўся!

— Чакай-чакай, зараз праверым… А ну, паслухай, як бы такі аповед гучаў, калі б пра гэта раптам напісаў я. Напрыклад, назавем навелу так: «Лісты апускаюцца восенню».

«У прынцыпе, мне похер, каторай з іх дастанецца мая пустая бутэлька: той, што ў чырвонай хустцы, ці той, што ў паліняным балоневым плашчы. Адзінае, што мне не падабаецца, гэта іхняе рэальнае таптанне перада мной — з нагі на нагу, з пяткі на насок. А сама толькі й думае, напэўна: «Калі ж ты дап'еш гэтае кіслае пойла, гад?» і глядзіць пры гэтым проста табе ў рот. Што застаецца рабіць? Думаць пра яе цяжкае жыццё: пенсію не плоцяць, кватэра дарагая, сын-халасцяк усё прапівае…

А ў галаве быццам выюць сакавіцкія каты перад працуючым трансфарматарам. Гуд такі, што зусім не да вершаў. Што я ў іх разбяру, на лаўцы з бутэлькай піва, тым больш, калі бабуленцы прагна глядзяць у рот. Гэта мы з табой, Жоржык, прыселі пірка выпіць, патрындзець пра тое-сёе, паглядзець на буянне красак восеньскага парка. А бабулям напляваць на наш з табой лірычны настрой. Адшукаліся інтэлігенты! Крута было б, калі яны з-за дзвюх пустых бутэлек тут бойку ўчынілі. Вышэйшы клас! Не-а, пакуль стаяць, чакаюць. Тая, што ў хустцы, прама перад намі, а тая, што ў плашчы, крыху правей, але настроена больш рашуча…

— Ты што, хочаш гэтыя вершы ў газету аддаць? Яны там каму-небудзь патрэбныя? Іх увогуле хто-небудзь тут чытае: газеты, вершы? Пісаць дык, напэўна, пішуць. Кожны ж хоць бы раз у жыцці спрабаваў. Асабліва ў часы смаркатага юнацтва. Душа гуляе. Пасядзіш вось так гадзіны дзве ў гарадскім парку. Можна і без піва. Лірыка аж з вушэй прэ: «Унылая пора, очей очарованье… И бабки две пустых бутылок ждут…» Эх, Жорык, шкада, што ў мяне «капуста» толькі заўтра з'явіцца, а то б яшчэ па адной узялі.

— Маладыя людзі, вы ўжо дапілі?.. Вы калі дап'яце, аддайце бутэлечкі вось гэтай жанчыне. У яе ногі хворыя. Яна тут зраніцы ходзіць. А той не давайце. Яна і пенсію атрымлівае, і сын у яе на заробкі ездзіць у Маскву…

Гэта што яшчэ за пудзіла? Заступніца. Тры багатыры. Ты хутчэй выпіў, табе ў рот не глядзяць. Вось яно, выпрабаванне сытасцю. Ты б хоць не кпіў тут.

Увогуле, лагічней было б пры такім раскладзе шахнуць гэтую бутэльку аб асфальт. Як прамое завяршэнне нашага базару. Сам жа казаў — рыць тут нехер. Трэба звальваць у сталіцу, у Расію, на Захад. Хоць куды, абы не грузнуць у гэтым ліпкім месіве мястэчковасці. Ты хочаш сказаць, што раней, пры камуністах, такіх бабулек не было? Падаянне так вось, оптам, не прасілі? Дык пры камуністах і шанцаў на нармальнае жыццё не было. Усё чырвона-шэрае. А цяпер табе — па поўнай праграме, на выбар — ад блякла-мышынага да ядавітага ультрамарына. Свабода, яна ж таксама на два канцы. Вяршкоў без карэньчыкаў, на жаль, не бывае. І мы з табой не дзеля таго на гэтую лаўку селі, каб бой быкоў назіраць. Не бачыліся даўно, а піва — як нагода. Хіба не так? Вершы, яны, можа, і пішуцца недзе, ды ўсё неяк не тыя. Геданізм плюс камп'ютарызацыя ўсёй краіны. Вось у палітыку я лезці не хачу. Хачу толькі, каб бабулі не заміналі мне піва піць на лаўцы і не прыгняталі б сваёй лаянкай лёгкае патрэскванне сухога лісця. Вунь іх колькі насыпала. Хочаш–не хочаш, а задумаешся пра трагічную перадвызначанасць быцця, гледзячы, як яны зрываюцца адкульсьці з-пад неба і марудна, ледзьве пагойдваючыся, апускаюцца да сваіх аджыўшых субратцяў.

— Можна забіраць бутэлечку-та? Дык вы той жанчыне не давайце. Вы гэтай аддайце…

Вось і яны сарваліся са сваіх месцаў у соцыуме і кружаць, кружаць. Такія ж пажоўклыя, як восеньскія лісты. Праз гэта таксама трэба ў жыцці прайсці. Як ты там чытаў толькі што ў перадапошнім вершы, нешта пра голуба, які нерухома застыў у верасні?

Усё. Дапіў. Аддаю… Таму што яна раней падышла, раней улезла ў нашую лірычную сустрэчу.

Чуеш, Жорык, колькі цяпер пустая бутэлька, тысячы тры?..

Ужо добра сцямнела, і вуліца прабівала сабе шлях скрозь цемру стужкаю размытых агнёў. Піва зрабіла тое, што і павінна было зрабіць: мы развіталіся каля грамадскай прыбіральні. Дахаты мне чамусьці зусім не хацелася, і зрабілася раптам шкада, што адзіныя ключы ад кватэры былі толькі ў мяне і вымушалі вярнуцца туды, дзе ля пад'езда нявесела чакае абураная маім спазненнем жонка.

Я мацней сціснуў у кішэні ключы, ірвануў у перапоўнены тралейбус. Пахмурны натоўп шчыльна абхапіў мяне і прыціснуў да задняга вакна. Тралейбус імкліва набіраў хуткасць, і агні горада ператварыліся ў яркія суцэльныя пісягі. Я пільна ўглядаўся ў здаўна знаёмую вуліцу і не пазнаваў яе. Вуліца зрабілася аднастайнай і шэрай. А тое, што я ведаў пра яе прыгажосць раней, здалося звычайным падманам.

Дзверы ў кватэру рыпнулі і без ключа. У прыхожай гарэла святло, на звыклым месцы вісеў жончын плашчык.

— Ты?.. Ты дома, але як?

— Пра што гэта ты? — выглянула з пакоя жонка, — а-а, ты пра ключ. Прабач за няўважлівасць, я знайшла яго ў касметычцы…



Фота А.А.

# Тэхніка спальвання страхаў



Анатоль ІВАШЧАНКА

### Расколіна

у гэтай прасторы ты кожнаму нешта павінны
тут не разважаючы кідаюць кпіны у спіны
у цеснай задушлівай рубцы падводнае лодкі
бы пранцы, пладзяцца бясконцыя цёркі ды плёткі

тут б'юць па сваіх (ды чужыя баяцца не надта)
тут кожны кіруе уласным нябачным парадам
тут ганіць святое здаўна ёсць
прыкметай эстэта
калі вы эстэт — bardzo prosimy ў нашае гета

тут прынцып спрадвечны: не дзякуючы а насуперак
тут лялька вусатая лічыцца першай красуняю

тут слухаюць дупай, тут лесу з-за дрэваў не бачаць
тут моўныя курсы засноўвае
каця кібальчыч

бязрукія пляскаюць ў ладкі, руіны страляюць
бязрукавы спраўна збіраюць паўнюткія залі

тут радыё рокс вызнае крымінальны шансон
а радыё стыль корміць піпл расейскай папсой

пасля палітэху тут пішуць някепскую прозу
а хлопцы з філфаку адточваюць форму даносу

тут вучаць у педах майстэрству
мастацкага свісту
на мове гамэра тут допыт вядуць кадэбісты

тут хаза з баландай нярэдка мянуецца «дом»
тут перадаецца праз гены стакгольмскі сіндром…
пасля эпікрызу звычайна ідзе эпілог
ды скончым шматкроп'ем зацягнуты свой маналог…

### Тэхніка спальвання страху

Ты сядаеш за стол,
не клапоцячыся пра наступствы.
Быццам бы рокенрол
не памёр,
быццам добрая рыфма
апраўдвае ўсе напісаныя тутака глупствы,

быццам бы памяняць падфарціла
абрыдлае гіры* на крылы,
быццам зніклі з экрану
крыклівыя хары ды рылы,

быццам словы знайшліся
і скlаліся ў слушны радок.
Быццам Бог напісаў у зваротным
кароткае «ок».

Час раскідваць бутэлькі
і час іх збіраць па дварах.
Час маўчаць і заплюшчваць вочы.
Час нявечыць малюнак
і спальваць чарговы свой страх…

Ты сядай, але помні:
няможна ў адную страфу
трапіць двойчы.

* Гіры — пачуццё абавязку (япон.)

* * *

Пятыя суткі доўжыцца вайна.
Варта палегла першаю,
паспеўшы пасláць
сігнальны феерверк
рэштаю сняданку
паўз рот і нос.
Штодня вы атрымоўваеце зводкі
з месца ваенных дзеянняў.
Мяркуючы па колькасці лейкацытаў,
што з'явілася ў ранішнім баявым лістку,
апошнія сілы дэмабілізаваныя і кінутыя ў бой.
Моладзь і дзеці…

Учора на вайсковай нарадзе
было вырашана ўвесці цяжкую артылерыю —
трэці антыбіётык.
Пятыя суткі гэтае маленькае схуднелае
цельца змагаецца.
Пятыя суткі ты глядзіш, як яго
ліхаманіць і трасе.
На пятыя суткі, працерашы пыл з абраза,
кладзешся з малітваю.
Каешся ва ўсім здзейсненым і нязздзейсненым
(у гэтым жыцці і ў ранейшых).
Абяцаешся выправіцца,
заняцца дабрачыннасцю.
Не заглядацца на тых, хто дзеля гэтага
створаны…

Твайму хлопчыку
10 месяцаў.
І ты просіш у яго даравання
«за тое, што твой тата баязлівец,
самалюб і, да ўсяго, казачны дурань, які
лічыў квадратныя метры, думаючы, што
не зможа камфортна існаваць у гэтым
дзіцячым садку…
Сыне, застанься, нам так шмат чаго
яшчэ трэба абмеркаваць з табой».

Проста запомні гэта
як мага надаўжэй.

### Ранішняя прабежка па фрэндстужцы

Упырснуўшы ў вену навіны
гарачыя, з каваю ўперамешку
(перш як працоўны ты-дзень пачаць),
абавязкова цяпер павінны мы
здзейсніць па стужцы прабежку.

Даведацца, хто нарадзіўся,
хто акацыўся, а ў каго — дзіця,
хто сам здзяцінеў ушчэнт, хто ажаніўся
і ў які сёння бок ракеты ляцяць.

Хто апрануў вышыванку,
а хто яго паспеў залажаць.
Хто піражок сцягнуў, хто склаў танка,
а хто, на танку, едзе мір абвяшчаць.

Лайкнуць — справа абавязковая —
(з карпаратыўнае этыкі)
некалькі вершаў, ясна, іх не чытаючы:
хіба ж чаго накрэмзаць новага
здольныя гэтыя, бляха, паэцікі.
Урэшце, паставіць курсор
на поле «Што ў вас сёння на думцы».
Колькі хвілінаў паўзіраецца ў манітор
і напісаць: «Ні чарта, сябры.
Не крыўдуйце»

### Кірля

*На сыход Ляпісаў*

З начы не працуюць вушы.
Усё перасохла да гландаў.
Нямая панылая вусціш.
Радок — за глыток. Без гандлю.

Старыя птушыныя рухі
у рытм не патрапяць новы.
Рыфмы ліпнуць, бы мухі.
Вусны варушаць словы:

«Забудзься, што мы казалі –
памятай, што зрабілі».
Тыя, каго мы кахалі,
станьчаць на нашай магіле.

Навечна захраслы ў горле
куплет без крыві не выйдзе.
Сустрэнуцца бусел чорны
і orzeł biały увысі.

Забудзецеся — што рабілі.
Памятайце — што казалі
тыя, каго вы любілі
й каму насамрэч спявалі.

### GUNS N' ROSES

Падарожжа
асабліва на свежыя дрожджы
ды пад ранішні жнівеньскі дожджык —
хіба штосьці шчэ можа быць лепш?
Чым далейшым
чым далейшым стаецца замежжа,
то ўсё меней вид тебе залежыць
ды праўдзівейшым робіцца верш.

Кіламетры
усё бліжай і бліжай да мэты
з кожным словам далей ад мяне ты,
хоць насамрэч, насамрэч — бліжэй.
Ў падарожжы
ператворацца ружжы ў ружы,
непітушчы нат стане відушчым,
каб пасля не заплюшчыць вачэй.

# Зігзагі спіралі



Серж МІНСКЕВІЧ

* * *

***Ю. Г. і іншым падобнага кону…***

Паэты падобныя да птушак
Але толькі іх душы
Здольныя лётаць…

Паэты, як матылі
І розныя мушкі,
Але толькі іх шэпт, трымценне, гудзенне
Вольныя лётаць…

Паэты накшталт рыб,
Якія не марскую глыб,
А зыб
Прасторавай пены
Разрываюць уздымам-падзеннем…

Паэты, нібыта аблокі ці хмары,
Убіраюць рэха зямлі,
Яе мары.
І згусткі іх думак —
І клёк іх —
Ствараюць маланкі…

Паэты — ракеты,
Што лятуць ля заранкі,
Планетай
гуляюць у футбол,
Імкнуцца забіць космасу гол
Прыгожы…

Паэты — Сусветы,
І толькі іх зоркі
На самай высокай ноце
Зрываюцца ў імгненным палёце…

* * *

Ты — мая фея,
З табой
Я нямею
І нічога зусім не ўмею.

А ты хочаш, каб я
Быў падобны да волата,
Скалы разбіў
І здабыў
Дыяменты
І золата.
А ты хочаш, каб я
Быў чараўніком,
Адным узмахам



Узвёў нялялячны дом…

Аднак, «фея» — твой нік,
А мой — «чараўнік»…

Праўда нік — указальнік жадання…

### Кватэрны раманс

Ты — анёл мой самы блізкі!
І навошта кожны вечар
У вялікія валізкі
Ты збіраеш мае рэчы.

Хочаш, стаў мяне да сценкі
Перад чорным аўтаматам —
Позіркам здыму сукенку,
Сценка стане далягядам.
Падкладзі ў партфель мне бомбу,
Пажадай сустрэцца з чортам —
Я куплю лікёр, а дома,
Бомба зробіцца нам тортам.

Падмяшай у маё піва
Небяспечную атруту —
Гэта будзе стымул дзіўны,
Ложак стане нам батутам!

### Сярэдзіна лета

Гэтай ноччу плачуць вербы
расою,
І русалкі плывуць паўз бераг ракі
(Маладзейшая ўсхваліць тоні
касою.)
І за імі прасочаць юнакі-рыбакі…

Зорны круг крутане сівавусы
вядзьмак,
Як сухое галлё, кашляне лесавік,
Дзесь завые воўк ці мо ваўкалак.
А мы проста адзначым яшчэ
адзін лік.

### Зігзагі спіралі

Неба прашыта
ракетай,
нібыта іголкаю з ніткаю,
І хуткасцю прыткаю
Імчыць карабель
Першай
населенаю
арбітаю.
…Мільярды гадоў
гатаваў
кухар-сусвет
Жыццёвы булён
для выпечаных добра планет

Каб мог Пакліканец рушыць
На сушу
І потым
скрэсліўшы
крыламі
крыж
уласнага ценю
Узняцца
над зямным
прыцяжэннем…

### Серэнада

На цёмным завулку,
Чорныя рукі —
цені,
І самотны ліхтар,
Іх гаспадар,
Нам дорыць
Нашыя
усмешкі…

Дзве мройныя здані —
Мы да світання
Будзем блукаць,
І вецер сузор'яў
Міфічных гісторый
Падорыць нам
тысячы
сюжэтаў…

# Анатомія нянавісці



Анатоль САНАЦЕНКА

**Яго нянавісць да мяне здзіўляла.**

Перш за ўсё — сваёй неабгрунтаванасцю. Падстаў для яе я не даваў — гэта дакладна. Тады — чаму? Чаму не дробнае бытавое раздражненне, якое лёгка можна было б спісаць на што-небудзь нязначнае, а менавіта — паўнакроўнае, усёабдымнае пачуццё. Дзе яго вытокі? Якія матывы?

Калі пачалося гэта вар'яцтва? На памяць прыходзіць толькі млявае сяброўства, позція вячоркі ў рэдакцыі і ў яго дома, выраз Танінага твару, пры згадванні якой па-ранейшаму, з бязлітаснай пяшчотай, нешта кранае за сэрца...

Яна была аднолькава далёкая ад нас абодвух, маё сіратлівае пачуццё да яе так і засталося неўсыноўленым. Таму яна таксама не магла быць прычынай яго нянавісці. Але скрозь успамін пра яе вернемся ў тыя часы — самы надзейны, самы хуткі шлях у мінулае. Калі ласка, адзін білет...

– Паглядзі на гэта. Ён немагчымы, ці не праўда? — культурненька душачы смех, Таня падсоўвала мне яго малюнкі-шаржы, даволі непрыстойныя, на добра знаёмых нам людзей. — А гэты, як ён табе? — нявінна пыталася яна, высоўваючы на першы план самы нахабны яго накід — відавочнае перайманне яшчэ нераскаянага Бердслею.

Мяне некалькі шакавала гэтая яе нечаканая дзёрзкасць, гэты альпійскі пераход з крайняй выхаванасці ў нізіну непрыстойнасці, што, аднак, не пазбаўляла яе адвечнага зачаравання, не аслабляла моцы яе жаночых чараў.

Відаць, ёй падабалася бянтэжыць мяне, — мяне, які ўжо развітаўся з юнацкім рамантызмам, але захаваў у недатыкальнасці сваю прыродную рафінаванасць.

Я, ненаўмысна грэбліва, двума пальцамі, браў яго малюнкі за краёчак і з нявызначанай (як мне бачыцца) усмешкай адкладваў іх.

Яна вы́клікала мяне. Не, — не на мастацтвазнаўчы дыспут, а на эмацыйную дуэль, бітву, так бы мовіць, гармонаў. І, разумеючы гэта, я заставаўся спакойны і непрыступны, як Напалеон напярэдадні Ватэрлоо.

Таня. Мілая Таня. Калі б ты ведала, якое месца займаеш у маім сэрцы, у маім жыцці, то, несумненна, кінула б усе свае размовы і занялася б добраўпарадкаваннем нашых адносін. Але ты, вечна нацэленая да іншых берагоў, дакладней, — да іншага берага, прыкаваная табой жа вырабленым ланцугом да мінулага, шлях якому ў будучыню перагароджаны мігатлівым сапраўдным, ты жыла дарагім табе самападманам, засцерагаючы яго ад дзённага асвятлення.

Доўгі час, як ты і хацела, я карміў цябе ўласнаручна выгадаванымі ілюзіямі. Калі ж мая ілюзорная плантацыя была спустошана нечаканым парывам лёсу і я страціў магчымасць дарыць табе іх, — мы перасталі разумець адзін аднаго. Я хацеў сысці па-ангельску, але, з бясконца чароўнай грацыяй, ты дагнала мяне на лесвічнай пляцоўцы. У тваіх вачах былі неўразуменне і спалох. «Бывай. Бывай. Так будзе лепш для нас абодвух», — у думках кажу я табе. Падымаю каўнер і зябка іду ў шэрыя будні, дзе цябе ўжо няма...

Лёгка, як паплавок, усплывае ў памяці наша знаёмства з ім. Апынуўшыся ў чарговы раз (усё дзеля свабоды!) у статусе вольнага журналіста-найміта, я ў прыемны красавіцкі дзень наведаў рэдакцыю адной з мясцовых газет, дзе мяне ведалі і, здаецца, шанавалі.

Ён быў там — маўклівы, пануры хлопец, з арыйскімі валасамі да плячэй, які меў гопніцкую звычку паліць на кукішках. З-за вострага пяра і кульгавасці ў рэдакцыі пра яго не без іроніі, за вочы, казалі: «Наш Авадзень». («Авадзень» распавядаў усім, што ваяваў у замежным легіёне, удзельнічаў у гераічных бітвах, быў паранены. Насамрэч ашуканы муж не ў час вярнуўся дадому, давялося скакаць з гаўбца. Няўдала.)

З першых жа хвілін знаёмства ён запатрабаваў справаздачы пра мае ўражанні ад яго матэрыялаў, нядаўна надрукаваных у «Губернскіх навінах». Я іх, здаецца, не чытаў ці чытаў няўважліва, і нічым не мог быць карысным для яго жабінага самалюбства.

«Добра, потым раскажаш», — літасціва папярэдзіў «Авадзень» і экспрэсіўна перакінуўся да іншай тэмы.

Іншай тэмай была зацяжная хвароба нашага агульнага знаёмага — журналіста з ласкі божай, які пакутаваў залішнім сяброўствам са спадаром Бахусам.

Хто-небудзь з нас (магчыма, я) прапанаваў наведаць яго, па-таварыску падтрымаць, дапамагчы, калі трэба...

Уладзіміра Іванавіча — так звалі нашага прыяцеля — мы сустрэлі яшчэ на подступах да яго жылля. У кампаніі Бахуса і Марфея ён велічна ляжаў на паркавай лаўцы, і да нашага прыходу над ім паспеў ужо схіліцца адзін з мясцовых анёлаў-ахоўнікаў — міліцыянт. На шчасце, нашы пасведчанні змаглі зрабіць на яго патрэбнае ўражанне, і пасля некаторых роздумаў Уладзімір Іванавіч быў перададзены нам на парукі.

Мы даставілі нашага таленавітага сябра ў яго радавы маёнтак і асабіста пракантралявалі яго адбыццё ў краіну гасціннага Марфея.

Залатыя дзянькі! Усе яшчэ сябруюць адно з адным, і так далёка яшчэ да нянавісці, якая затым вельмі сказіла нас у ласкавых люстэрках будучых часоў.



Калі мы далучылі Уладзіміра Іванавіча да нашай, незразумелай яму, рэальнасці, ён запрасіў мяне да сябе — паласавацца песнямі яго рок-н-рольнага куміра, да якога, зрэшты, і я быў неабыякавы.

Паслухалі. Папілі гарбаты. Пагаварылі. Мой арыйскі прыяцель расчуліўся настолькі, што стаў запрашаць у свае загарадныя ўладанні. «Дзякую, барон, я вымушаны сысці. Заўтра ў мяне будзе цяжкая бітва на беласнежнай раўніне пісчай паперы. Іншым разам, іншым разам».

Іншага разу не было. Нашае прыяцельскае знаёмства ў сяброўства так і не перарасло. Мяне бянтэжыла яго гіпербалічная эмацыйнасць. Яго (відаць) — мая ураўнаважанасць і снабізм. Напэўна, гэта той выпадак, калі супрацьлегласці не сыходзяцца.

Зрэшты, у тыя часы мы з ім далёка і не разыходзіліся. Не далей адлегласці, якую патрабавалася пераадолець, каб патрапіць з «Вячэрніх навінаў», дзе я працаваў цяпер, у «Губернскія навіны», дзе працаваў цяпер ён. А пасля аб'яднання гэтых выданняў у адзін выдавецкі дом мы нават паспелі папрацаваць разам. І што вы думаеце? Ніякіх сігналаў, ніякіх прарочых сноў ці сімвалічных падзей!

Неўзабаве я сышоў з «Вячэрніх навінаў». Сумна было назіраць, як спадары журналісты, ва ўгоду губернатарскаму густу, добраахвотна абмяжоўваюць сябе ў правах, дадзеных Богам і парламентам. Размовы з рэдактарам, як я і меркаваў, ні да чаго не прывялі, — мне прапанавалі баяцца ўласнага цэню, не чапаць «небяспечных» тэм і г.д. і да т.п. Але замест гэтага я палічыў за лепшае зноў падацца на вольны хлеб. І праз некаторы час выявіў сябе ў якасці спецкара цэнтральнай газеты, дзе свабода слова шанавалася.

Божа мой! Які я быў шчаслівы! Стаўшы паўнапраўным уладальнікам бязмежных угоддзяў часу і прастораў, якія расцягваліся цяпер па абодва бакі майго асабістага быцця, я мог крэдытаваць сябе імі бясконца.

Выдатная, райская пара! Словам, спыніся, імгненне. І яно спынілася. Больш за тое — нават пайшло назад, калі мой бедны рамантычны народ прагаласаваў на выбарах за аднаго з тых прайдзісветаў, што ў сне і наяве мараць быць яго, народа, душапрыказчыкамі.

Выбраннік і прыдумаў неўзабаве машыну часу, з дапамогай якой наша краіна апынулася ў далёкім мінулым. З пагалоўным аднадумствам, з любоўю да правіцеля, з забыццём дэмакратычных каштоўнасцяў. З дагістарычнай атрыбутыкай дыктатуры, гэтак мне ненавіснай.

Як аказалася, падчас выбарчай кампаніі наш «Авадзень» сваімі хвалебнымі публікацыямі ўсяляк садзейнічаў прыходу да ўлады вялікага прайдзісвета. Неўзабаве пасля яго перамогі на выбарах «Авадня» прызначылі галоўным рэдактарам «Губернскіх навінаў». Праз год — загадчыкам аддзела інфармацыі ў абласной адміністрацыі, а яшчэ праз паўтары гады — намеснікам губернатара па дэмагогіі. (Прашу прабачэння, абмовіўся, — ідэалогіі, вядома.)

Час ад часу мы бачыліся з ім на афіцыйных мерапрыемствах. З «Аваднём» адбыліся ашаламляльныя перамены. Ён пастрыг свае арыйскія кучары і пагаліў бародку. Апрануўся, як след, вядома. Набыў абавязковую для чыноўнікаў яго рангу ўкормленасць.

Першы час, будучы яшчэ рэдактарам «Губернскіх навінаў», пры нашых сустрэчах ён выяўляў уласцівую яму гуллівую ветлівасць, у якой, як вадзяны знак, ужо праяўлялася яго смешная важнасць будучых часоў.

Наступным актам стала шырокамаштабная траўля мяне ў мас-медыя. Апублікаваўшы ў цэнтральнай прэсе шэраг крытычных артыкулаў аб некаторых выхадках мясцовых уладаў, — звычайныя, у агульным, для мяне матэрыялы, — я, да свайго здзіўлення, стаў героем шматлікіх «памфлетаў». Велізарныя, на газетную старонку, яны на працягу некалькіх дзён высокквалі — то там, то сям — на целе як «гасударавых», так і «гаспадарскіх» камерцыйных, мясцовых сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды, якія трымалі нос па ветры.

Больш за ўсё ў гэтых публікацыях мяне здзіўляла канцэнтрацыя хлусні і яе аўтарства. Было ўражанне, што супраць мяне паўстала ўся журналісцкая брація. Нават тыя, каго я лічыў сваімі сябрамі, паспяшаліся засведчыць свой удзел у, так бы мовіць, грамадскім пакаранні.

Далей — больш. Неўзабаве я і мае публікацыі сталі галоўнай тэмай ідэалагічных нарад у мэрыі і ў адміністрацыі губернатара. На іх, як мне стала вядома пазней, «Авадзень» і яго падручныя натхнёна вынаходзілі сродкі барацьбы са мной, — пакуль яшчэ легальныя.

Мяне паўсюль пазбавілі акрэдытацыі. Мой рэдактар быў завалены гнеўнымі лістамі абураных чытачоў, яго перыядычна атакавалі па тэлефоне рознага роду «грамадскія абвінаваўцы».

«З'ехалі б вы куды-небудзь», — перадавалі мне пры сустрэчы параду «Авадня» падначаленыя яму чыноўнікі. Спецыяльныя службы пачалі бессаромна праслухоўваць мой тэлефон. Спрабавалі даць хабар. Падаслалі непаўнагадовую куртызанку (я ўжо быў асцярожны). Нацкавалі крымінальнікаў, і я быў вымушаны пачаставаць іх разрадам ручной электрычнасці. А таксама, крыху, ангельскім боксам (хук справа, хук злева)...

І за ўсім гэтым быў ён. Ён!

Здавалася, што дзень і ноч ён сочыць за маім быццём. І гэта, прызнацца, было непрыемна. Да агіды.

Нарэшце, ён не вытрымаў і патэлефанаваў мне сам.

«Я б мог цябе знішчыць», — пачуў я, падняўшы слухаўку. «Хто вы?» — здзівіўся я, не пазнаўшы яго. — «Ты ведаеш», — адказаў мне сапраўды надзвычай знаёмы голас. — «Так, так, цяпер здагадваюся». — «Дык вось, слухай уважліва: ты павінен спыніцца, не пісаць усю гэтую хлусню пра прыстойных людзей. У іншым выпадку — наракай на сябе. Я цябе папярэдзіў». — «Я меркаваў, што гэта вашыя, даруй божа, «пісьменнікі» вартыя такіх абвінавачванняў...» — адказаў я ў слухаўку, але мяне ўжо не слухалі...

На шостым годзе дыктатуры зачынілі цэнтральную газету, у якой я працаваў (зрэшты, як і іншыя прыватныя выданні, якія ўсё яшчэ дазвалялі сабе іншы погляд на рэчы). Апынуўшыся без справы, я заняўся пісьменніцкай працай. Балазе, інтэрнэт, з дапамогай якога я стаў рассылаць свае апавяданні, па-ранейшаму дазваляў мне адчуваць сябе свабодным чалавекам. Толькі цяпер я быў не летапісцам свету, а сам ствараў светы. Жывыя, яркія, свабодныя...

...Не ведаю пакуль, чым скончыцца тая непрыгожая гісторыя, але канец маёй life history ўжо набліжаецца. Сусветная літаратура ўстрывожаная. Пушкін узяў у рукі пудовы кій. Чэхаў надзеў пенснэ. Талстой устаў з-за стала. Купала загадкава ўсміхнуўся. Колас нешта сказаў, але не разабраць. Мележ матнуў рукой у бок балота. Пруст прыўзняўся на ложку, абапёршыся на руку. Джойс адсунуў ад сябе шклянку з віскі. Гесэ рассыпаў бісер, у які гуляў...

Усе чакаюць ад мяне завяршальных высноў. Але я не ведаю, што сказаць, як апраўдаць давер. Можа быць, у кожнага, хто жыве на гэтай зямлі, ёсць, як нейкае правіла, свой асабісты ненавіснік (і мой — не самы горшы). У Авеля — свой Каін, у Каіна — свой Авель.

Прынамсі, гэта ўсё б вытлумачвала...

# З кніжкі «Вершы для Хомкі»

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



### Хомка і люты

*Ранкам лютаўскім — галопам,
Снег адкідваючы ў снег,
Паўз гасцініцу «Еўропа»
Хомка з песенькаю бег:*

*«Люты мусіць быць нялюты,
Люты хай дае цяпло,
Каб ні болю, ні пакуты
Лёгкім лапкам не было!»*

*Прамінуўшы «Журавінку»
І падумаўшы хвілінку,
Філасофскі свой багаж
Дэманструе Хомка наш:*

*«Лапы стынуць ад марозу,
Часам нават і ад лёсу,
Што не спраўджвае надзей...
Ды калі казаць сур'ёзна:
Боль слабейшы ад марозу,
Боль ад лёсу ўсё ж мацней!»*

*Хомка, снегам ахінуты,
Просьбаю душу кране:
«Месяц люты, будзь нялюты
І для ўсіх, і для мяне!»*

### Хомка-прэзідэнт

*Шмат у Хомкі значных дум
І маленькіх думак —
Столькі ж мае ботаў ГУМ
І штаноў, і сумак!*

*І, вядома ж, столькі ЦУМ
Мае нітак-гумак,
Колькі мае Хомка дум
І ўсё тых жа думак!*

*З ГУМам побач ён жыве
І паблізу ЦУМа...
Клёк у Хомкі ў галаве
Аж віруе шумам!*

*Словам, розуму гара,
Як у тых студэнтаў...
Хомку стаць даўно пара
Нашым прэзідэнтам!*

### Хомка і «герой»

*«Я — герой! — крычаў «герой». —
Я — герой герояў!
Я — герой і за гарой,
І перад гарою!*

*Я — герой і на гары!
Пад гарой і збоку!
Я — герой заўжды, сябры,
Зблізку і здалёку!*

*Знае гэтая гара,
Неба над гарою,
Што даўно ўжо мне пара
Зорку даць героя!»*

*Хомка гэтак адказаў
На хвальбу пустую:
«Дайце чмо, каб не крычаў,
Зорку залатую!»*

### Хомка і родны куст

*Еўропа — там, а там — Расія,
А Хомка сам, бо Хомка тут...
І ў тым ягоная і сіла,
Што мае свой і куст, і кут.*

*Каб мог на мове чалавечай,
То гэтак бы сказаў: «Ці льга
Мне прыліпаць да ласкі нечай
І да чужога пірага?!*

*Вядома ж, не, а лепш уволю
Пад родным брышкаваць
кустом!
Свой куст — свой кут,
сваё раздолле,
А можна й так сказаць — свой дом...*

*Хоць тут па-нашаму нічога,
А ўсё па-іхняму, усё —
Пільнуйся век свайго парога,
Трымайся за сваё рыззё!»*

### Хомка і гісторык-злодзей

*Напісаў гісторык працу,
Хомка прачытаў яе,
А пасля давай смяяцца
З працы крадзенай тае!*

*Не гісторык гэта — гора;
Поле не сваё арэ,
Перапісвае з Кіркора
І ў двукоссе не бярэ!*

### Хомка і зноў прэмія

*У журы свой твор прыпёр
Графаман вядомы;
Ён пад прэмію свой твор
Напісаў, вядома!*

*Рэцэнзентам грошы даў, —
Тыя ў друку мігам:
«Свет такога не чытаў!
Культавая кніга!!!»*

*Што ж, за грошы і не так
Дурні славяць дурня...
Як ні выхваляй, аднак
Творык той — халтурня!*

*Рэцэнзюшнікам на зло
Хомка аддакорыў:
«Прэміі каб не было —
Не было б і твора!»*

### Хомка, хлопчык, гузікі і гарбузікі

*Хлопчык грыз гарбузікі
І спытаў матулю:
«А навошта гузікі
На маёй кашулі?»*

*І адказ такі дала
Хлопчыку матуля:
«Каб зашпіленай была,
Сынку мой, кашуля!»*

*Як дагрыз гарбузікі
Хлапчанятка порсткі,
То зірнуў на гузікі,
Што трымалі порткі.*

*І, вядома, зноўку мог
Папытаць, каб чулі...
Ды Хама тут дапамог
Адказаць матулі:*

*«Гэта, хлопчык мой, штаны,
Носяць іх мужчыны
(Часам і жанчыны!),
І зашпілены яны,
Нашы слаўныя штаны,
Быць заўжды павінны!»*

### Хомка, Еўка і Адамка

*Бегла Еўка за Адамкам,
І за райскай брамкай
Штуку адпаліў Адамка —
Як вавёрка, скок на дрэўка!
І што ён схаваўся тамка, —
Не ўсачыла Еўка.*

*Адбылося ўсё знячэўку —
То-бок, мімаволі...
Ён высока быў на дрэўку,
А яна — на доле.*

*І ад нечаканкі гэткай —
Бачна, што нямілай,
Еўка (ведама, кабетка!)
Крыку нарабіла:
«Ах, мой кручаны Адамка,
Зноў схаваўся, гадзе,
Каб цябе ўшчаміла брамка
Ў гэтым райскім садзе!*

*Да работы — рукі ў бокі
І на слова — дзікі,
А зашыцца ў кут глыбокі
Ці ў стажок які высокі
Майстар ты вялікі!*

*От, на гэтым дрэўцы, мусіць,
З дурам радзіш раду...
Змей цябе няхай укусіць
Спераду ці ззаду!»*

*Толькі так сказала Еўка,
Як Адамка — от жа! —
Кулянуўся гэтак з дрэўка,
Што і ўстаць не можа.*

*Ці напраўду змей Адамку
Укусіў, ці проста —
Як пачуў праклён пра брамку,
То і стала млосна?!*

*Дзякуй Богу, ручкі-ножкі
Й макацёр — чын чынам!
Паляжаў Адамка трошкі
І... луп-луп вачыма!*

*Акрыяў і з Еўкай (жонкай!)
Стаў ён цалавацца...
«Ад жанок, — падумаў Хомка, —
Лепей не хавацца!»*

### Хомка і Няміга

*Дождж лінуў з такою сілай
І гвалтоўнасцю такой —
Аж Нямігу затапіла,
Стала зноў яна ракой!*

*І не дзіва! Што здзіўляцца?!
У стыхіі дух круты —
Гухнула на Менск знянацку
Тоны дажджавой вады!*

*Тое змылася імгненна,
Што павінна змытым быць;
Завірыла белай пенай,
Белым градам скрозь вірыць...*

*А як сціхла, — Хомка чынна,
Нібы зняў цылiндр з крука:
«А прыемная карціна,
Што Няміга зноў рака!»*

### Хомка і бітон

*На баку ляжаў бітон,
А ў бітоне тым — батон!
Словам, хтосьці ў той бітон
Толькі што паклаў батон!*

*Не жэтон, не парасон,
Не кардон, не мікрафон,
А падкінуў у бітон
Свежаспечаны батон!*

*Морду ўсунуўшы ў бітон,
Хомка ўнюхаў той батон,
Добра знаючы: бітоны
Зроблены не пад батоны!*

*На ваду яны, на квас
І на малако якраз!..
Пэўна ж, нейкі размантон
У бітон схаваў батон!*

### Хомка і першы снег

*Хомка склаў пра першы снег
Вершык адмысловы,
Два разы было ў ім — эх! —
І такія словы:*

*«Эх, цудоўны першы снег,
Белыя гірлянды!
П'яныя на лаўцы, эх,
Два міліцыянты!»*

### Хомка і другі снег

*А назаўтра снег другі
Хомка зранку ўбачыў
І без «эх» пачаў: «Снягі
Цешаць дух сабачы...*

*А яшчэ я вам скажу,
Выхаванец панскі,
Холад радуе душу,
Як і сыр галандскі!»*

### Хомка і кот

*Кот, прыблудны небарака,
Неяк зачапіў Хаму:
«Добра ты жывеш, сабака!
Добра жыць табе чаму?»*

*Адказаў Хама прыблудзе:
«Мне шанцуе, не таю —
Вельмі добрыя ўжо людзі
Прынялі ў сям'ю сваю!»*

### Хомка і начная дама

*Ноччу Хомка даму прама
Запытаў, як даў пад дых:
«Вы якіх паводзін, дама,
Лёгкіх ці зусім цяжкіх?»*

*І пачуўшы гэта, дама
Не здзівілася ніяк
І ў адкрытую таксама
Адказала дама прама:
«Прастытутка я, Хамяк!»*

### Хомка і два мужчыны

*Бег па вуліцы дзяўбень,
За дзяўбенем шалупень!
А пасля — у парку леглі;
Леглі разам, як і беглі...*

*Хомка ад такой карціны
Захацеў і сам паспаць:
«Леглі разам два мужчыны,
Бо стаміліся, відаць?!»*

### Хомка-музы́ка

*Колькі мае лап? Чатыры!
І — усімі чатырма —
І на цытры, і на ліры
Заіграе вам Хама.*

*Ці гітара-мандаліна,
Ці гармонік — хоць на чым!
І на гэтым піяніна,
А таксама ж і на тым!*

*Што й казаць — музы́ка ўдалы,
І яму няма цаны!
Можа ўрэзаць і ў цымбалы,
Калі трапяцца яны!*

*Нотнай азбукі не знае,
Ды, паеўшы корм сухі,
Так зайграе-заспявае,
Што прачнецца і глухі!*

# Таямнічы цуд



Хорхе ЛУІС БОРХЕС

**У ноч на чатырнаццатага сакавіка 1939 года ў пражскай кватэры на Цэльтнергасэ Яраміру Хладзіку, аўтару няскончанай трагедыі «Ворагі», працы «Абвяржэнне вечнасці» і даследавання аб ускосных габрэйскіх крыніцах Якаба Бёмэ, прыснілася доўгая партыя ў шахматы.**

За першынства змагаліся не два гульцы, а дзве слаўныя сям'і, гульня цягнулася ўжо некалькі стагоддзяў, і ніхто не мог успомніць суму ўзнагароды, хоць і хадзілі чуткі пра тое, што яна была велізарная, нават незлічоная. Дошка з шахматнымі фігурамі месцілася ў таемнай вежы. У сне Ярамір быў першынцам адной з варожых сем'яў. Бой гадзінніка адзначаў час неадкладнага ходу, Хладзік бег пад дажджом па пясках пустыні і не мог успомніць ні назваў фігураў, ні правілаў гульні ў шахматы. У той самы момант ён прачнуўся. Грукатанне дажджу і жудасны бой гадзінніка спыніліся. З Цэльтнергасэ падымаўся роўны рытмічны шум, які часам перарываўся рэзкімі камандамі. Бралася на дзень. У Прагу ўваходзілі браніраваныя перадавыя атрады Трэцяга Рэйху.

Дзевятнаццатага да ўладаў дайшоў данос. У той самы дзень, на заходзе сонца, Ярамір Хладзік быў арыштаваны. Яго выклікалі у стэрыльна-белы штаб на супрацьлеглым беразе Влтавы. Ён не мог абвергнуць ніводнага з абвінавачанняў гестапа: па лініі маці прозвішча яго было Яраслаўскі, у ім цякла габрэйская кроў, прагабрэйскімі былі і ягоныя даследаванні Бёмэ, у пратэстным лісце супраць Аншлюса фігураваў і ягоны подпіс. У 1928 годзе Хладзік пераклаў «Сэфер Ецыра» для выдавецтва «Герман Барсдорф», выдавецкі каталог з камерцыйнымі мэтамі раздзьмуў славу перакладчыка; якраз гэты каталог і прагледзеў Юліюс Ротэ — адзін з ваенных начальнікаў, у руках якіх знаходзіўся лёс Хладзіка. Няма чалавека, які па-за межамі сваёй сферы дзейнасці не быў бы легкаверным. Двух ці трох эпітэтаў гатычным шрыфтам было дастаткова, каб Юліюс Ротэ прызнаў значнасць Хладзіка і распарадзіўся, каб таго прыгаварылі да смяротнага пакарання pour encourager les autres [каб падбадзёрыць іншых (фр., іранічн.)]. Пакаранне было прызначанае на дваццаць дзявятага сакавіка, дзевяць гадзін раніцы. Гэтая адтэрміноўка (яе значэнне чытач пасля яшчэ ацэніць) тлумачыцца жаданнем адміністрацыі дзейнічаць неперадузята і паступова, падобна да раслінаў і планетаў.

Першым пачуццём Хладзіка быў проста жах. Ён падумаў, што шыбеніца ці плаха яго б не напалохалі так, як расстрэл, які здаваўся проста невыносным. Дарэмна ён паўтараў сабе, што страшны сам факт смерці, а не канкрэтныя абставіны. Ён няспынна ўяўляў гэтыя абставіны, недарэчна спрабуючы вычарпаць усе варыянты. Ён зноў і зноў праходзіў праз гэта, пачынаючы ад бяссоннага світанку аж да містычнага залпу. І да дня, прызначанага Юліюсам Ротэ, ён пераажыў сотню смерцяў на падворках, чые формы і куты стамлялі нават геаметрыю, яго расстрэльвалі розныя жаўнеры ў рознай колькасці: адны часам забівалі яго здалёк, іншыя — ва ўпор. Ён з сапраўдным страхам (а магчыма, з сапраўднай адвагай) сутыкаўся з гэтымі ўяўнымі пакараннямі, кожная карціна працягвалася некалькі секундаў, кола замыкалася, і Ярамір кожны раз з дрыготкай вяртаўся да перадпачатку сваёй смерці. Пасля ён прыйшоў да думкі, што рэальнасць не заўсёды супадае з прадчуваннямі і, кіруючыся перакручанай логікай, зрабіў выснову, што ўявіць абставіны ў дэталях — значыць пазбегнуць іх. Верны гэтай убогай магіі, ён выдумляў розныя жудасці — каб яны не адбыліся. Натуральна, ён скончыў тым, што пачаў баяцца, каб яны не зрабіліся прарочымі. Начамі няшчасны Хладзік імкнуўся хоць неяк замацавацца ў хуткаплыннай субстанцыі часу. Ён ведаў, што гэта будзе цягнуцца да світанку дваццаць дзявятага сакавіка, і разважаў уголас: «Цяпер ноч на дваццаць другога; і покуль доўжыцца гэтая ноч (і шэсць наступных начэй), я непераможны, я бессмяротны». Ён думаў, што ночы сну былі глыбокімі і цёмнымі водамі, у якія можна было пагрузіцца. Часам ён нецярпліва і горача жадаў вызначанага пакарання, якое б так ці інакш вызваліла яго ад бессэнсоўнай працы — уяўляць. Дваццаць восьмага, калі апошні захад сонца адбіваўся ў высокіх жалезных кратах, ад гэтых прыгнятальных думак яго адцягнуў успамін пра сваю п'есу «Ворагі».

Хладзіку мінула сорак. Па-за некаторымі сяброўскімі сувязямі і шматлікімі звычкамі яго жыццё зводзілася да даволі праблематычнага занятку літаратурай. Як кожны пісьменнік, ён меркаваў пра годнасць іншых па іх творах, але хацеў, каб іншыя яго судзілі па ягоных задумах і планах. Усе яго надрукаваныя кнігі выклікалі ў ім цяжкае пачуццё расчаравання. У сваіх даследаваннях творчасці Бёмэ, Ібн Эзры і Флада ён бачыў толькі простую старанасць, у перакладзе «Сэфер Ецыра» — нядбайнасць, млявасць і недакладнасць. Не такім убогім ён лічыў хіба толькі «Абвяржэнне вечнасці»: у першым томе апавядаецца пра розныя тэорыі вечнасці, якія вынаходзілі людзі, пачынаючы ад пастаяннага Быцця Парменіда і да зменнага мінулага Хінтана, другі абвяргае (следам за Фрэнсісам Брэдлі) тое, што ўсе з'явы сусвету маюць часавую паслядоўнасць. У ім даводзіцца, што лічба магчымых досведаў чалавека не бясконцая і што дастаткова аднаго «паўтору», каб давесці, што час — гэта падман… На жаль, не менш падманлівыя аргументы, якія выкрываюць гэты падман; Хладзік звычайна перабіраў іх з нейкай пагардлівай няёмкасцю. Ён склаў таксама цыкл экспрэсіяністскіх вершаў, яны — да сораму паэта — з'явіліся ў анталогіі 1924 года, і не было потым анталогіі, якая б іх не перадрукоўвала. Ад усяго гэтага памылковага і бляклага мінулага Хладзік хацеў адкупіцца толькі вершаванай п'есай «Ворагі» (ён аддаваў перавагу вершам, бо яны не дазваляюць слухачам забыцца пра пазарэальнасць, што ёсць умовай мастацтва).

У гэтай п'есе вытрымлівалася адзінства часу, месца і дзеяння. Дзея адбывалася ў Градчанах, у бібліятэцы барона Ромерштата, у адзін з апошніх вечароў дзевятнаццатага стагоддзя. У першай сцэне першага акта да Ромерштата прыходзіць незнаёмец. (Гадзіннік адбівае сем, апошнія гарачыя промні сонца запальваюць шкло, вецер даносіць знаёмыя гукі імклівай венгерскай музыкі.) За гэтым візітам ідуць іншыя, асобаў, якія яго турбуюць, Ромерштат не ведае, але ёсць трывожнае пачуццё, што недзе ён іх ужо бачыў — магчыма, у сне. Усе празмерна ліслівяць яму, але робіцца відавочным — спачатку гледачам драмы, пасля самому барону, — што гэта таемныя ворагі, якія змовіліся знішчыць яго. Але Ромерштат здолеў выкрыць і высмеяць іх складаныя інтрыгі. Раптам у размове закранаюць яго абранніцу, Юлію дэ Вайдэнаў, і нейкага Яраслава Кубіна, які калісь дакучаў ёй сваім каханнем. Гэты, у сваю чаргу, звар'яцеў і лічыць сябе Ромерштатам… Небяспека ўзмацняецца, у канцы другога акта Ромерштат вымушаны забіць змоўшчыка. Пачынаецца трэці акт, апошні. Паступова павялічваецца блытаніна: вяртаюцца героі, якія, здавалася, ужо зніклі з сюжэта, на імгненне вяртаецца чалавек, забіты Ромерштатам. Нехта заўважае ўголас, што вечар не надышоў: гадзіннік б'е сем, у шкле адбіваецца захад сонца, паветра прыносіць палкую венгерскую музыку. Тут з'яўляецца першы госць і паўтарае словы, якія прамовіў у першай сцэне першага акта. Ромерштат без здзіўлення звяртаецца да яго, глядач разумее, што Ромерштат — гэта няшчасны Яраслаў Кубін. Трагедыі не адбылося: гэта проста кругазварот трызнення, што бясконца пераажывае Кубін.

**Яго жыццё зводзілася да даволі праблематычнага занятку літаратурай. Як кожны пісьменнік, ён меркаваў пра годнасць іншых па іх творах, але хацеў, каб іншыя яго судзілі па ягоных задумах і планах**

Хладзік ніколі не пытаў сябе, была гэта трагікамедыя памылак бессэнсоўнай ці выдатнай, паслядоўнай ці выпадковай. Апісаны сюжэт — ён інтуітыўна адчуваў — быў найбольш зручнай выдумкай для таго, каб прыхаваць свае заганы і падкрэсліць перавагі, магчымасцю выразіць (у сімвалічнай манеры) асноўнае ў яго жыцці. Ён ужо скончыў першы акт і некаторыя сцэны трэцяга; вершаваны характар твора дазваляў перабіраць яго бясконца, шліфуючы гекзаметры без рукапісу перад вачыма. Яму падумалася, што не хапае яшчэ двух актаў, а ён вельмі хутка памрэ. Ён размаўляў з Богам у цемры. «Калі я якім-небудзь чынам існую, калі я не адзін з тваіх паўтораў і памылак, то я існую як аўтар «Ворагаў». Каб скончыць гэтую драму, якая можа апраўдаць мяне і Цябе, мне патрэбны яшчэ адзін год. Дай мне яго, Ты, Той, Каму належаць вечнасць і час». Была апошняя ноч, найбольш цяжкая, але праз дзесяць хвілін сон паглынуў яго, бы цёмная вада.

Да самага світанку Хладзіку снілася, што ён заблукаў у адным са сховішчаў бібліятэкі Клементынума. Бібліятэкар у чорных акулярах спытаў у яго: «Што вы шукаеце?» Хладзік адказаў: «Шукаю Бога». Тады бібліятэкар сказаў яму: «Бог знаходзіцца ў адной з літар на адной са старонак аднаго з чатырохсот тысячаў тамоў Клементынума. Мае бацькі і бацькі маіх бацькоў шукалі гэтую літару, я стаў сляпым, шукаючы яе». Ён зняў акуляры, і Хладзік убачыў вочы, што былі мёртвымі. Зайшоў, каб вярнуць атлас, нейкі чытач. «Гэты атлас бескарысны,» — сказаў ён і аддаў Хладзіку. Той адкрыў наўздагад. І, агаломшаны, убачыў карту Індыі. З нечаканай упэўненасцю ён дакрануўся да адной з найменшых літар. Усюдыісны голас сказаў яму: «Час для тваёй працы дадзены». І тут Хладзік прачнуўся.

Ён успомніў, што сны людзей належаць Богу. Яшчэ Майманід пісаў: калі словы ў сне дакладныя і выразныя, але немагчыма ўбачыць, хто іх сказаў, то яны спасланыя Богам. Ён апрануўся; у камеру ўвайшлі два жаўнеры і загадалі яму ісці за імі.

Хладзіку ўяўлялася, што з іншага боку дзвярэй — лабірынт з галерэяў, лесвіц і пакояў. Рэальнасць аказалася не такой раскошнай: яны спусціліся на задні падворак па адзінай жалезнай лесвіцы. Некалькі жаўнераў — некаторыя ў расшпіленай форме — размаўлялі, разглядаючы матацыкл. Сяржант паглядзеў на гадзіннік: было восем гадзін сорак чатыры хвіліны. Трэба было чакаць, пакуль гадзіннік не пакажа дзевяць. Хладзік, хутчэй абыякавы, чым няшчасны, сеў на абярэмак дроў. Ён заўважыў, што жаўнеры пазбягаюць сутыкацца з ім позіркамі. Каб палегчыць чаканне, сяржант даў яму цыгарэту. Хладзік не курыў, але цыгарэту ўзяў, ці то з ветлівасці, ці то з пакорлівасці. Прыкурваючы, ён заўважыў, што рукі ў яго дрыжаць. Спахмурнела, жаўнеры размаўлялі ціха, быццам ён ужо нежывы. Ён марна спрабаваў згадаць жанчыну, што была прататыпам Юліі дэ Вайдэнаў…

Жаўнеры пашыхтаваліся. Хладзік, стоячы каля сцяны казармы, чакаў залпу. Нехта выказаў занепакоенасць, што сцяна можа запэцкацца крывёю, і асуджанаму загадалі зрабіць некалькі крокаў наперад. Недарэчна, але Хладзіку гэта нагадала прыгатаванні перад здымкамі. Цяжкая кропля дажджу ўпала яму на скронь і павольна пакацілася па шчацэ. Сяржант выкрыкнуў апошнюю каманду.

І тут навакольны свет застыў.

Зброя была скіраваная на Хладзіка, але людзі, якія збіраліся яго забіць, знерухомелі. Рука сяржанта замерла ў незавершаным жэсце. На каменнай пліце падворка адбіваўся нерухомы цень ад пчалы. Вецер спыніўся, бы на карціне. Хладзік паспрабаваў крыкнуць, вымавіць слова, варухнуць рукою. І зразумеў, што спаралізаваны. Да яго не даходзіў нават самы слабы гук скамянелага свету. Ён падумаў: я ў пекле, я мёртвы. Ён падумаў: я звар'яцеў. Ён падумаў: час спыніўся. Пасля Хладзік узважыў, што ў такім выпадку думка б таксама спынілася. Яму захацелася гэта праверыць: паўтарыў (не рухаючы вуснамі) загадкавую чацвертую эклогу Вергілія. Ён уявіў, што далёкія жаўнеры падзяляюць яго трывогу: яму вельмі захацелася паразмаўляць з імі. Хладзіка здзівіла тое, што ён не адчувае ніякай стомы, нават млоснасці ад доўгай нерухомасці. Неўзабаве ён заснуў. Калі ён прачнуўся, свет па-ранейшаму быў нерухомы і нямы. На яго шчацэ па-ранейшаму заставалася кропля вады, на пліце — цень пчалы, дым цыгарэты, якую ён кінуў, так і не растаў. Прайшоў яшчэ «дзень», перш чым Хладзік зразумеў.

Ён прасіў у Бога год, каб скончыць сваю працу: Усёмагутны даў яму год. Бог зрабіў для яго таямнічы цуд: яго заб'е нямецкая куля, заб'е ў вызначаны час, але ў галаве яго паміж загадам і выкананнем загаду пройдзе год. Ягоная разгубленасць перарасла ў надзвычайнае здзіўленне, здзіўленне — у пакорлівасць, пакорлівасць — у нечаканую ўдзячнасць.

У яго не было на чым пісаць, акрамя памяці. Завучванне кожнага новага гекзаметра надавала яму шчаслівае адчуванне дакладнасці, пра якое не здагадваюцца тыя, хто прыдумляе і тут жа забывае невыразныя і выпадковыя радкі. Ён працаваў не для нашчадкаў, нават не для Бога, чые літаратурныя густы ён ведаў дрэнна. Скрупулёзны, нерухомы, таемны, ён уплятаў у час свой высокі нябачны лабірынт. Два разы ён перарабляў трэці акт. Адмовіўся ад некаторых занадта відавочных сімвалаў: паўторнага бою гадзінніка, музыкі. Нішто яго не хвалявала. Ён апускаў, скарачаў, пашыраў; урэшце ён аддаў перавагу першапачатковай версіі. Яму пачалі падабацца падворак, казарма, твар жаўнера насупраць змяніў яго ўяўленне пра характар Ромерштата. Ён адкрыў, што цяжкія какафоніі, якія так хвалявалі Флабэра, — проста візуальныя забабоны, слабасці і перашкоды слова пісьмовага, але не слова, якое гучыць… Ён скончыў сваю п'есу: не хапала толькі аднаго эпітэта. Хладзік знайшоў і яго. Кропля вады пакацілася па яго шчацэ. У яго вырваўся звар'яцелы крык, ён павярнуў твар, чатыры кулі павалілі яго на зямлю.

Ярамір Хладзік памёр дваццаць дзявятага сакавіка, у дзевяць гадзін і дзве хвіліны раніцы.

**Пераклад з гішпанскай Ганны Качалка.**
**«Прайдзісвет», № 15**

Адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная юбілею Уладзіслава Галубка, – «Беззапаветнае служэнне народу». Значнасць кожнага падобнага форума абумоўліваецца ў многім імёнамі яго ўдзельнікаў. Не трэба дататкова тлумачыць, якое месца ў сучаснай гуманітарнай навуцы Беларусі займаюць Аляксандр Лакотка, Сцяпан Лаўшук, Аляксандр Каваленя, Рычард Смольскі, Людміла Пятрова...

З гэтай прычыны вялікае значэнне набывае рэзалюцыя, якая была прынята па выніках канферэнцыі. Ужо сам факт падобнага дакумента ў актуальным беларускім дыскурсе па меншай меры нечаканы, а яго змест мае значэнне агульнадзяржаўнае.

Не будзем галаслоўнымі. Не станем прыводзіць лішні раз цытаты з дакумента. Падамо рэзалюцыю ў поўным абёме. Балазе, яна таго заслугоўвае.

**Анатоль Трафімчык**

# Рэзалюцыя

## Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Беззапаветнае служэнне народу: да 130-годдзя з дня нараджэння першага народнага артыста Беларусі Уладзіслава Галубка»

**1.** Сучаснае тэатральнае жыццё ў краіне вызначаецца даволі ўстойлівым працэсам творчага развіцця і ўзбагачэння лепшых традыцый нацыянальнай культуры беларусаў. Сведчаннем таму – шматлікія і рэгулярныя прэм'еры паводле твораў класічнай і сучаснай беларускай літаратуры і драматургіі, паспяховае сцэнічнае ўвасабленне асобных твораў сусветнай класікі, пашырэнне рэпертуарнай палітры за кошт твораў рускай і заходняй драматургіі, актывізацыя фестывальнага руху, паглыбленне міжнародных тэатральных сувязей.

Значнай падзеяй для сучаснага айчыннага тэатра стала ўтварэнне Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ініцыятыве Міністэрства культуры і асобных творчых саюзаў «Нацыянальнай тэатральнай прэміі» і правядзенне ў 2011 г. першага конкурсу паводле гэтай прэміі.

**2.** Аналіз стану сучаснага тэатральнага працэсу адначасова паказвае наяўнасць некаторых праблем у сцэнічным мастацтве, якія замінаюць справе больш паспяховага творчага развіцця і выканання тэатрам сваіх разнастайных і адказных культурных функцый у жыцці чалавека, грамадства, дзяржавы.

Сярод негатыўных з'яў асаблівую занепакоенасць выклікаюць наступныя моманты:

- адсутнасць у краіне спецыялізаванага тэатральнага выдання, што зусім не спрыяе развіццю тэатральнай навукі і тэатральнай крытыкі, так неабходнаму аб'яднанню маладых драматургаў, рэжысёраў, менеджараў, а таксама актыўнай прапагандзе нацыянальнага сцэнічнага мастацтва ў Беларусі і за яе межамі;
- паступовае фарміраванне так званага дырэктарскага альбо менеджарскага тэатра пры відавочным зніжэнні ролі ці ўвогуле адсутнасці мастацкага кіраўніцтва і страце аўтарытэтнасці і ўплывовасці мастацкага савета;
- з'яўленне ў рэпертуары значнай колькасці забаўляльнай нізкапробнай драматургіі ў разліку на так званую «касу», стыхійная камерцыялізацыя сцэнічнага мастацтва;
- бягучая афіша большасці тэатраў характарызуецца адсутнасцю стратэгіі і тактыкі ў пастаноўцы мастацкіх задач пры фарміраванні рэпертуарнай палітыкі;
- адсутнасць цікавасці да распрацоўкі сучаснай праблематыкі ў рэжысуры і драматургіі;
- вострая барацьба пакаленняў і размежаванне ўнутры творчага калектыву, пагардлівасць да маладых кадраў;
- ухіленне кіраўніцтва асобных тэатраў ад планамернага падбору і выхавання творчых кадраў, адсутнасць сістэмнай работы па ўдасканаленні прафесійнага майстэрства трупы;
- небяспечны працэс самаадасаблення тэатраў краіны, імкненне асобных кіраўнікоў кантактаваць з тэатрамі далёкага і бліжняга замежжа і, як вынік, адсутнасць трывалых творчых сувязей паміж тэатрамі ўнутры краіны, інакш кажучы, страта адчування адзінай тэатральнай сям'і.

**3.** Асновай нацыянальнага сцэнічнага мастацтва Беларусі сёння і ў гістарычнай перспектыве будзе мадэль дзяржаўнага, стацыянарнага, рэпертуарнага, з пастаяннай трупай тэатра. Гэта мадэль даўно і пераканаўча паказала сваю ўніверсальнасць у тэатральнай справе, яна стварае майстрам сцэны найбольш спрыяльныя ўмовы для плённай творчай дзейнасці, пошукаў, эксперыментаў, здзяйсненняў.

Адначасова неабходна развіваць дзяржаўна-прыватнае партнёрства ў сферы сцэнічнага мастацтва, ствараць неабходныя ўмовы для ўзнікнення тэатраў іншай формы ўласнасці.

**4.** З мэтай стварэння спрыяльных умоў для далейшага паспяховага развіцця тэатральнай справы ў пераходны перыяд да рыначнай эканомікі, ушанавання памяці выбітнага дзеяча нацыянальнай культуры беларусаў Уладзіслава Галубка неабходна ажыццявіць наступныя захады:

- падрыхтаваць праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб тэатры і тэатральнай дзейнасці»;
- стварыць зацікаўленымі дзяржаўнымі, грамадскімі і прыватнымі ўстановамі і арганізацыямі спецыяльныя «Фонды падтрымкі тэатральнага мастацтва» ў Мінску і абласных цэнтрах;
- для больш эфектыўнага кіравання ў сферы нацыянальнай тэатральнай культуры разгледзець пытанне аб стварэнні ў структуры Міністэрства культуры асобнага Дэпартамента па справах тэатральнага мастацтва;
- правесці сістэмныя рэформы існуючай сістэмы дзяржаўнага фінансавання сферы тэатральнага мастацтва з мэтай павышэння эфектыўнасці выдаткавання дзяржаўных сродкаў і прыцягнення пазабюджэтных матэрыяльна-тэхнічных і фінансавых сродкаў;
- арганізаваць выданне навукова-папулярнага, літаратурна-грамадскага часопіса «Беларускі тэатр»;
- пераўтварыць Гасцёўню Галубка ў дзяржаўна-грамадскі Нацыянальны цэнтр сцэнічнага мастацтва імя Уладзіслава Галубка;
- міжнароднаму фестывалю ў Гомелі «Славянскія тэатральныя сустрэчы» надаць імя Уладзіслава Галубка;
- адной з намінацый Нацыянальнай тэатральнай прэміі «За лепшы драматычны спектакль» надаць імя Уладзіслава Галубка;
- утварыць спецыяльныя стыпендыі імя Уладзіслава Галубка для студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Удзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі выказваюць надзею і ўпэўненасць у тым, што аб'яднанне сумесных дзяржаўных, грамадскіх і асабістых намаганняў па вырашэнні пазначаных у Рэзалюцыі канкрэтных праблем і задач дазволіць беларускаму тэатральнаму мастацтву і надалей годна ўносіць важкі ўклад у развіццё і ўзбагачэнне нацыянальнай мастацкай культуры, ушанавання памяці сапраўднага Волата беларускай культуры, якім, безумоўна, з'яўляецца Уладзіслаў Галубок, а таксама ў агульную справу дзяржаўнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь на сучасным этапе і гістарычнай перспектыве.

# Generation «П(ланктон)»

**Другая кніга прозы Кірыла Дубоўскага «Planktonus vulgaris» («Логвінаў», 2014), цэнтральнае месца ў якой займае аднайменная аповесць, адразу ж забірае ўвагу дзякуючы тэме, якая там падымаецца. На аповесць ужо ёсць шэраг рэцэнзій і прыватных водгукаў, і такая нетрывіяльная для беларускага аўтара цікавасць тлумачыцца тым, што Кірыл Дубоўскі, цытуючы допіс Андрэя Пакроўскага, аўтара кнігі прозы «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза», на фэйсбуку, «стварыў праўдзівы помнік эпосе і герою нашага часу» (тут і далей пераклад цытат з рускай мовы).**

Героем аповесці (ці вялікага апавядання, як назваў яго ў рэцэнзіі «Сіткам пра офіс» Аляксей Стрэльнікаў) Дубоўскага робіцца нядаўні выпускнік ВНУ, які спрабуе знайсці сваё месца ў жыцці, і гэтае месца вызначаецца вельмі проста: першая праца. Скончыўшы ўніверсітэт і не маючы пакуль ніякага працоўнага досведу, Канстанцін Дарожкін «не прыдатны для выканання ніякіх канкрэтных задач», а таму гатовы шукаць працу ў розных сферах, часам не надта звязаных з атрыманай адукацыяй. Аўтара аповесці цікавіць менавіта працоўная гісторыя яго героя, а таму вобраз Канстанціна Дарожкіна раскрываецца толькі ў гэтым вымярэнні. Перад чытачом — малады чалавек, усе думкі якога занятыя пошукам першай працы (а пасля таго, як праца знойдзеная — выжываннем на ёй) і які адначасова хоча займацца літаратурай, але ўспрымае яе ў той самай катэгорыі «пошукі працы». Ён адчувае ў сабе літаратурны талент, аднак ставіцца да яго практычна: найперш яго цікавіць магчымасць зарабляць літаратурай.

Калі разглядаць Канстанціна Дарожкіна не столькі як літаратурнага героя, які мае пэўныя рысы і дзейнічае ў адпаведнасці са сваім характарам, а як абагулены тып, атрымаецца наступная карціна. Малады чалавек са звычайнай сям'і з тым і з тым, а таму не самай запатрабаванай (у дадзеным выпадку, эканамічнай) адукацыяй без досведу працы і карысных сувязяў, спрабуе ўладкавацца на працу, каб атрымаць фінансавую незалежнасць ад бацькоў. Ён верыць, што «першую працу не абавязкова шукаць кепскую і бесперспектыўную, калі можна адразу добрую», аднак у выніку менавіта кепскія яму доўгі час і трапляюцца.

Такі абагулены вобраз выпускніка ВНУ атрымаўся ў аўтара вельмі ўдала: пачатак яго кар'еры можна назваць тыповым для таго гарадскога пакалення, што нарадзілася ў першай палове 80-х (магчыма, нават пазней, да пачатку 90-х), школьную і вышэйшую адукацыю атрымлівала ў 1990-2000-х і пачало сваю працоўную кар'еру ў апошнія 10 гадоў, магчыма, пару гадоў таму. Стартавасць гэтаму пакаленню, дакладней, тым яго прадстаўнікам, якія не трапілі пад размеркаванне і шукалі працу самастойна, часцей за ўсё даводзілася менавіта такім «офісным планктонам». Дзякуючы пазнавальнасці жыццёвага сцэнару аповесць выклікае ў тых чытачоў, якія перажылі нешта падобнае, моцны эмацыйны водгук: яны прымерваюць на сябе калі не вобраз галоўнага героя, то яго абставіны, і ў яго праблемах з працаўладкаваннем пазнаюць тое, што перажылі самі.

Гэтае пакаленне «стабільнасці», якому ад Савецкага Саюза засталася толькі настальгія бацькоў, якое слаба памятае, як грамадства хісталі ў 90-х, і якое ўжо дакладна не брала ў гэтых хістаннях ніякага ўдзелу, пакаленне, якое мала цікавіцца палітыкай, нагадвае апісанае ў 1991-м амерыканскім пісьменнікам Дугласам Коўплендам «Пакаленне Х». Народжанае бэбі-бумерамі, якія прыйшлі ў свет у ЗША пасля Другой сусветнай, дабілася трывалага дабрабыту і трымалася за ідэалістычныя погляды і сямейныя каштоўнасці, гэтае пакаленне, сталенне якога прыпала акурат на 90-я, ужо не мела ані магчымасцяў, ані ідэалізму сваіх бацькоў. У рамане «Пакаленне Х» Дуглас Коўпленд апісвае быт «іксераў» — «з адсутнасцю прывабнай кар'еры і звычайных жыццёвых перспектываў, з неўладкаванасцю, якая, праз адсутнасць альтэрнатываў, паступова ператвараецца ў жыццёвае крэда, што спалучае іронію ў дачыненні да грамадства з бездапаможнасцю перад яго тварам, непрыняцце ніякіх каштоўнасцяў — з поўнай адсутнасцю ўстаноўкі на пратэст» (Ілля Кармільцаў, «Пакаленне Ікс: апошняе пакаленне?»).

Як і Коўпленд, Кірыл Дубоўскі апісаў сцэнар жыцця, характэрны для яго асяроддзя, гэта калі не яго ўласная гісторыя, дык сінтэз гісторыяў, якія здараюцца на кожным кроку. Гэтая аповесць — пра жыццё сучаснага гарадскога чалавека, з максімальнай рэалістычнасцю і лаканічна апісаная ў адзначанай Аляксеем Стрэльнікавым жж-манеры. Найпершае значэнне кнігі ў тым, што яна фіксуе досвед пакалення «стабільнасці», аднак аповесць так і не выходзіць за межы чыстага апісання сітуацыі. Аўтар занатоўвае свой досвед, аднак ніяк яго не падагульняе і не аналізуе, фактычна гэта злепак з рэальнасці, які не дае ані перадгісторыі, ані тлумачэнняў, ані намёкаў на працяг.

У сваім допісе пра «Planktonus vulgaris» Андрэй Пакроўскі зазначае, што «эпоха і героі нам дасталіся нейкія панылыя». Панылась герояў — акурат з той самай адсутнасці канфлікту ў сітуацыі і адсутнасці ўстаноўкі на пратэст, якой вылучаецца коўплендаўскае «пакаленне Х». Разгублены ад цьмянасці сваіх перспектываў, Канстанцін Дарожкін прымае прапанаваную яму рэчаіснасцю мадэль жыцця. Яго прага займацца літаратурай (дакладней, зрабіць літаратуру сваёй прафесіяй) застаецца нерэалізаванай. Адзіны для яго выхад — шукаць добрую працу далей. Магчыма, гэта ў яго ўрэшце і атрымалася.

**Ганна Янкута**

# «Песні ранняй вясны»

**Вясна паціху пачынае ўсталёўвацца на адталых айчынных прасторах.**

Я шчэ шмат пасляснежнай вады і гразі, аднак сям-там падсыхае і лапінамі пачынае вылазіць трава, а на вербах набухаюць пупышкі… Тым часам і літаратурны працэс бурліць вуркліва да самазабыўнасці. Асабліва ў электронных сетках. Здаецца, сёння ўсё, апроч нараджэння і смерці, змяшчаецца ў інтэрнэце. Бадай што і сам Фёдар Дастаеўскі, напэўна, быў бы здзіўлены, што чалавека так хутка *«звузілі»*… А між тым, на кожным кроку праблемы. Дайшло й да «дыскрымінацыі» — падумаць толькі! — рускай мовы ў беларускай літаратуры. М-да… А на адной з нядаўніх імпрэз С. Дубавец нечакана заяўляе, што вось змагаўся ён з савецчынай і «рускім мірам», але сёння, як бы тое не выглядала дзіўным, перад пагрозай магчымай вайны, *амаль* гатовы вылучыць некалі зацяганы стары партыйны лозунг: з кім вы, майстры культуры?! Трохі ўтрырую, але блізка да таго. І дарэчы, сам з падобнай пастаноўкай пытання таксама *амаль* пагаджаюся. Агулам — запальных спрэчак і палемікі шмат, тусовачнага апломбу праз край, эгацэнтрычнасць зашкальвае, а высокамастацкай літаратуры — вобмаль… Ды, дзякаваць Богу, усё ж зрэдзьчас з'яўляецца. Вось вакол такіх паасобных твораў і распальваць бы палеміку, «ламаць пер'е», разгалошваць чуткі пра іх, пашыраючы абсяг прыхільнікаў краснага пісьменства.

Часопіс «Дзеяслоў» — адно з тых рэдкіх выданняў, якое намагаецца быць на вастрыі літаратурнага, а не калялітаратурнага, працэса. Не заўсёды атрымліваецца трымаць раўнавагу, але прага мастацкага заўважная. Як і ў чарговым (74) нумары, публікацыі якога пачынаюцца двума аповедамі вядомага пісьменніка **Віктара Казько** пад агульным назовам «Свята мужчынскага смутку». Мудрае, а таму лірычна-іранічнае, асэнсаванне марнасці жыцця сучаснага пост-савецкага чалавека. Што праўда, падчас занадта згушчаны стыль пісьма замаруджвае ход і яснасць думкі і ўтрудняе чытацкае ўспрыманне. Разам з тым, трэба прызнаць, што адвольна і карыкатурна выпісаны вобраз беларускага Моці ў гэтых і папярэдніх аповедах Віктара Казько востра выяўляе крытычную сітуацыю з нацыянальнай і грамадзянскай самасвядомасцю ў нашай краіне. Вось адзін з фрагментаў: *«Але так ужо заведзена — за вялікім чаканнем такое ж вялікае расчараванне. Амаль сусветны падман, разбуральны падман прывабнага снення. Часам незапамінальныя праблíскі яго гоняцца за табой у калавароце сумнай рэчаіснасці і помсцяць, помсцяць табе нязбыўнасцю.* <…> *У якой ступені і меры гэта тычылася яго, Моці, ён не ведаў. Але падсвядома адчуваў такі сэнс, такі вырак усяму жывому на свеце. Гэта адчуванне агарнула яго, калі ён пайшоў у дзіцячы садок»*. Што ж, будзем спадзявацца на выхад асобнай кнігі нашага вядомага пісьменніка пра жыццяпіс нязломнага электаральнага Моці.

**Франц Сіўко** друкуе маральна-псіхалагічны твор (аповесць «Цымант»), які заводзіць чытача са знешняга, акаляючага нас свету, ва ўнутраны свет чалавека з усімі яго неспадзяванкамі і таямніцамі. Дэтэктыўна-крымінальны стрыжань сюжэту не засланяе агульную і паасобную духоўную карціну чалавечага і грамадскага жыцця. Адказнасць чалавека перад людзьмі не толькі за сябе і свае ўчынкі, але і спроба негалоснага замольвання ім чалавечай грахоўнасці ўвогуле надае тэксту мастацкай вартасці і злабадзённага гучання.

Простыя аповеды пра простыя рэчы і звычайных людзей. Як ёсць. Шмат абрысаў і вобмаль фарбы. Такое, значыць, чорна-белае жыццё і адпаведная яму кароткая проза **Уладзіміра Сцяпана** («Задача», тры навелы). Сухаватая, але чытэльная.




А вось сатырычна-гумарны аповед **Вінцэся Мудрова** («Песні ранняй вясны»), на мой погляд, рэдакцыя магла б прытрымаць і да восеньскага нумара, да пачатку чарговага ўсенароднага выбарчага адабрэння. Цытаваць тэкст можна з любога месца… Я толькі прыведу некаторыя забытыя намі словы, якія паспрабаваў уваскрасіць аўтар: *«удзельнікі польскага падзем'я»*, *«выбарчыя дзяльніцы»*, *«бедалака»*, *«жычкі»*, *«калейка»*, *«бравэра»*, *«запрыдух»*, *«ірты»*, *«брызгуль»*, *«гілос»*, *«трыба»*, *«пушка запалак»* і поруч *«кубарка сярнічак»*, *«лемзаць»*, *«начвэндзіць»*, *«сутанак»*, *«хваравека»*, *«кіяховы корак»*, *«памяльнік»*… Пры чытанні, дарэчы, успомніўся мне ўласны дзіцячы час пачатку 1950-х гадоў, калі ў заходне-беларускіх вёсках і нават у райцэнтрах пачуць расійскую мову можна было нераўнуючы як насамрэч замежную… Раю і вам акунуцца ў «страхаморлівыя», як піша аўтар, думкі і амаль святочныя чырвонасцяжныя завейныя дзеі таго часу.

Цяжка даць вызначэнне тэкстам **Паліны Качатковай**: ці то гэта напраўду, як яна пазначае, аповеды, ці то журналісцкія нататкі (або ў лепшым выпадку эсэ). У іх ёсць добрая мова, аўтарскі вопытны зрок і слых, але бракуе стылёвай музыкі і адзінства формы і зместу.

З перакладаў прозы трэба адзначыць чытэльную і забаўную аповесць украінскага пісьменніка **Валадзіміра Даніленкі** «Цені ў маёнтку Тарноўскіх» (пераклад Б. Пятровіча), на першы погляд, прымітыўна-праставатую, як самі чалавечыя інстынкты, але і прыцягальную нейкай унутранай, патаемнай, штосьці наспяваючай метафарычнай жарсцю, за якой, бы начная жаночая бялізна, зазыўна мільгаецца код нацыянальнага і фізічнага выраку чалавека. Тэкст з сэксуальнай і эратычнай падкладкай, як кажуць, для вельмі шырокай публікі.

Міні-аповед «Дождж» — сухі, лапідарны, прахалодны скандынаўскі стыль — пэўны, хоць даастатку і недагавораны. *«Я, бачыце, рэгулярна выходжу на шпацыр. На доўгі шпацыр па дажджы. І вось сёння ўдзень я ўбачыў гэтага пацука. Ён папросту патануў. Я ў гэтым не сумняваўся. Ва ўсякім разе ён ляжаў у канаве — нежывы і мокры. Вось яно як, падумаў я. Ты там валяешся, а я тут стаю»*. У гэтым кароткім фрагменце ўвесь высокі сэнс духоўных спасціжэнняў і ўнутраных пертурбацый нарвежскага пісьменніка **Інгвара Амб'ёрнсэна** (апавяданні «Часовая прысутнасць» у перакладзе Лідзіі Ёхансэн).

Што да паэзіі… Вершы вядомага старэйшага паэта **Васіля Зуёнка** лірычныя, але дастаткова мудрыя, без напускной павучальнасці, нібы перад выдыхам — прароча-адчайныя. Як гэты («Д'ябальскае пытанне»):

*Не суджана змовіцца двум прарокам,*
*Адзінства — не іх узаемны дар.*
*Прарок — як гэты свет — адзінокі.*
*Ён толькі сам над сабой валадар.*
*Прарокі ж самі і навучылі —*
*Несумяшчальнасцю ў мудрых тамах:*
*Няма прарока ў сваёй Айчыне…*
*— А можа, Айчыны ў прарока няма?..*

Нізка верлібраў **Марыі Вайцяшонак** «Да зімы тварам» вызначаецца тонкай душэўнай вынашанасцю, сатканай з досведу жыцця і духоўнага вопыту. Своеасаблівая метафарычна-вобразная магма жаночай бяссонніцы…

*гады падыходзяць*
*вясковым*
*разводдзем:*
*той бераг,*
*дзе ты,*
*яшчэ далей*
*адплывае.*

Вершы **Валеры Дубоўскага** («Родавыя аскепкі неба») — пошук формы і стылю для бесперапыннага ўдасканальвання ўласнай асобы. Шмат абстракцый і адстароненасці ад быту дзеля спасціжэння існасці зямнога быцця.

*Слова — запісаны сэнс,*
*занітаваная рэальнасць,*
*эмоцыя,*
*якая здабыла абалонку.*

Вершы **Тацццяны Будовіч** вартыя прачытання, хоць бы таму, што выпадкова занатаваныя ў падсвядомым космасе падчас псіхалагічнай бязважкасці:

*сціснí мяне ў далонях*
*калі паспееш*
*я твой квіток у іншае вымярэнне*
*адпачывалі Хічкок з Міядзакі*
*калі Бог прырабляў мне крылы*

Падляшскі беларускамоўны паэт **Андрэй Сцепанюк** (нізка «Бельскае маўчанне») разлічвае на разважлівага чытача. У яго тэкстах амаль нічога не засталося ад традыцыйнага класічнага верша, але, як мне падаецца, яшчэ недастаткова і таго, што спараджае высокае мастацтва. Скажам, аўтар і Паэзія на паўдарозе адзін да аднаго.

*З кахання пачнецца Слова*
*невыразнае і маўклівае*
*нясмелае і неспелае*
*Са слова вырасце нескладаны Сказ*
*граматычна просты*
*і недасканалы ў форме*
*Са сказам адкрыюцца Вусны*
*і горла зробіць праверку Голасу*
*Голас зварушыць Думку*
*вырве яе са сну і дрымоты*

Даволі аб'ёмная, як для дэбютанта, нізка вершаў «Мая Ітака» мінскага мастацтвазнаўцы **Паўла Дарохіна** пакідае неадназначнае ўражанне. Адукаваны, начытаны чалавек, але хаатычна разбэрсаны ў думках і пачуццях, не зусім падрыхтаваны да гарманічнага ўспрыняцця свету. Паэзія патрабуе мастацкай цэльнасці, калі неабходныя словы паспяваюць за аўтарскай інтуіцыяй. У Паўла ж пакуль падобных удач, мякка кажучы, няшмат.

*Маўчу часта, кажу рэдка*
*Слухайце, дзеткі, страшны сакрэт*
*Папараць-кветка — не папараць-кветка*
*Гэта катлетка.*
*З дзяцінства ўмейце адрозніваць*
*расліны ад катлет.*

Пажадаем і нашаму аўтару навучыцца адрозніваць паэзію ад версіфікацыі.

Пяройдзем, як мне падаецца, да найбольш цікавага раздзела, які можна аднесці да мемуараў, дзённікаў і публіцыстыкі. Да 80-годдзя народнага паэта Рыгора Барадуліна Сяргей Шапран сабраў і падрыхтаваў успаміны пра яго розных людзей. Асаблівую цікавасць выклікае расповед **жонкі паэта Валянціны,** у якім яна даволі шчыра прыпомніла пяцьдзясят тры пражытыя разам гады. Бывала ўсякае, але помніцца найбольш яскравае. Напрыклад: *«Не магу сказаць, што пакахала Грышу за ягоную паэзію — ён спадабаўся мне проста як чалавек. І ўсё жыццё я цаніла яго найперш як чалавека і толькі пасля — як паэта…»*. Далей больш: *«Мову я, канечне, любіла — мову саму па сабе, але да паэзіі была абыякавай. Я не тое, што не люблю паэзію — яна мяне не кранае»*. І напрыканцы трохі дзіўная як для філолага, але, як для самага блізкага чалавека, зразумелая выснова: *«Думаю, што ўсё ж ён быў геніем. І хоць ён са мной не пагадзіўся б, але мне здаецца, што ў беларускай літаратуры менавіта ён першы пісьменнік — наперадзе Багдановіча, Купалы, Коласа. Яны першыя таму, што былі раней за яго, але па ўзроўні першы ўсё-ткі Рыгор»…*

Да ўспамінаў Валянціны Барадулінай дадаліся цёплыя словы **Г. Бураўкіна, сястры В. Быкава Валянціны, лонданскага беларусіста А. Макміліна, У. Сіўчыкава і Р. Сітніцы.** Следам публікуюцца *запісы розных гадоў* народнага паэта **Ніла Гілевіча.** Цікава, што пачынаюцца яны з такой рэдакцыйнай вынаскі, якая пасуе да папярэдняга: *«…наконт генія зайздрасці мы, беларусы, можам з балгарамі пацягацца…»*.

Прыцягваюць увагу вельмі жывыя *«гісторыі з савецкага часу»* **Зянона Пазьняка** пра сціплых герояў беларушчыны, вобразы якіх, прапушчаныя праз памяць і сэрца аўтара, вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча, як праз трохграннік часу, недзе ў падтэкстах выяўляюць і постаць самога Пазьняка, як неардынарнага чалавека і асобы. Нястомны ратáй нашай літаратурнай нівы **Сяргей Шапран** працягвае перагортваць старонкі новай кнігі «Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія». Чытэльная, між іншым, штука. Дзіўнымі фармалістычна-лінгвістычнымі ўспамінамі падзяліўся з чытачамі **Аляксандр Лукашук** («На вадзе, на зямлі і ў небе»). Калі шчыра, мяне больш уражвалі яго партрэты сучаснікаў у папярэдніх нумарах часопіса. Друкуюцца «алкагольныя эцюды» **Анатоля Астапенкі.** Пра мастака Пётру Багданава піша **Галіна Багданава.** Вядомы літаратуразнаўца, крытык і драматург **Сяргей Кавалёў** рэцэнзуе даволі неардынарную кніжку калегі Ігара Запрудскага «Метафізіка беларускай крытыкі». **Леанід Галубовіч** разважае над зборнікам вершаў беластоцкай маладой паэткі Касі Сянкевіч «Гарбата з незабудак». Завяршаюць публікацыі рубрыка «Дзеяпіс» і змест усіх нумароў часопіса за 2014 год.

Ёсць што пачытаць, шаноўныя. Давайце жыць не толькі хлебам, але і словам. Беларускім. Каб не ўмерці даастатку ні пры якіх раскладах цёмных сілаў.

Вясна ўсё ж!

**ЛеГАЛ**

**Будзьма з «Дзеясловам»!**

Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.

Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў – **74813**,
для ведамаснай падпіскі – **748132.**




# Аўтар Карлсана — на шведскай банкноце

**Партрэт вядомай на ўвесь свет дзіцячай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн з'явіцца на шведскай банкноце наміналам у 20 крон.**

Разам з партрэтам пісьменніцы на банкноце таксама намаляваны кнігі і адна з самых папулярных персанажаў Ліндгрэн — Пэпі Доўгаяпанчоха.

Творы вядомай шведскай пісьменніцы разышліся па ўсім свеце колькасцю больш чым 150 мільёнаў асобнікаў, яны перакладзены на 95 моў, у тым ліку і на беларускую.

Новую банкноту прэзентуюць у кастрычніку 2015 года.

# Прафесія «пісьменнік» у Расіі?

**У расійскі рэестр прафесій могуць увесці прафесію «пісьменнік».**

«Сацыяльная платформа партыі «Адзіная Расія» пачала экспертную працу па падрыхтоўцы магчымых паправак у Працоўны кодэкс, а таксама ўвядзенню ў рэестр прафесіі «пісьменнік». Гэта можа паслужыць зыходным пунктам для перагляду ставак мінімальнай аплаты працы літаратараў», — заявіў журналістам віцэ-спікер Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Сяргей Жалязняк.

Паводле слоў дэпутата, такое рашэнне неабходна ў святле таго, што руская літаратура аказала «велізарны ўплыў на сусветную цывілізацыю».

# Самыя высокааплатныя...

**«Forbes» апублікаваў рэйтынг самых высокааплатных пісьменнікаў свету.**

Рэйтынг складзены па выніках года з чэрвеня 2013 па чэрвень 2014. Першае месца заняў амерыканец Джэймс Патэрсан, аўтар дэтэктываў і трылераў. Ён напісаў серыю кніг пра інспектара Алекса Кроса і дэтэктыва Майкла Бенета, а таксама больш за дзесяць раманаў у серыі «Жаночы клуб расследаванняў забойстваў». Яго ганарар за 12 месяцаў склаў $ 90 млн, а за апошнія дзесяць гадоў Патэрсан зарабіў $ 700 млн.

Нагадаем, што летась Дж. Патэрсан заявіў пра намер раздаць 1 мільён даляраў на дабрачынныя мэты і дапамогу выдавецкаму бізнесу. З таго часу ён ужо ўручыў гранты амаль на палову згаданай сумы. Сродкі кнігагандляры збіраюцца ў асноўным выдаткаваць на рамонт і набыццё тэхнікі, арганізацыю бясплатных сустрэч з пісьменнікамі і раздачу літаратуры сем'ям, якія жывуць за рысай беднасці.

На другім месцы «грашавітага» рэйтынгу Дэн Браўн з заробкам у $ 28 млн, што на $ 6 млн больш, чым летась. Яго кніга «Інферна», выпушчаная ў 2013 годзе, была прададзена ў ЗША ў колькасці 1 млн 400 тысячаў асобнікаў. Цяпер вырашаецца пытанне аб яе экранізацыі.

Трэцяе месца па прыбытках дасталося аўтару дэтэктываў і раманаў пра каханне Норы Робертс. Яе заробак — $ 23 млн., што на $ 1 млн больш, чым у Даніэлы Сціл — аўтаркі класічных жаночых бэстсэлераў.

На пятым месцы з $ 20 млн прыбытку — Стэфані Плам з дэтэктывамі пра прыгоды прадаўшчыцы бюстгальтараў...

# Краіна Дон Кіхота

**У іспанскай аўтаномнай вобласці Кастылія–Ла-Манча з 2015 года ўсе ахвотныя могуць далучыцца да новага турыстычнага маршрута «Краіна Дон Кіхота» (País del Quijote), створанага па матывах знакамітага рамана Мігеля дэ Сервантэса.**

Большая частка кнігі адбываецца менавіта ў гэтай частцы Іспаніі. Так, у Таледа Дон Кіхот пераблытаў рынкавых гандляроў з рыцарамі і прымусіў іх прызнаць Дульсінею Табоскую самай прыгожай дамай у свеце, а гарады Кампа-дэ-Крыптана і Кансуэгра спрачаюцца за правы лічыцца месцам «бітвы са шматрукімі волатамі». Экскурсія «Краіна Дон Кіхота» пазнаёміць з іспанскай класікай, даўшы магчымасць засяродзіцца ў атмасферу рамана, які зрабіў вялікі ўплыў на фарміраванне еўрапейскай літаратуры.

У часе маршрута можна ўбачыць цікавыя гістарычныя славутасці гарадоў Таледа і Эль-Табоса, жывапісныя сельскія пейзажы ў рэгіёнах Алькасар-дэ-Сан-Хуан, даліны з ветракамі, пагоркі і старажытныя дарогі, па якіх, паводле твора Сервантэса, некалі падарожнічалі рыцар Дон Кіхот і яго верны збраяносец.



Новы маршрут прымеркаваны да святкавання чатырохсотгоддзя з дня публікацыі другой часткі кнігі, а з 2016 года (да 400-гадовага юбілею з дня смерці Сервантэса) тур папоўніцца новымі аб'ектамі паказу.

## ПРЭМІІ

### Прэмія імя Шолам-Алейхема

**Лаўрэатам прэміі імя Шолам-Алейхема за 2014 год стала Валерыя Багуслаўская, перакладчыца і паэтка, член Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны.**




Яна ганараваная за кнігу выбраных перакладаў габрэйскай паэзіі на ўкраінскую мову «Высокае дрэва».

Сёлета міністэрства культуры Украіны вызначыла 5 намінантаў на атрыманне прэміі: Валерыя Багуслаўская, Валадзімір Даніленка, Аляксей Зарахові, Аляксандр Ласкін і Валадзімір Палішчук. Узнагароджанне было прымеркавана да дня нараджэння габрэйскага пісьменніка — 2 сакавіка.

«Разумееце, я — габрэйка. Я лічу сваім абавязкам, каб засталося на гэтай зямлі тое, што тут было зроблена. У асноўным усе паэты, якіх я перакладаю, гэта выхадцы з Украіны. Або яны тут нарадзіліся, ці тут жылі, або нейкім іншым чынам яны амаль усе звязаныя з Украінай, і гэтая паэзія, якая цяпер на мове ідыш, амаль недаступная. Я хачу, каб яна засталася на зямлі, на той мове, якую гэтая зямля разумее», — распавяла В. Багуслаўская.

Як адзначыў першы намеснік міністра культуры Украіны Ігар Ліхавы, прэмія імя Шолам-Алейхема заснавана распараджэннем Кабінета міністраў Украіны ў 2009 годзе. Узнагарода ў памеры 12 пражытачных мінімумаў за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту прысуджаецца адзін раз у тры гады.

Лаўрэатамі прэміі Шолам-Алейхема могуць быць пісьменнікі, перакладчыкі, сцэнарысты, драматургі — аўтары, якія папулярызуюць духоўна-культурныя дасягненні ўкраінскага і габрэйскага народаў і спрыяюць распаўсюджванню пазітыўнага іміджу Украіны ў свеце.

Гэта была ўжо другая цырымонія ўзнагароджання. Першым лаўрэатам прэміі 2012 года стаў Рыгор Фальковіч за кнігу выбраных вершаў «На скрыжаванні формы і зместу».

### Жаночая літпрэмія «Baileys»

**Старшыня жаночай літаратурнай прэміі «Baileys» Шэмі Чакраборці пры абвяшчэнні лонг-ліста ўзнагароды наракала на тое, што гендэрныя стэрэатыпы ў свеце літаратуры ўсё яшчэ перашкаджаюць жанчынам.**

На думку Ш. Чакраборці, арганізатары прэміі «нікольki не наблізіліся» да сваёй мэты зрабіць жанчыну паўнавартасным удзельнікам літаратурнага жыцця. «Трэба працягваць падтрымліваць жаночую літаратуру. Падтрымліваць жанчын наогул — няма тут больш магутнага інструмента, чым гісторыі», — адзначыла яна.

У лонг-ліст, у прыватнасці, увайшлі кнігі Элі Сміт, Эн Тайлер, Камілы Шэмсі, Сары Уотэрс і Рэйчэл Каск.

Упершыню прэмію ўручылі ў 1996 годзе. Ідэя заснаваць яе паўстала раней — у 1991-м, калі ў шорт-ліст «Букера» не трапіла ніводная пісьменніца.

# Невядомыя вершы Ламаносава

**Тры невядомыя раней вершы паэта і вучонага Міхаіла Ламаносава выявілі літаратуразнаўцы Пушкінскага дома (Інстытут рускай літаратуры РАН) пры складанні «Слоўніка рускіх пісьменнікаў XVIII стагоддзя».**



«Я супаставіў два дакументы... Адзін паведамляе, што Ламаносаву выдадзена 200 рублёў за падрыхтоўку феерверка ў гонар наступлення 1759 года, а другі — гэта праграмка, якую выдавалі ўдзельнікам свята. Руска-французскі варыянт праграмкі ўтрымлівае віншавальны верш з 20 радкоў, у руска-нямецкім варыянце верша не было. На аўтарства Ламаносава паказвае літаратурны стыль, а таксама супастаўленне біяграфічных дадзеных і аналіз архіўных дакументаў», — падзяліўся здагадкай сакратар Пушкінскага дома Андрэй Косцін.

Феерверк быў уладкаваны на пляжы Петрапаўлаўскай крэпасці. З вокнаў Зімовага палаца яго маглі назіраць удзельнікі навагодняга свята, у тым ліку замежныя паслы.

Два іншыя творы Ламаносава таксама звязаныя з феерверкамі: навагодні ў гонар наступлення 1758 года і салют каля палаца графа Пятра Шувалава, які адбыўся 11 чэрвеня 1758-га. «Мы з вялікай упэўненасцю прысвойваем аўтарства Ламаносаву, хоць яго подпіс пад тэкстамі адсутнічае», — адзначыў А. Косцін.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Bookseller, The Local Se, Газета.Ru, The Telegraph, The Guardian, Associated Press, novostiliteratury.ru, ТАСС і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 3 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.15** Ваенная драма «Сямнаццаць імгненняў вясны» СССР.
**10.50** Ретрадрама «Тальянка».
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Мастацкі фільм «Здрада».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Мастацкі фільм «20 гадоў без кахання».
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**17.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**17.55** Нашы.
**18.10** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Ретрадрама «Тальянка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Трылер «Апполон 18».
**23.50** Навіны.
**23.50** Дзень спорту.
**00.25** Мастацкі фільм «20 гадоў без кахання».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.05** «Вучыцца жыць».
**14.35** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Беражыся аўтамабіля». Маст. фільм.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тры акорды.
**23.05** Што? Дзе? Калі?
**00.15** Вячэрні Мінск.
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Ягуар». Мастацкі фільм.
**10.20** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Жаданая». Серыял.
**15.35** «Мае цудоўныя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вовачка 3». Камедыйны серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.35** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** СТБ прадстаўляе.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тэрыторыя памылак».
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** Мастацкі фільм «Фантоцы ідзе на пенсію».

### Беларусь 2

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Участковая».
**10.05** Капейка ў капейку.
**10.40** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.50** Я хачу гэта ўбачыць!
**13.10** Кіпень.
**13.30** Сустрэча з..
**14.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**16.15** Вось дык так!
**16.50** Серыял «Участковая».
**18.55** Хачу ў тэлевізар!
**19.00** Трылер «Сакрэтныя матэрыялы. Хачу верыць».
**21.00** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Рэаліці-шоу «Хачу ў тэлевізар».
**21.50** Рэпарцёр.
**21.55** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.45** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**01.35** Футбол. Еўра-2016. Агляд.

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** Калейдаскоп.
**08.10** «Цудоўныя панове з Буа Дарэ». Прыгодніцкі серыял. 3-я серыя (Францыя, 1976 г.).
**09.45** «Персона». Дзіяна Арбеніна.
**10.00** «Сяброўка Восень». Меладраматычны серыял. 1-я - 4-я серыі (Беларусь-Расія, 2002 г.).
**13.05** Калейдаскоп.
**13.15** «Сіла веры».
**13.45** «Навукаманія». Гарачая галіна.
**14.10** «Рака Мая». Рыгор Федасееў. Дакументальны фільм з цыклу «Першапраходцы Далёкага Усходу».
**14.50** «Далёкі Усход: утаймаванне стыхіі». Дакументальны фільм.
**15.15** «Ляўша». Мультфільм.
**16.00** «Гваздзік». Біяграфічная драма (Японія), 2011-2012 гг.).
**16.30** Творчы вечар народнага артыста Расіі Сяргея Безрукава.
**17.30** «Цудоўныя панове з Буа Дарэ». Прыгодніцкі серыял. 3-я серыя (Францыя, 1976 г.).
**19.05** Калейдаскоп.
**19.15** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Кінаэпапея «Вызваленне». Фільм першы «Вогненная дуга» (СССР, 1968 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Стальныя звery». Дакументальны фільм пра бранятанкавую тэхніку Германіі і СССР другой сусветнай вайны. 1-я і 2-я серыі.
**22.05** Прэм'ера. «... І пра нешта іншае». Дакументальны фільм.
**22.40** Трансляцыя Хрэснага ходу з Рымскага калізея з удзелам Папы Рымскага Францыска.
**23.40** Прэм'ера. «Камертон». Мастацкі кіраўнік тэатра "У Никитских ворот", народны артыст Расіі Марк Разоўскі.
**00.05** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**03.05** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Маямі».
**05.25** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Паўфінал.
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Муай-тай. К-1. Файт-шоў «Тонгкат».
**08.30** Авертайм.
**09.00** Хакей. Беларусь - Латвія.
**10.50** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Маямі».
**12.35** Фігурнае катанне. Жанчыны. Адвольная праграма.
**14.40** Хакей. КХЛ. «Сібір» - «Ак Барс».
**16.30** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Паўфінал.
**18.25** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**18.55** Піт-стоп.
**19.25** Хакей. КХЛ. ЦСКА - СКА.
**21.40** Фігурнае катанне. Пары.
**23.35** Змешаныя адзінаборствы. ММА. М-1 Global.
**02.10** Еўрапейскі покерны тур.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** Відзьмо-невідзьмо.
**10.45** «Нафтаправод за плотам», дак. фільм.
**12.20** «Урок любові Джанкарлё Боні», рэпартаж.
**12.40** Студыя «Белсат».
**13.05** Два на два (тэледыскусія).
**13.40** Студыя «Белсат».
**16.00** Рэпартэр.
**16.30** «Нафтаправод за плотам», дак. фільм.
**18.00** Чорным па белым.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні: Ян Чачот.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.35** Студыя «Белсат»: Свет.
**19.50** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.35** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.50** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.30** «ГУЛаг схаваны ў памяці», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**23.25** «Дом», серыял.
**00.50** Студыя «Белсат».
**02.40** «Містэрыя Божае пакуты на Познанскай цытадэлі»: ч. 1.

## 4 КРАСАВІКА, СУБОТА

### Беларусь 1

**05.35** Існасць.
**06.05** Меладрама «Спяшайцеся кахаць".
**09.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыя «Кухня».
**10.55** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** Здароўе.
**12.50** Кулінарная дыпламатыя.
**13.20** Выхад ёсць.
**13.50** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.35** Залатая калекцыя савецкага кінематографа.
**17.15** Камедыя «Белыя росы».
**19.00** «Я магу!» Народнае шоу. Паўфінал.
**21.00** Панарама.
**21.40** «Я магу!» Народнае шоу. Падвядзенне вынікаў.
**21.50** Святочнае набажэнства.
**23.50** Камедыя «Кухня».
**00.50** Дзень спорту.
**01.00** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.25** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**13.00** «Белае сонца пустыні». Маст. фільм.
**14.30** «Таямніцы палацавых пераваротаў. Я - імператар». Мастацкі фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**17.15** «100 мільёнаў».
**18.10** Здабытак Рэспублікі.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.45** АНТ прадстаўляе: «Легенды Life».
**23.30** Што? Дзе? Калі?
**00.40** На ноч глядзячы.

### СТВ

**06.15** Мастацкі фільм «Арол і рэшка».
**07.30** Анфас.
**07.45** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**08.40** «Прыгоды дылетанта».
**09.10** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.35** Далёкія сваякі.
**11.15** «Мінск і мінчане».
**11.35** Гэта мой дом!
**12.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Вам і не снілася».
**14.20** Дарагая перадача.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Я - Сэм». Мастацкі фільм.
**22.30** «Зорны рынг».
**23.45** Дакументальны спецпраект.
**01.25** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».

### Беларусь 2

**07.05** «Вялікі тата». Камедыя.
**08.40** Беларуская кухня.
**09.15** Мультсерыял.
**09.35** Навуковае шоў прафесара Адкрывашкіна.
**10.05** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**10.55** Тэлебарометр.
**11.00** Капейка ў капейку.
**11.35** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Містычнае шоў (Расія).
**12.45** Вось дык так!
**13.20** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**15.55** «Сакрэтны фарватар». Серыял.
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** «Дзённікі беларускага падполля». Дакументальны фільм.
**21.45** «Чыстае неба». Мастацкі фільм.



**23.50** Перазагрузка.
**00.30** «Цень Якудза». Баявік.

### Беларусь 3

**07.30** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень.
**07.40** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. Кінаэпапея «Вызваленне». Фільм першы «Вогненная дуга» (СССР, 1968 г.).
**09.05** «Нябачны фронт». Курская дуга.
**09.55** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Шлях у «Сатурн». Ваенна-прыгодніцкі фільм (СССР, 1967 г.).
**11.15** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Канец «Сатурна». Ваенна-прыгодніцкі фільм (СССР, 1967 г.).
**12.45** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень.
**12.55** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**13.25** Да 70-годдзя Вялікай Перамогі. «Тарпеданосцы». Ваенная драма (СССР, 1983 г.).
**15.00** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень.
**15.10** Прэм'ера. «Камертон». Мастацкі кіраўнік тэатра "У Никитских ворот", народны артыст Расіі Марк Разоўскі.
**15.35** «Амерыканская трагедыя». Драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1981 г.).
**17.50** «Дыя@блог P.S.».
**18.15** «Амерыканская трагедыя». Драма. 3-я і 4-я серыі (СССР, 1981 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Смешная лэдзі». Музычная драма (ЗША , 1975 г.).
**23.20** «Раман з лёсам». «Алена Дрыацкая. Ва ўвесь голас». Дакументальны фільм пра лёс актрысы.
**23.45** Калейдаскоп.

### Беларусь 5

**03.05** Баскетбол. НБА. «Мэмфіс» - «Аклахома-Сіці».
**05.30** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**06.00** PRO спорт. Навіны.
**06.45** Хакей. КХЛ. ЦСКА - СКА.
**08.35** Піт-стоп.
**09.05** Фігурнае катанне. Спартыўныя танцы. Адвольная праграма.
**11.05** Баскетбол. НБА. «Мэмфіс» - «Аклахома-Сіці».
**12.55** Футбол. ФК Віцебск - «Дынама» Мінск.
**14.45** Футбол. «Арсенал» - «Ліверпуль».
**16.55** Хакей. Еўрачелендж. Беларусь - Латвія.
**19.05** Еўрапейскі покерны тур.
**20.00** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Фінал.
**22.00** Хакей. КХЛ. Пяты матч. «Ак Барс» - «Сібір».
**23.55** Футбол. «Чэлсі» - «Сток Сіці».
**01.55** Формула- Е. Гран-пры Лонг-Біч.
**03.05** Футбол. Відэачасопіс.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Чачот.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.55** Казкі для дзетак.
**11.35** «У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял.
**12.10** Два на два (тэледыскусія).
**12.40** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.05** «Таямніцы Дамавіны Гасподняе», дак. фільм.
**13.45** «Нафтаправод за плотам», дакументальны фільм.
**15.20** «Дом», серыял.
**16.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.20** Над Нёмнам (тэлечасопіс): выданне 106.
**17.35** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.15** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**19.00** «Mad Men. Утрапёныя IV», камедыйны серыял.
**19.50** Мова нанова: «Паэзія».
**20.05** «Надзея Саўчанка. Наша Надзея», дак. фільм, 2014 г., Украіна.
**21.00** Студыя «Белсат».
**21.10** Форум (ток-шоу): Час не чакае.
**21.55** «Дробныя круцялі», камедыя.
**23.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.55** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Тацццяна Траяновіч.
**00.25** Студыя «Белсат».
**00.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.14** «Містэрыя Божае пакуты на Познанскай цытадэлі»: ч. 2.

TV

## 5 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.35** Камедыя. «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі».
**08.40** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня».
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.35** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Залатая калекцыя савецкага кінематографа.
**17.15** Мастацкі фільм «Не было б шчасця».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.50** Мастацкі фільм «Спяшайцеся кахаць».
**00.30** Камедыя «Кухня».

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Ералаш».
**11.30** «Брэйн-рынг».
**12.40** Тэорыя змовы.
**13.40** «Голас. Дзеці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ.
**17.10** «Рыхт-у-рыхт».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Джобс: імперыя спакусы». Маст.фільм.
**23.15** АНТ.
**00.10** «Чалавек з бульвара Капуцынаў». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.00** «Студэнты International». Серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.20** «Я - Сэм». Мастацкі фільм.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** «На 10 гадоў маладзейшы».
**12.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Добры дзень, доктар».
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Масты акругі Мэдысан». Мастацкі фільм.



**22.50** «Дакументальны спецпраект».
**23.40** Масква. Дзень і ноч.
**00.35** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».

### Беларусь 2

**07.00** «Чыстае неба» Мастацкі фільм.
**08.55** Турыст.
**09.45** Мультсерыял.
**10.05** Анімацыйны серыял «Пінгвіны з Мадагаскара» (ЗША).
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**11.15** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Хачу ў тэлевізар!
**12.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**13.40** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**13.15** «Мама - дэтэктыў». Серыял.
**15.25** «Сакрэтныя матэрыялы. Хачу верыць.» Мастацкі фільм.
**17.20** Comedy woman.
**18.25** Ікра.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Футбол.
**21.50** «Цень Якудза» Мастацкі фільм.
**23.35** Вышэй за дах.
**00.05** «Вялікі тата». Камедыя.

### Беларусь 3

**07.15** Калейдаскоп.
**07.25** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень.
**07.35** «Амерыканская трагедыя». Драма. 1-я - 4-я серыі (СССР, 1981 г.).
**12.15** Калейдаскоп.
**12.25** «Размовы пра духоўнае». Уваход Гасподні ў Ерусалім. Вербніца.
**12.40** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Яўген Барышнікаў.
**13.20** «Наперад у мінулае».
**13.45** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**14.35** «Лёс гігантаў». Жорсткая пасадка «Яка». Саратаўскі авіяцыйны завод.
**15.05** Калейдаскоп.
**15.15** «Размовы пра духоўнае». Вялікдзень.
**15.25** Трансляцыя Велікоднага Паслання і Блаславення «Граду і Свету» з Ватыкана з удзелам Папы Рымскага Францыска.
**16.10** Прэм'ера. «... І пра нешта іншае». Дакументальны фільм.
**16.50** Калейдаскоп.
**17.00** «Размовы пра духоўнае». Уваход Гасподні ў Ерусалім. Вербніца.
**17.10** «Сезон цудаў». Музычная камедыя (СССР, 1985 г.).
**18.35** «Культпрасвет».
**19.10** «Няскончаная аповесць». Драма (СССР, 1955 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.05** Святочны канцэрт да Дня яднання народаў Беларусі і Расіі.
**22.45** Ю.Нагібін. «Бабіна царства». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М.Горкага (1987 г.).
**00.25** «Культпрасвет».
**01.00** Калейдаскоп.
**01.10** «Размовы пра духоўнае». Уваход Гасподні ў Ерусалім. Вербніца.

**03.35** Баскетбол. НБА. «Далас» - «Голдэн Стайт».
**05.55** PRO спорт. Навіны.
**06.10** Тэніс. Турнір ВТА. Маямі. Фінал.
**07.40** Хакей. КХЛ. Пяты матч. «Ак Барс» - «Сібір».
**09.35** Хакей. Беларусь - Латвія.
**11.25** Баскетбол. НБА. «Далас» - «Голдэн Стайт».
**13.15** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету. Бухарэст.
**14.55** Баскетбол. «Цмокі» - «Астана».
**16.55** Хакей. КХЛ. Шосты матч. СКА - ЦСКА.
**19.30** Біятлон. Гонка чэмпіёнаў.
**21.40** Мастацкая гімнастыка. Кубак свету. Бухарэст.
**22.35** Баскетбол. НБА. «Кливенд» - «Чыкага».
**00.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет.
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.25** Зона «Свабоды».
**09.05** «Надзея Саўчанка. Наша Надзея», дак. фільм.
**09.50** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.10** Два на два (тэледыскусія).
**10.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.10** Казкі для дзетак.
**11.35** «Тры шалёныя нулі», тэлесерыял: 8 серыя.
**12.05** Мова нанова: «Паэзія».
**12.20** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**12.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.25** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.10** Відзьмо-невідзьмо.
**14.35** «ГУЛаг схаваны ў памяці», дак. фільм.
**15.30** «Дробныя круцялі», камедыя.
**17.00** «Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа», дак. серыял: ч. 3: «З Узбекістану ў Заходні Кітай».
**17.55** Форум (ток-шоу): Час не чакае.
**18.35** «Час гонару. Паўстанне», серыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Паўстанне 1863 года.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Сон аб Варшаве», дак. фільм, 2014 г., Польшча.
**22.20** Кінаклуб: «Поза дзіцяці».
**22.35** «Поза дзіцяці», маст. фільм, 2013 г., Румынія.
**00.29** «Надзея Саўчанка. Наша Надзея», дак. фільм.
**01.20** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**02.10** «Таямніцы Дамавіны Гасподняе», дак. фільм.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

Новы час
novychas.info
**Для тых, хто прымае рашэнні!**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

# Рэквіем па казачніку



Алег НОВІКАЎ

**Як вядома, 12 сакавіка памёр аўтар цыклу «Плоскі свет» Тэры Пратчэт. На сайце Change.org, на якім збіраюць подпісы пад рознымі петыцыямі, праз два дні пасля смерці пісьменніка пачалася незвычайная кампанія, арганізатары якой заклікаць Смерць вярнуць жыццё Пратчэту.**

І гэта невыпадкова. Адным з персанажаў фантастычных светаў Пратчэта была Смерць, якая забірала душы, калі пясок у гадзінніках, якія вымяралі жыццё, заканчваўся.

Пад зваротам на адрас Смерці падпісалася некалькі дзясяткаў тысяч чалавек, аднак, калі паглядзець геаграфію падпісантаў, можна лёгка вызначыць, што прадстаўнікоў былога СССР там юць наклады кніжак (за 30 гадоў было прададзена каля 70 мільёнаў асобнікаў, што складае каля 1 працэнта ўсіх прададзеных у гісторыі кніжак у Вялікабрытаніі). І гэта не толькі банальны чытацкі інтарэс. Англійскі горад Wincanton у 2002 горадзе пабратаўся з Анк-Морпаркам — сталіцай фантастычнага свету, прыдуманага Пратчэтам.

У нашых шыротах (гэта можна лёгка заўважыць па каментарах на інтэрнэт-форумах) сагай пра Плоскі свет цікавіцца галоўным чынам частка маладой прасунутай інтэлігенцыі. Адзін з маскоўскіх журналістаў, які прыняў удзел у акцыі ўскладання кветак да брытанскага пасольства з нагоды смерці Пратчэта, адзначае, што ў асноўным прыйшлі людзі 24–25 гадоў. Усяго ў акцыі прыняло ўдзел некалькі дзясяткаў асобаў.

Такая калізія, безумоўна, звязаная з тым, што творы Пратчэта першапачаткова ўзніклі як пародыя на жанр фэнтэзі, які ў СССР быў фактычна не вядомы. «Плоскі свет» паўстаў як процівядзе дрэннаму фэнтэзі,

Менавіта тыя дзве кніжкі — «Колер магіі» (1982) і «Вар'яцкая зорка» (1986) прынеслі славу сціпламу супрацоўніку прэс-службы энергетычнай кампаніі, за спіной якога была праца ў розных маленькіх рэдакцыях. Добрыя продажы кніжак дазволілі Пратчэту заняцца прафесійнай працай літаратара і паспець да канца жыцця (пісьменнік памёр у 66 гадоў) напісаць цыкл пра «Плоскі свет», што складаецца з 40 кніжак без уліку яшчэ некалькіх кніжных серый. У 2009 годзе Брытанская каралева надала пісьменніку рыцарскі тытул за працу ў літаратуры.

З таго часу ўсе ведаюць пра існаванне «Плоскага свету» — планеты ў форме дыска, якая знаходзіцца на спінах чатырох сланоў. Апошнія, у сваю чаргу, стаяць на спіне велізарнай чарапахі (з адмысловага падвіду касмічных чарапах). На гэтай планеце пануе дзіўны лад не толькі таму, што тут у вясёлкі 8 колераў, а рэчка можа самазагарэцца падчас уздыму вады.

Гэты свет насяляюць розныя расы: тролі, гномы, эльфы, го-

**Добрыя продажы кніжак дазволілі Пратчэту заняцца прафесійнай працай літаратара і паспець да канца жыцця (пісьменнік памёр у 66 гадоў) напісаць цыкл пра «Плоскі свет», які складаецца з 40 кніжак**



адзінкі. Такая статыстыка з'яўляецца лепшай ілюстрацыяй таго, што нябачная берлінская сцяна дасюль падзяляе культурныя густы Заходняй і Усходняй Еўропы.

Прычым аўдыторыя аматараў Пратчэта на Захадзе сапраўды масавая — ад тынейджараў да пенсіянераў, што пацвярджа-

паколькі ў канцы 1970-х гадоў жанр фэнтэзі зведаў вялікі ўсплёск, і вельмі шмат што з усяго гэтага паўтаралася (аўтары не прыўносілі ў жанр нічога нова-га). Пара першых кніг была пародыяй на фрагменты творчасці іншых пісьменнікаў», — казаў сам Пратчэт.

лемы, вампіры, пярэваратні, зомбі. Пры гэтым усе яны яшчэ і змагаюцца за свае правы і роўнасць пры прыёме на працу. Так, мясцовая Гільдыя Злодзеяў, напрыклад, заключае з кліентам дагаворы, якія рэгулююць, як і колькі разоў ён можа быць абрабаваны, абкрадзены і г.д. Гільдыя таксама выдае ліцэнзіі сваім сябрам на аказанне паслуг па забойству. Фактычна, яна з'яўляецца асноўнай арганізацыяй, якая сочыць за грамадскім парадкам і выкананнем законаў.

Дарэчы, смерць Пратчэта выклікала шэраг цікавых дэбатаў наконт вытокаў таленту пісьменніка як фантаста. Напрыклад, «Guardian» піша, што разам з нябожчыкам назаўсёды на Захадзе адышла эпоха аўтараў, якія нарадзіліся падчас або пасля Другой сусветнай вайны. Маўляў, вельмі сціплыя бытавыя ўмовы тых часоў, недаступнасць тавараў кампенсавалася ў дзяцей багатым унутраным светам і фантазіяй.

Аднак галоўным козырам творчасці, які найбольш адрозніваў нябожчыка ад большасці пісьменнікаў, была ўсё ж не фантазія, а вельмі даступны, аднак пры гэтым глыбокі філасофскі гумар. Менавіта яму пісьменнік і быў у першую чаргу абавязаны сваім поспехам. Аналізуючы гумар Пратчэта, спецыялісты называюць яго нашчадкам лепшых традыцый брытанскага гумару, якому характэрны моцны гуманізм.

У некралогах на смерць пісьменніка правая прэса называла яго кантыніянцам, паколькі аўтар быццам прасоўваў ідэю пра рацыянальнасць веры. Левыя, у сваю чаргу, лічаць, што ва ўчынках і персанажах «Плоскага свету» можна лёгка знайсці метафары на супярэчнасці сучаснага капіталізму. Перш за ўсё пры гэтым спасылаюцца на твор «Going Postal» (2000), у якім адзін прайдзісвет за тое, каб не пайсці з жыцця, пагаджаецца стаць дырэктарам галоўнай паштовай канторы, якая з'яўляецца канкурэнтам манаполіі семафораў. Шмат хто напісаў, што гэта абвінавачвы акт амаральнасці капіталізму.

Праўда, нават левыя выданні прызнаюць, што чытачам з-за прыступаў смеху цяжка ўлавіць антыкапіталістычнае пасланне Пратчэта. Таму, хутчэй за ўсё, пры ацэнках жыццёвага шляху нябожчыка лепш пагадзіцца з высновамі польскага часопіса «Polityka»: «Мы страцілі аднаго з нешматлікіх людзей на зямлі, які ведаў, як выклікаць у нас смех».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Наступным крокам беларускага лідара для замацавання сваіх новых пазіцый на міжнароднай палітычнай арэне, магла б стаць дзейсная дапамога ў справе ўкраінскай лётчыцы Надзеі Саўчанка. Выразная пазіцыя Лукашэнкі ў гэтым пытанні, а менавіта заклік да вызвалення ці хаця б змены месца і ўмоў утрымання, магла б выратаваць жыццё Надзеі. Садзейнічанне ў вырашэнні сітуацыі з Саўчанка, безумоўна, дадало б Лукашэнку козыраў у яго няпростай знешнепалітычнай гульні, так што застаецца спадзявацца, што прэзідэнт Беларусі ўсё яшчэ імкнецца выйграць у ёй. Ці хаця б не прайграць.

**УНІАН (Украіна)**

Праслаўтая «шматвектарнасць» Аляксандра Лукашэнкі ва ўмовах рэзкага абвастрэння стасункаў Расіі з Захадам пачынае прыносіць яму ўсё больш выгод, аднак на жыцці простых беларусаў гэта ніяк не адлюстроўваецца. Той факт, што апошні год для эканомікі Беларусі стаў вельмі няўдалым: змяншэнне экспарту, дэвальвацыя, скарачэнне працоўных месцаў і падзенне ўзроўню жыцця — сёння ніколькі не бянтэжыць мясцовае кіраўніцтва. Гэта звязана ў першую чаргу з тым, што, у адрозненне ад унутранай сітуацыі, справы на міжнароднай арэне ў беларусаў складаюцца значна лепш. З Мінскам сталі размаўляць у Брусэлі, Масква не аказвае сур'ёзнага ціску, ЗША знялі санкцыі з «Беларуснафты», прэзідэнт рэспублікі зноў перастаў быць у вачах заходніх палітыкаў дыктатарам, атрымаўшы статус міратворца, а краіна замерла ў чаканні новых бонусаў ад цяперашняга супрацьстаяння Расіі і Захаду.

**«Регнум» (Расія)**

На сённяшні дзень ужо відавочным фактам з'яўляецца тое, што Аляксандр Лукашэнка да 15 лістапада не будзе праводзіць сур'ёзных структурных рэформаў. Справа ў тым, што менавіта на гэты дзень прызначаныя чарговыя прэзідэнцкія выбары, якія ў Беларусі прыраўноўваюцца да вельмі важнай дзяржаўнай падзеі. Аляксандр Рыгоравіч не можа рызыкаваць, каб не падвяргаць небяспецы ўласны аўтарытэт сярод электарату. Аналітыкі лічаць, што пры цяперашнім раскладзе Лукашэнка зноў «адной левай» яшчэ на 5 наступных гадоў замацуе за сабой прэзідэнцкае крэсла. Таксама эксперты шчыра сумняваюцца ў тым, што пасля свайго чарговага перавыбрання шматгадовы дзяржаўны лідар пачне актыўна рэфармаваць састарэлую сістэму. Традыцыйна, пасля заканчэння выбараў у Беларусі наступае зацішша, паколькі задача была выкананая, пасля чаго можна і адпачыць. На першы план у дадзеным выпадку выйдзе звыклы ваяўнічы кансерватызм Лукашэнкі.

**«Биржевой лидер» (Расія — Украіна)**

Пасля самагубства СССР перад яго рэспублікамі намалявалася ілюзія выбару. Можна было пайсці на ідэйную, палітычную і эканамічную асіміляцыю з Захадам ці ж успомніць свой «залаты век», вярнуцца да традыцый пазамінулай, дасавецкай эпохі. Самы просты і лагічны выхад з гэтай пасткі прапанавалі беларусы. Калі ўжо ў эпоху паскоранай мадэрнізацыі XX стагоддзя нас за руку прывялі камуністы, значыць, кансерватыўнае стаўленне да савецкага жыццеўладкавання з'яўляецца важнай умовай для захавання пазітыўных дасягненняў гэтай жа мадэрнізацыі. Аднак праект нідзе так і не перайшоў на ўзровень дзяржаўнай палітыкі. Захаванне вядучай ролі ў прамысловасці за дзяржсектарам не задавальняла новыя эліты, якія робяць капіталы якраз на прыватызацыі. Дэманстратыўнае захаванне савецкіх традыцый здавалася несумяшчальным з добрымі адносінамі на Захадзе.

**«Однако» (Расія)**

У Беларусі перанеслі на год забарону на гандаль таварамі лёгкай прамысловасці без дакументаў для індывідуальных прадпрымальнікаў. Адтэрміноўка забароны на гандаль без дакументаў была выкліканая складанай эканамічнай сітуацыяй у краіне і нежаданнем росту сацыяльнай напружанасці ў грамадстве ў год прэзідэнцкіх выбараў. Так, паводле ацэнак арганізацыі «Перспектыва», каля 65 тысяч (а паводле ацэнак Лукашэнка, каля 20 тысяч) чалавек у Беларусі з-за ўвядзення новых правілаў гандлю могуць застацца без працы.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. На доларах не хапае партрэта жанчыны

Феміністкі ЗША пачалі незвычайную кампанію за тое, каб на адной з доларавых банкнотаў была змешчаная выява жанчыны. На цяперашні дзень на купюрах можна пабачыць выключна мужычын — восем прэзідэнтаў, два скарбнікі плюс Бенджамін Франклін. Каго можна пазбавіць месца на купюры, каб аддаць яго жанчыне? Феміністкі ўжо правялі своеасаблівы адбор і прыйшлі да высновы, што найбольш не вартым выявы на долары з'яўляецца прэзідэнт Эндру Джэксан (выяўлены на купюры ў 20 долараў), які ў свой час падпісаў так званы Акт пра выгнанне індзейцаў. Паводле гэтага акту, у індзейцаў, якія адмаўляліся перасяляцца на Захад, дазвалялася канфіскацыя жылля. Замест Джэксана прапануецца выявіць адну з вядомых амерыканскіх змагарак за правы жанчын. Ужо складзены спіс кандыдатак, сярод якіх найбольш вядомая нашай аўдыторыі, напэўна, Элеанора Рузвельт — жонка прэзідэнта Франкліна Рузвельта. Новыя купюры, паводле разлікаў феміністак, павінны з'явіцца ў 2020 годзе, калі ЗША будуць адзначаць сотую гадавіну атрымання жанчынамі выбарчага права. З улікам таго, што фаварытам у наступныя прэзідэнты лічыцца Хілары Клінтан, якая сімпатызуе жаночаму руху, прапанова не падаецца ўтапічнай.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. Парламенцкія пчолы

У дэпутатаў латвійскага сейма хутка могуць з'явіцца незвычайныя суседзі — на даху галоўнага будынка парламента прапаноўваюць пасяліць пчол. Менавіта такую заяўку ў прэзідыум падала прадстаўнік партыі «Адзінства». Паводле заяўкі, некалькі пчаліных вулляў могуць з'явіцца на даху цэнтральнага будынка парламента ўжо ў красавіку гэтага года, а побач прапануецца ўсталяваць веб-камеры, каб у рэжыме анлайн на сайце Сейма можна было назіраць за працэсам збірання мёду. На думку палітыкаў, ідэя з пчоламі дапаможа ўзняць прэстыж Латвіі ў Еўропе. «У пачатку чэрвеня, калі вакол парламента з'явяцца кветкі і заквітнеюць дрэвы, можна будзе сабраць першы ўраджай. Якраз у гэты час у Латвію з'едуцца кіраўнікі камісій па еўрапейскіх справах з усіх краін ЕС, вось іх і будуць частаваць чыстым латышскім мёдам», — мяркуе ініцыятар праекту.

**Паводле латышскай прэсы**

### Таджыкістан. Пачалася кампанія супраць шлюбаў сваякоў

У Таджыкістане з ініцыятывы дзяржавы пачалася незвычайная кампанія, падчас якой стрыечных братоў і сясцёр заклікаюць не ствараць шлюбы. Кампанія, на думку палітолагаў, — пралог забароны падобных шлюбаў. Галоўнае пасланне арганізатараў — дзеці, народжаныя ў шлюбах крэўных сваякоў, маюць большы працэнт прыроджаных дэфектаў і генетычных захворванняў, і могуць прывесці нават да знікнення нацыі. Дэбаты па гэтым пытанні набылі такія маштабы, што 17 сакавіка ўпраўленне аховы здароўя паведаміла аб тым, што падрыхтавала спіс дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі, які змяшчае інфармацыю аб ступені сваяцтва бацькоў. Раней, звяртаючыся з прамовай да парламента адыходзячага склікання, прэзідэнт Эмамалі Рахмон адзначыў, што дзяржава выхоўвае каля 13 тысяч дзяцей-інвалідаў. Большасць з іх, па яго словах, нарадзіліся ў сем'ях, дзе маці і бацька — сваякі. Працаўнікі забароны сцвярджаюць, што рызыкі перабольшаныя і што для выяўлення выразнай узаемасувязі паміж нараджэннем дзяцей з дэфектамі і роднаснымі шлюбамі неабходныя навуковыя даследаванні.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ІСЛАНДЫЯ. Востраў піратаў

Першыя апытанні ісландцаў наконт электаральных сімпатый на прызначаных на наступны год парламенцкіх выбарах прынеслі сенсацыйныя вынікі. Калі трэнд да дня галасавання не зменіцца, большую частку мандатаў у парламенце атрымае Партыя піратаў (ісл.: Píratar), чыя галоўная мэта, адпаведна праграме, — адмена аўтарскага права ў сеціве. Палітолагі пакуль не могуць прапанаваць комплекснага адказу на пытанне, чаму ісландцы лічаць гэту праблему самай актуальнай. Уздым Піратаў, якія, дарэчы, з'яўляюцца ў Еўропе маргіналамі, можна растлумачыць хіба падзеннем даверу да лагеру традыцыйных партый. Старых палітыкаў ісландцы лічаць адказнымі за крызіс, што цягнецца з канца нулявых і ўжо каштаваў краіне дэфолту. Прыкладна пяць гадоў таму за кошт падобнага пратэстнага галасавання сталічную мэрыю захапіў мясцовы комік. Магчыма, цяпер чарга Піратаў, якія таксама выглядаюць вельмі арыгінальна на фоне іншых парструктур. Так, лідарам партыі з'ўлецца аўтарка шэрагу паэмаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**




# Дняпроўскія сепаратысты

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне працягваецца канфлікт паміж цэнтральнымі ўладамі і губернатарам Днепрапятроўскай вобласці Ігарам Каламойскім. У ноч на 25 сакавіка прэс-служба ўкраінскага прэзідэнта паведаміла, што Парашэнка падпісаў указ пра адстаўку Каламойскага з пасады губернатара па яго ўласным жаданні. Але ці пагражае Украіне яшчэ і дняпроўскі сепаратызм?**

Трэба прызнаць, што ідэя адрознасці і асаблівасці рэгіёну даўно прапісалася ў днепрапятроўскім лакальным палітычным дыскурсе. Аднак днепрапятроўскі «сепаратызм» вельмі адрозніваецца ад суседняга данецкага. Данецкай версіі з самага пачатку характэрныя больш антыкіеўскія матывы (бацькі-заснавальнікі Данецка-Крыварожскай Рэспублікі ў 1918 годзе былі супраць уключэння краю ў склад Савецкай Украіны). Таксама ў данецкай незалежніцкай міфалогіі тэма чалавека працы як каланізатара краю і стваральніка ўсіх дабротаў адыгрывае ключавую ролю.

У Днепрапятроўску таксама ёсць моцная пралетарская традыцыя. Напрыклад, у снежні 1905 года ў адным з рабочых раёнаў гораду паўстала т. зв. Чачэлаўская рэспубліка — абсалютна аўтаномная ад царскай адміністрацыі. Толькі пасля таго, як на дапамогу жандарам прыйшлі вайскоўцы з батарэяй гаўбіц, чачэлаўскі сепаратызм быў задушаны. У часы Грамадзянскай вайны Екацярынаслаў (зараз Днепрапятроўск) паспеў пабыць сталіцай Савецкай Украіны. Нарэшце, сам горад быў перайменаваны ў гонар мясцовага рабочага-бальшавіка Рыгора Пятроўскага.

Аднак прыхільнікі днепрапятроўскага рэгіяналізму не часта апелююць да згаданых старонак гісторыі. Вытокі мясцовай ідэнтычнасці яны шукаюць у пражэкце князя Рыгора Пацёмкіна, якога Кацярына Другая прызначыла намеснікам тэрыторый, што былі адваяваныя ў Турцыі. Намеснік вырашыў стварыць на базе заснаванага ў 1784-м Екацярынаслава паўднёвую сталіцу імперыі. Да таго, як святлейшы князь памёр (дарэчы, яго пры жыцці называлі віцэ-кароль), ён паспеў хіба толькі стварыць у горадзе планіроўку і пабудаваць свой палац. На гэтым гісторыя «паўднёвай сталіцы» закончылася, хаця комплекс сталічнасці ў тутэйшых назаўжды захаваўся.

Наступны этап фармавання дняпроўскай спецыфікі прыйшоўся на індустрыяльны ўздым другой паловы XIX стагоддзя. Горад, што ў прэсе называлі Новая Амерыка, стаў цэнтрам канцэнтрацыі вялікіх капіталаў. У гарадской думе сядзелі выключна буржуі і купцы, якія распрацавалі асаблівы механізм адносін з цэнтральнай імперскай адміністрацыяй, без санкцыі якой нічога нельга было зрабіць на месцы. Асобнае месца ў гэтым механізме займала тэхналогія прасоўвання рэгіянальных інтарэсаў, якая вымагала навыкаў знаходзіць агульную мову і ўплываць на прыняцце рашэнняў. Так, на думку днепрапятроўскіх гісторыкаў, быў закладзены фундамент кодэксу тутэйшага клану. Яго пастулаты — карпаратыўнасць, мабільнасць, камандная гульня, жорсткія адносіны падпарадкавання пры праве захавання індывідуальнага пункту гледжання.

Сцвярджаецца, што згаданыя вышэй напрацоўкі шмат у чым садзейнічалі фантастычнаму ліфту, які зрабілі выхадцы з Днепрапятроўшчыны ў савецкі час. У 1964 годзе генсекам КПСС стаў Леанід Брэжнеў — выхадзец з Днепрапятроўскай вобласці. З 1972 года кіравацць УССР пачаў днепрапятровец Уладзімір Шчарбіцкі. Гэтыя прызначэнні спрыялі таму, што Днепрапятроўшчына ў 1970–1980-я атрымала каласальныя прэферэнцыі і хутка стала флагманам украінскай індустрыі.

Гэтыя кланавыя традыцыі захаваліся і ў постсавецкія часы, калі Днепрапятроўск стаў галоўным пастаўшчыком кадраў у кіраўніцтва незалежнай Украіны. Вось некаторыя лічбы для прыкладу: адзін прэзідэнт, адзін выконваючы абавязкі прэзідэнта, чатыры прэм'еры, старшыня СБУ, старшыня Савета бяспекі і абароны, кіраўнік Нацбанку і г.д.

Гонар за нават ускосную прыналежнасць да вельмі моцнага клану менеджэраў і палітыкаў — не апошняя рыса міфалогіі днепрапятроўскіх. Яшчэ ў савецкія часы мясцовыя гісторыкі пачалі сцвярджаць, што жыхары Днепрапятроўску з'яўляюцца нашчадкамі традыцыі запарожскага казацтва.

Натуральна, такую пастаноўку пытання не ўспрымалі ў суседнім Запарожжы, у раёне якога знаходзіцца востраў Хорціца і калісьці базіравалася легендарная Сеч. Аднак тут жа днепрапятроўскікі быў прапанаваны цэлы спіс аргументаў. Узгадвалася, што Запарожжа — гэта савецкая назва Аляксандраўска — царскай крэпасці, якая нічога агульнага з рэзідэнцыяй казацтва не мае. Затое ў Екацярынаславе жыў і працаваў гісторык Зміцер Яварніцкі, які напісаў фундаментальную гісторыю запарожцаў. Тут жа ёсць магіла легендарнага атамана Сірко. Увогуле, запарожская Сеч не знаходзілася ўвесь час на востраве Хорціца. У архівах згадваюцца як мінімум восем яе прапісак, і пяць з іх знаходзяцца зараз якраз на Днепрапятроўшчыне.

Меркаванне пра тое, што Днепрапятроўск пад кіраўніцтвам Каламойскага — новая Сеч, сапраўды, можна сустрэць на некаторых блізкіх да губернатара інтэрнэт-форумах. Аднак пры ўсёй знешняй прыгажосці міфаў пра казацкія карані і традыцыі метраполіі, усе яны відавочна не мабілізуючыя. Нават самыя ваяўнічыя аматары існавання дняпрапятроўскай субнацыі прызнаюць, што менталітэт жыхароў Днепрапятроўску — не больш чым «паўднёва-сталічны лад думак». Перспектыва Дняпроўскай Народнай Рэспублікі не пагражае адміністрацыі Пятра Парашэнкі.

# Ізраіль пасля выбараў

**Як вядома, 17 сакавіка ў Ізраілі прайшлі парламенцкія выбары. Пра тое, чаго чакае грамадства ад новага кабінету, журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з брытанскім культуролагам Сарай Хол, якая падчас выбарчай кампаніі знаходзілася ў Іерусаліме.**




***— Галоўным вынікам выбараў стала 4-я ў гісторыі перамога правых пад кіраўніцтвам Беньяміна Нетаньяху. Што чакае Ізраіль пры новай кадэнцыі Бібі (так гэтага палітыка часта называюць у прэсе)?***

— Адказаць на гэта пытанне цяжка, паколькі ўрадавая кааліцыя яшчэ не сфармаваная. Працэс кансультацый і ўзгаднення кандыдатур міністраў звычайна патрабуе 2–3 тыдні. Сам пераможца кажа, што разлічвае сфармаваць шырокі блок, куды акрамя яго партыі «Лікуд» увойдзе шэраг малых правых партый, рэлігійныя партыі і аб'яднанне «Наш дом Ізраіль» (партыя, што выказвае інтарэсы рэпатрыянтаў з былога СССР). Аднак дасюль не выключаецца стварэнне правымі вялікай кааліцыі з левымі.

Палітычныя сіноптыкі кажуць пра гэта з улікам незвычайнага фармату апошніх выбараў. Падчас іх ставіліся глабальныя пытанні наконт сутнасці праекту дзяржавы Ізраіль. На папярэдняй кампаніі 2013 года галоўнымі выбарчымі тэмамі былі рост коштаў на прадукты або дарагая арэнда. Радыкальная змена павесткі дня звязаная не толькі з эскалацыяй канфлікту ў сектары Газа, аднак і з моцным водападзелам грамадства на лібералаў і кансерватараў. Часткова за гэта адказны сам прэм'ер, які падтрымаў прапанаваны артадоксамі праект пра Ізраіль як дзяржаву яўрэйскай нацыі, паводле якога ўсё заканадаўства павінна базавацца на традыцыйным яўрэйскім праве. Палярызацыя ізраільцян настолькі моцная, што некаторыя сумняваюцца, што дзяржава доўгі час будзе здольная вытрымаць суіснаванне двух экзістэнцыйных кодаў.

***— Нетаньяху на выбарах супрацьстаяў блок левых партый пад назвай «Сіяніцкі лагер». У чым заключалася ідэя піярычыкаў, калі яны прапанавалі такую назву?***

— Выбар назвы прадыктаваны канцэпцыяй кампаніі. Левыя патрабавалі вяртання да першапачатковых прынцыпаў сіянізму, аўтары якога бачылі Ізраіль як міралюбівую дэмакратычную дзяржаву. Таму ў выбарных дэбатах апазіцыянеры шмат казалі пра ідэнтычнасць усёй ізраільскай палітыкі. Апазіцыі сапраўды ўдалося перафарматаваць выбары ў нейкі рэферэндум па пытаннях міру або вайны.

***— Нягледзячы на добры старт, лідары «Сіяніцкага лагеру» Іцак Херцаг і Цыпі Ліўні ў выніку прайгралі. На фінальнай стадыі «Лікуд» сенсацыйна абышоў апанентаў. Прычым фракцыя «Лікуд» колькасна вырасла на 40 працэнтаў адносна той, што была ў мінулым кнесеце.***

— Контрнаступ Нетаньяху

> 75%
>
> **ізраільцян напярэдадні выбараў былі заклапочаныя кепскім станам адносін Тэль-Авіва з Еўропай і ЗША**

быў заснаваны на кампаніі запалохвання электарату. У апошнія дні перад выбарамі мусіравалася тэма пра фальсіфікацыі, якія рыхтуе палесцінская моладзь, што пражывае ў Ізраілі. Быццам, па краіне ад аднаго выбарчага ўчастку да другога будуць курсіраваць аўтобусы з пасажырамі-палесцінцамі, каб максімальна больш разоў прагаласаваць за арабскі выбарчы спіс і падарваць яўрэйскую большасць у парламенце. У атмасферы напружанасці такая агітацыя спрацавала. Таксама было відавочна, што стаўка левых на маладыя твары не знайшла агульнай падтрымкі ў сярэдняга класа.

***— У расійскіх патрыятычных СМІ перамога «Лікуд» падаецца як маленькі Антымайдан. «Сіяніцкі лагер вылучыў на пярэдні план сваім галоўным тэзісам аднаўленне ў поўным аб'ёме партнёрскіх адносін са Злучанымі Штатамі. І гэта стала фатальнай памылкай. Аказалася, што ад блізкаўсходняй палітыкі Абамы стаміліся не толькі арабскія краіны, але і «непатапляльны авіяносец» ЗША — Ізраіль...» — піша інтэрнэт-выданне «Русская весна».***

— Думаю, што тэма міжнароднай, і ў тым ліку амерыканскай ізаляцыі, наадварот, гуляла супраць Нетаньяху. Адпаведна апытанням, напярэдадні выбараў каля 75 працэнтаў ізраільцян былі заклапочаныя кепскім станам адносін Тэль-Авіва з Еўропай і ЗША — гэта следства шмат у чым нежадання ўраду замарозіць праграму каланізацыі палесцінскіх тэрыторый. Гэта таксама ўплывае на апошні ўсплёск антысемітызму ў той жа Францыі.

***— Як праявіла сябе на сакавіцкіх выбарах дыяспара з былога СССР?***

— Калі меркаваць па апытаннях, т. зв. «руская алія» галасавала ў большасці за «Лікуд», у топе выбарчага спісу якога знаходзяцца рускамоўныя. «Сіяністы» праблемамі рускіх мала цікавіліся. Таму, напэўна, вельмі сціпла праявіла сябе партыя «Наш дом — Ізраіль» Авігдора Лібермана (6 мандатаў), якая намагаецца быць палітычным рупарам выбаршчыкаў — мігрантаў з былога Саюзу.

Сам Ліберман праславіўся хіба тым, што выступіў з незвычайным праектам — выселіць усіх арабаў — грамадзян Ізраіля на землі, дзе жывуць ізраільскія каланісты, а каланістаў, наадварот, перасяліць ва ўнутр краіны. Акрамя шоку ў адукаванай часткі грамадства, гэта прывяло да кансалідацыі тых самых ізраільцян арабскага паходжання. Яны ўпершыню ў гісторыі здолелі выступіць адзіным фронтам і, як следства, атрымаць 14 месцаў — вельмі шмат для парламенту з 120 дэпутатаў. Праўда, мабілізавацца ім дапамог не толькі Ліберман, аднак таксама «Лікуд» з тым самым Актам пра Ізраіль як яўрэйскую дзяржаву. Паводле законапраекту, арабская мова губляе статус дзяржаўнай.

***— Выбары 17 сакавіка замацавалі разлом у ізраільскім грамадстве. Ці ёсць хоць нейкія пазітыўныя моманты ад апошніх выбараў?***

— Безумоўна. Выбары давялі, што міжнародная праблематыка становіцца вельмі важнай для абывацеля. Чым больш яны цікавяцца гэтымі пытаннямі, тым больш ім зразумела, што без пошукаў саюзнікаў у арабскім свеце, канфлікт у краінах-суседзях не прыпыніцца. Лічу, што ангажаванне ў міжнародную дыскусію дапаможа эмансіпацыі ізраільскага соцыуму і гатоўнасці да дыялогу ўнутры краіны і за яе межамі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Бадо Рамела



Рамелаў — старшыня ўраду нямецкай зямлі Цюрынгія, сябра партыі «Левыя». Як вядома, Цюрынгія ў палітычным плане — незвычайная зямля на фоне іншых суб'ектаў нямецкай федэрацыі. Зямлёй упершыню ў гісторыі ФРГ кіруе кааліцыя з выключна левых партый («Левыя», эсдэкі і «Зялёныя»), што адлюстроўваецца на яе рашэннях. Адным з самых рэзанансных рашэнняў стала пастанова ўраду Рамелава ад 21 сакавіка, якая тычыцца працы спецслужбаў. Паводле яе, зямельны ўрад перастае фінансаваць V-leute, прасцей кажучы, інфарматараў, якія працуюць таксама пад прыкрыццём сябраў розных неанацысцкіх груповак. Праблема ў тым, што часта інфарматары, якіх звычайна вярбуюць з асяроддзя карычневых, на самай справе дапамагалі фашыстам, і нават фінансавалі іх за кошт сродкаў, выдзеленых на барацьбу з правым экстрэмізмам. Менавіта такая практыка, на думку шмат каго, спрыяла стварэнню і дзейнасці сумнавядомай тэрарыстычнай групы «Нацыянал-сацыяльны супраціў» (NSU), якую падазраюць у серыі забойстваў паліцэйскіх і прадстаўнікоў турэцкай грамады. Дэмарш цюрынгцаў выклікаў пратэсты як унутры зямлі, так і па ўсёй Германіі. Незадаволеныя перш за ўсё ўсе 15 кіраўнікоў зямельных МУС, уключаючы цюрынгскую паліцыю, за якую адказвае міністр сацыял-дэмакрат. Па іх словах, Рамелаў падрывае федэральную інфармацыйную сістэму спецслужбаў прычым у час актывізацыі ісламскага экстрэмізму.

### Малькальм Фрэйзер



Былы аўстралійскі прэм'ер ад Ліберальнай партыі памёр 20 сакавіка ва ўзросце 84 гадоў, што дало падставу ўзгадаць адзін з фрагментаў яго біяграфіі, які, на думку шматлікіх аналітыкаў, мае вялікі ўплыў на будучыню кантынента. Гутарка пра ролю нябожчыка ў канстытуцыйным крызісе 1975 года (самы вялікі палітычны крызіс за ўсю гісторыю краіны). Прычынай крызісу сталі розныя трактоўкі правіл ратацыі сенатараў, што прывяло да крызісу ў парламенце. Шмат хто лічыць, што менавіта лідар апазіцыі Малькальм Фрэйзер дабіўся цугцвангу, вынікам чаго сталі новыя выбары, на якіх лібералы дабіліся перамогі. Фрэйзер правёў закон пра папраўкі ў канстытуцыю праз рэферэндум. Гэтая рэформа фактычна адчыніла шлях Аўстраліі да трансфармацыі ў рэспубліку, якая рана ці позна будзе мець месца. Цікава, што аўстралійскія левыя разглядаюць падзеі сакавіка 1975 года як мясцовы варыянт путчу ў Чылі. Папярэдні прэм'ер-лейбарыст Гоф Уітлэм (Gough Whitlam) быў паслядоўным сацыялістам. Гэта прывяло не толькі да ўвядзення сістэмы бясплатнай вышэйшай адукацыі і бясплатнай медыцыны, аднак таксама да крытыкі амерыканскай знешняй палітыкі ў В'етнаме і вываду адтуль аўстралійскіх войскаў. Гэта, быццам, прымусіла Вашынгтон штучна арганізаваць крызіс і рукамі Фрэйзера адправіць у адстаўку небяспечнага палітыка.

### Рыфат Шайхутдзінаў



Новы лідар расійскай партыі «Грамадзянская платформа» (ГП), якая зрабіла сабе імя як новы полюс ліберальных сіл падчас прэзідэнцкіх выбараў 2014 года (тады вітрынай партыі быў алігарх Міхаіл Прохараў), 24 сакавіка ўзначаліў пачаў рэбрэндынг партыі. Партыя, па яго словах, збіраецца перш за ўсё супрацьстаяць каляровым рэвалюцыям. Прычым па сваёй прапуцінскай фразеалогіі Рыфат пераплюнуў нават «Адзіную Расію». Па сутнасці, дрэйф «Грамадзянскай платформы» ў прапуцінскі лагер быў прадказальным пасля таго, як партыю пакінуў або дыстанцыяваўся ад партыйнай працы яе ліберальны актыў — Андрэй Макарэвіч, Ала Пугачова і Міхаіл Прохараў. Дарэчы, сыход спонсара, па словах Шайхутдзінава, пойдзе партыі на карысць, паколькі з'явіцца новыя інвестары. Палітолагі дастаткова асцярожна каментуюць палітычнае заўтра новай «Грамадзянскай платформы». Большасць пагаджаецца, што ў новым варыянце яна будзе мала чым адрозніваецца ад ужо існуючых крамлёўскіх партпраектаў накшталт «Справядлівай Расіі» або жырыноўцаў.

# Сцяпан Міско: «Мяне трымалі ў КДБ роўна 6 дзён і ўсё вялі допыт»



Сяргей ЧЫГРЫН

**Усё сваё жыццё ён аддаў тэатру і роднаму беларускаму слову, а яго абвінавацілі ў нацыяналізме. Машэраў асабіста гадзіну распавядаў яму пра «адзіны савецкі народ» і «адну мову». А Ніл Гілевіч выступіў у яго абарону.**

Вельмі часта я прыгадваю свайго таленавітага і адкрытага душой земляка Сцяпана Міхайлавіча Міско (1930–2010). Калі ён прыязджаў на Слонімшчыну, то забягаў да мяне ў рэдакцыю раённай газеты, дзе я працаваў. А калі я наведваў Мінск, то таксама заходзіў да яго на працу ў Кніжную палату. Аднойчы я асмеліўся і запытаўся ў яго: «А ці праўда, Сцяпан Міхайлавіч, што гэта вы напісалі радкі пра былога міністра культуры СССР Фурцаву?»

Сцяпан Міхайлавіч усміхнуўся і нагадаў гэтыя радкі:

*Я нічога не баюся —*
*Я на Фурцавай жанюся:*
*Буду шчупаць сіскі я*
*Самыя марксісцкія!*

Такая прыпеўка-жарт была дарэчы, бо кандыдат мастацтвазнаўства, культуролаг Сцяпан Міско ўсё сваё жыццё аддаў гісторыі тэатра. Культуру ў СССР доўгі час курыравала таварыш Фурцава. Таму ажыццявіць беларускія культурныя планы такім людзям, як Сцяпан Міско, так і не ўдалося. Проста ім не давалі. А гэтых планаў было шмат.



**Сцяпана Міско нават выклікалі на бюро ЦК КПБ перад пленумам 1974 года. Там першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў цэлую гадзіну чытаў яму натацыі**

Сцяпан Міско нарадзіўся 18 студзеня 1930 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, пасля скончыў беларускую школу № 1 Слоніма і Мінскі інстытут замежных моваў. Пра сваё маленства Сцяпан Міско згадаў у артыкуле «Вёска Чамяры», які быў апублікаваны ў 1968 годзе ў часопісе «Полымя»: «Маленства прайшло ў панскай Польшчы. Мы не разумелі тады, што такое акупацыя. Бачылі, як ловяць людзей, гоняць у турмы, толькі мы не здагадваліся, што гэтыя людзі хацелі лепшай долі для ўсіх. У школе крышку разабраліся. Там з першага класа на пытанне: «Хто ты такі?» — павінны былі адказаць: «Поляк малы». Беларускіх і рускіх кніг у вёсцы было шмат. Мы іх чыталі дома, ведалі напамяць: «Я мужык-беларус, пан сахі і касы», «Ярка на камінку смольны корч палае», «Хто ты гэткі? Свой, тутэйшы». І пазней ужо адчулі, што ніякія мы не палякі, што тутэйшы — значыць, беларус. Некаторыя польскія песні і вершы нам падабаліся, бо ў іх расказвалася аб такім жа сялянскім жыцці, як і наша.

Такое было наша маленства. Падрос да гадоў шасці — ды ў пастушкі. Пачынае світаць, а маці ўжо будзіць. Спачатку ласкава: «Сынок, сыночак...». А потым і дубца пакажа. Нічога не зробіш, трэба. З пастушка ў барану, з бараны ў граблі, ад грабель да касы і плуга — такі шлях вясковых хлапчукоў заходнебеларускай вёскі майго пакалення».

Пасля заканчэння інстытута Сцяпан Міско вярнуўся ў Слонім. У пасёлку Альбярцін (цяпер мікраёэн Слоніма) у сярэдняй школе шэсць гадоў выкладаў французскую, нямецкую, беларускую і рускую мовы. У 1958 годзе паступіў у аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Затым працаваў у гэтым інстытуце (завочна вучыўся ў дактарантуры на кафедры тэатра народаў СССР у Маскоўскім інстытуце тэатральнага мастацтва.

У 1962 годзе ў Кіеве ў самога Максіма Рыльскага абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Вытокі беларускага народнага тэатра». Пасля шмат пісаў, апублікаваў больш за сотню артыкулаў у рэспубліканскіх газетах, часопісах, зборніках і альманахах, прысвечаных беларускаму тэатру, літаратуры, жывапісу, музыцы. Напісаў і доктарскую дысертацыю на тэму «Беларускі тэатр ад вытокаў да першай паловы XVIII стагоддзя». Дысертацыю абмеркавалі, адобрылі, але абараніць яе Сцяпан Міско не паспеў.

У 1974 годзе яго звольнілі з працы з Акадэміі навук БССР, дзе працаваў старшым навуковым супрацоўнікам. «Нас выгналі тады за «неправильные взгляды по национальному вопросу», — расказаў неяк мне Сцяпан Міхайлавіч. — Выгналі мяне, Міколу Прашковіча з Інстытута літаратуры, Вячаслава Рабкевіча з БелСЭ, Алеся Каўруса з Інстытута мовазнаўства, Міхася Чарняўскага з Інстытута гісторыі. Патраслі некаторых хлопцаў і ў Гародні. Мяне трымалі ў КДБ роўна 6 дзён і ўсё вялі допыт. Зрэдку адпускалі паесці, а пасля зноў дапытвалі. А пасля, як п’яніцу, адправілі на 10 дзён спачатку ў медвыцвярэзнік, а пасля — убіраць смецце і працаваць на Мінскім маторным заводзе. А потым адпусцілі...»



Выпускнікі Слонімскай беларускай СШ № 1 сустрэліся праз 40 гадоў. У трэцім шэрагу другі справа Сцяпан Міско, 1988 г.

Віна Сцяпана Міско, паводле інфармацыі КДБ у партыйныя органы, перадусім у ЦК КПБ, заключалася ў нацыяналістычнай пазіцыі, а фактычна ў тым, што ў сваіх публікацыях у перыядычным друку і ў публічных выступленнях на з’ездах творчай інтэлігенцыі, Сцяпан Міско адстойваў правы беларускай мовы, казаў пра яе нераўнапраўнае становішча ў БССР. Ён прымаў актыўны ўдзел на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Нёман» у дыскусіях пра лёс нацый і моваў, дзе практычна раскрытыкаваў афіцыйную канцэпцыю таталітарнага рэжыму пра зліццё моваў як беспадстаўную і псеўданавуковую. Сцяпан Міско раскрытыкаваў вядучых артыстаў Беларускага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, якія дрэнна размаўляюць па-беларуску на сцэне падчас спектакляў...

У абарону і падтрымку Сцяпана Міско выступіў на старонках «ЛіМа» і Ніл Гілевіч. 17 снежня 1963 года ён пісаў: «Ужо не першы год чуюцца галасы справядлівага абурэння тым, што многія акцёры беларускіх тэатраў валодаюць беларускай мовай так, што каб і хацеў горш, дык нельга. Нядбайныя, абыякавыя адносіны акцёраў да слова зніжаюць ролю тэатраў у справе эстэтычнага выхавання працоўных. Голасам шчырай заклапочанасці з гэтага повада з’явілася выступленне Сцяпана Міско. Аўтар прыводзіць канкрэтныя і пераканаўчыя прыклады, калі нават вядучыя акцёры Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы не клапоцяцца аб чысціні мовы і правільным літаратурным вымаўленні. Сапраўды, крыўдна: акадэмічны тэатр — і раптам такія моўныя адвольнасці, такое грубае парушэнне норм беларускай арфаэпіі! У гэтым — сэнс і пафас выступлення Сцяпана Міско, і кожны непрадузяты чытач не можа з ім не пагадзіцца.




Сцяпан Міско не збіраўся пісаць навуковы артыкул па мовазнаўству — ён сказаў аб тым, што ўжо даўно непакоіць многіх і многіх шчырых прыхільнікаў нашага тэатральнага мастацтва. Дарэчы, і яго парады не такія ўжо абсурдныя. Напрыклад, пазнаёміцца з «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы» было б вельмі карысна для кожнага акцёра, хаця, зразумела, не ў гэтым галоўны выхад са становішча. Галоўны выхад Сцяпан Міско справядліва бачыць у тым, каб акцёры карысталіся сваёй рабочай мовай не толькі на сцэне, але і ў штодзённым побыце...»

Па ўспамінах Міско, самае галоўнае тады для КДБ было арганізаваць нацыяналістычную групоўку. Але групоўкі той ніякай не існавала. Хлопцы з сем’ямі па 15–20 гадоў жылі тады без кватэр у акадэмічных інтэрнатах, бо займаліся беларускай культурай. Што ведалі адзін аднаго, дык не маглі не ведаць. Што пісалі пра старажытную гісторыю, культуру і мову беларусаў, дык так наканавана ім было. Што яны аднолькава думалі пра трагічную гісторыю свайго народа і хацелі для яго лепшай будучыні, дык так думалі ўсе шчырыя беларусы.

Міско нават выклікалі на бюро ЦК КПБ перад пленумам 1974 года. Там першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў цэлую гадзіну чытаў яму натацыі, што ў нас адзін савецкі народ, што ў нас будзе адна мова і г.д. А потым пачаў крычаць на яго: «Нашёлся свядомый белорус. Поживёшь два года без работы, вот посмотрим, как ты запоёшь... Ты думаешь, если бы ты стал руководителем республики, так сразу все и заговорили бы на белорусском языке...»

Але Сцяпан Міско не маўчаў, адстойваў свае погляды. Праўда, пасля бюро ЦК КПБ два гады ён не змог нідзе ўладкавацца на працу. А пасля ўсё ж яго ўзялі ў Дзяржаўны музей БССР. А перад пенсіяй — працаваў намеснікам галоўнага рэдактара ў выдавецтве «Універсітэцкае».

У 2000 годзе асобным выданнем выйшла з друку кніга Сцяпана Міско «Школьны тэатр Беларусі XVI–XVIII стст.». У ёй аўтар найбольш поўна даследаваў тэатральнае мастацтва Беларусі перыяду сярэднявечча. Кніга складаецца з трох раздзелаў. У першым раздзеле даследчык расказаў пра тое, як узнік школьны тэатр і што сабой уяўляў яго рэпертуар. У другім раздзеле асаблівую ўвагу ўдзяліў аналізу інтэрмедый, якія ляглі ў аснову прафесійнай беларускай драматургіі. А ў трэцім раздзеле ў скарочаным выглядзе даецца змест асобных інтэрмедый.

Вядома, Сцяпан Міско гэтым выданнем не прэтэндуе на вырашэнне ўсіх праблем, звязаных з развіццём школьнага тэатра ў Беларусі. Будучым даследчыкам давядзецца яшчэ перакласці на беларускую мову ўсе тэксты драм, якія пісаліся і ставіліся на тэрыторыі Беларусі на лацінскай і польскай мовах, выявіць многіх невядомых да гэтага часу драматургаў школьнага тэатра, даследаваць больш шырока тэорыю і практыку школьнага тэатра. Аднак і тое, што нашаму земляку ўдалося адшукаць у архівах і старых выданнях, вельмі карысна для тых, хто цікавіцца гісторыяй беларускага тэатра.

Падчас адной з сустрэч пры жыцці Сцяпан Міхайлавіч Міско неяк сказаў мне: «Калі будзеш штосьці пра мяне пісаць, не забудзь згадаць, што я з’яўляюся сябрам Саюза беларускіх тэатральных дзеячаў з 1964 года». Гэта я і раблю.


Рускі афіцэр назірае за спальваннем вёскі на беларускім Палессі


Беларуская сям'я ратуецца ад жахаў вайны


Бежанцы з Царства Польскага

# Гарызонт быў чырвоны ад палаючых вёсак

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Сто гадоў таму Першая сусветная вайна прыйшла на беларускую зямлю. Сотні тысяч людзей былі вымушаны пакінуць родныя хаты. Лёс шмат каго склаўся вельмі трагічна.**

## Вялікі сыход

Пасля паразы Рускага імператарскага войска ў бітвах на тэрыторыі Царства Польскага стала зразумелым, што фронт царскай арміі ўтрымаць не ўдасца. Першымі бежанцамі з тэрыторыі Царства Польскага сталі яўрэі, аднак хутка за імі пацягнуліся і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў.

У чэрвені-ліпені 1915 года на тэрыторыі беларускага Палесся знаходзілася каля 400 тысяч людзей, якіх, у сваёй большасці прымусілі пакінуць родныя мясціны. Вось як тыя падзеі апісваў адзін з відавочцаў: «Калі перабраліся праз Белавежскую пушчу і пад Пружанамі даехалі да шашы, убачылі бясконцы абоз бежанцаў. Чакалі да ночы, каб неяк уклініцца. Потым рушылі на Слонім. Каля шашы часта трапляліся магілы. Хтосьці пастаянна плакаў, крычаў, стагнаў. Усе хацелі як мага хутчэй вырвацца з гэтага пекла. Не хапала ежы і корму жывеле. Прасілі, куплялі і так бралі».

На шляху, якім рухаліся ўцекачы, выстаўляліся армейскія пасты, якія забаранялі людзям затрымлівацца ў «прыфрантавой мясцовасці». Ахвярам вайны спрабавалі дапамагаць розныя арганізацыі — Таццянінскі камітэт (створаны ў верасні 1914 года), Хаўрус земстваў і гарадоў (створаны ў ліпені 1915 года), але гэта істотна не змяняла сітуацыі.

## Палессе ў агні

У 2014 годзе Нацыянальны банк Беларусі выпусціў манету ў памяць 100-годдзя Першай сусветнай вайны. На ёй сімвалічна паказана лінія германска-рускага фронту, які ў 1915 годзе па жывому падзяліў Беларусь.

«Лінію нямецкіх акопаў» пазней, у 1921 годзе, шмат дзе паўторыць і «рыжская мяжа» паміж Другой Рэччу Паспалітай і савецкай Расіяй. Беларускія сяляне, якія знаходзіліся на захад ад гэтай лініі, у сваёй большасці, былі вымушаны пакінуць свае вёскі і накіравацца на ўсход.

У арганізацыі эвакуацыі насельніцтва актыўны ўдзел прымала расійскае войска. «Адводзіць мужчынскае насельніцтва ўзростам ад 18 да 50 гадоў. Адводзіць скот. Адводзіць мясцовае насельніцтва, прапануючы высяляцца з маёмасцю», — адзначалася ў адным з загадаў ад траўня 1915 года.

А вось як узгадваў тую сітуацыю адзін з жыхароў Кобрынскага павету: «Жаўнеры паляць хаты, з якіх толькі што сышлі людзі. Выйшлі на шашу. Там было шмат аднавяскоўцаў і незнаёмых людзей. Хто на падводзе, а хто так. Царскі афіцэр нешта крычаў сваім падначаленым. Хутка мы пайшлі далей».

«Многія жадалі ісці з рускімі, баючыся немцаў, аб якіх расказвалі жудасныя гісторыі. За некалькі дзён да прыходу немцаў з'явіліся казакі. Іх камандзір заявіў, што падпаліць горад. Пасля таго, як казакі пачалі паліваць дамы газай, член камітэта прынёс ім 500 рублёў, і яны з'ехалі. Гарызонт з усіх бакоў ад горада быў чырвоным ад палаючых вёсак», — апісваў эвакуацыю адзін з жыхароў Ружан.

Былі, аднак, і тыя, хто вырашаў застацца. Гэта былі перш за ўсё беларусы-католікі і яўрэі. Такім царскія ўлады пакідалі ім адну карову і корм для яе толькі на месяц.

Кайзераўскія войскі, якія летам 1915 года займалі беларускія землі, былі ў жаху ад выгляду палескіх вёсак. У адной з нямецкіх справаздач адзначалася: «Уся мясцовасць, па якой адступаў праціўнік, была нямым сведкам супраць падпальшчыкаў уласнага народа. Усюды, куды ні прыходзілі нашы войскі, яны знаходзілі пакінутыя людзьмі і жывёламі груды камянёў, на якіх то тут, то там тырчэлі коміны. Даволі рэдка трапляліся цэрквы, над якімі злітаваліся казакі».

## Напрамак — Расія

Беларускія бежанцы рухаліся на ўсход. Царскія ўлады вымушаны былі выдзяляць вялізныя сумы, каб хоць неяк аблегчыць лёс гэтых людзей. У раёнах, набліжаных да фронта, гэтым займалася вайсковае кіраўніцтва, якое загадвала складаць акты страт маёмасці і выплочваць узнагароджанне за згубленыя падчас вайсковых дзеянняў пабудовы, скот і асабістыя рэчы. Войска з палкавых кас выдавала грошы мясцовым уладам, каб тыя хоць неяк арганізоўвалі быт бежанцаў з заходніх губерняў. Больш таго, даведзеныя да адчаю людзі пачыналі здзяйсняць злачынствы. Паліцыя ў гэтых умовах не магла эфектыўна сачыць за захаваннем правапарадку.


Твары эпохі. Бежанцы


Палешукі

30 жніўня 1915 года быў зацверджаны закон «Аб забеспячэнні патрэб бежанцаў», які акрэсліваў асноўныя правы людзей, па сутнасці пазбаўленых уладамі іх месца жыхарства. Таксама была створана спецыяльная камісія, якая павінна была адказваць за ўладкаванне ўцекачоў. Сродкі на дзейнасць гэтага органа выдзяляліся непасрэдна з Дзяржаўнага казначэйства.

На ўсход бежанцы рухаліся па трох накірунках: Івянец — Ракаў — Мінск, Баранавічы — Нясвіж — Мінск і Сіняўка — Слуцк — Старыя Дарогі — Магілёўская губерня. Далей уцекачы накіроўваліся праз Смаленск і Бранск у Цэнтральную і Паўднёвую Расію. Дзве сталіцы імперыі — Масква і Петраград — для бежанцаў з беларускіх і польскіх губерняў былі зачыненыя.

Як адзначае гісторык Аляксандр Мікалаевіч, да захопу кайзераўскімі войскамі Гродна і Вільні ў жніўні 1915 года ў Гродзенскай губерні было 25 тысяч бежанцаў, у Віленскай, Магілёўскай і Віцебскай — па 20 тысяч. Да кастрычніка гэтыя лічбы значна ўзраслі, бо руска-германскі фронт рухаўся на ўсход. Паводле афіцыйных звестак, на люты 1917 года ў унутраных расійскіх губернях налічвалася каля 3,2 мільёна бежанцаў, з якіх 750 680 чалавек з Гродзенскай губерні, 51 954 з Віцебскай, 164 351 з Віленскай, 161 453 з Мінскай і 1654 з Магілёўскай губерні. Асабліва шмат беларусаў было ў Тамбоўскай, Самарскай, Калужскай, Казанскай, Курскай, Саратаўскай губернях. Праблема бежанцаў дорага каштавала Расійскай імперыі. У 1916 годзе на яе вырашэнне было вылучана 297 мільёнаў рублёў, з якіх амаль палова пайшла на вырашэнне жыллёвых пытанняў. Аднак нават такія вялікія грошы не змаглі вырашыць усе цяжкасці быту ўцекачоў з Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі.

## Дапамога суайчыннікам

У красавіку 1915 года ў Вільне было створана Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Яно паспела адкрыць некалькі прадстаўніцтваў на беларускіх землях, аднак ужо праз некалькі месяцаў кайзераўцы захапілі старажытную сталіцу ВКЛ.

У студзені 1916 года ў Петраградзе было створана Беларускае таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны, адным з кіраўнікоў якога стаў Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

Беларусы спрабавалі дапамагаць суайчыннікам працаўладкоўвацца, праводзілі нацыянальныя вечарыны. У гэтых цяжкіх умовах беларуская інтэлігенцыя спрабавала абудзіць нацыянальную свядомасць сярод былых жыхароў заходніх губерняў, прымусіць іх узгадаць, што яны не «тутэйшыя», не «беженцы русского происхождения», а беларусы. І гэтая праца давала свой плён. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года сярод беларускіх бежанцаў актыўную агітацыю праводзілі Беларуская сацыялістычная грамада і Беларуская народная грамада. Былі створаны «Арэнбургскі гурток беларусаў», «Беларуска-ўкраінскі камітэт дапамогі ахвярам вайны ў Барнауле», «Беларуская вучнёўская грамада» ды іншыя арганізацыі.

Пасля захопу ўлады бальшавікамі сярод бежанцаў актыўна праводзілі працу арганізацыі левага накірунку. У красавіку 1918 года ў складзе наркамата па вайсковых справах РСФСР была створана цэнтральная калегія па справах палонных і бежанцаў. У ліпені таго ж года ў Маскве адбыўся Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі. У перыяд з 1918 па 1924 гады адбывалася вяртанне беларускіх бежанцаў на Радзіму. Пры гэтым пасля сакавіка 1921 года значная частка ўцекачоў вымушана была стаць грамадзянамі Другой Рэчы Паспалітай.

Па ўспамінах шматлікіх беларусаў, якія вярталіся дадому, іх сустракалі спаленыя вёскі, якія за амаль дзесяцігоддзе паспелі зарасці пустазеллем. Наступствы ваеннага ліхалецця перыяду Вялікай вайны ў заходнебеларускім рэгіёне польскім уладам прыйшлося ліквідаваць на працягу амаль усяго міжваеннага дваццацігоддзя.


Нязгаснае святло і пацір


Партрэт Дануты Бічэль

# Прысвячэнне Алеся Цыркунова Дню Волі

Марат ГАРАВЫ

**У сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны адкрылася выстава твораў беларускага жывапісца, сябра суполкі «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў Алеся Цыркунова.**

Ён штогод робіць такія выставы-прысвячэнні Дню Волі ў сталічнай сядзібе ТБМ. На гэты раз мастак абраў для экспанавання шэраг новых твораў, напісаных цягам апошніх трох гадоў. Сярод палотнаў, якія Алесь Цыркуноў упершыню прадставіў шырокай публіцы, — шасціпціх-прысвячэнне найвыбітнейшым беларускім жанчынам, якіх апякае нябесная заступніца Беларусі, святая Ефрасіння Полацкая.

У нізку ўвайшоў алегарычны трыпціх «Вера, Надзея, Міласць», у якім увасоблены вобразы выбітных дзяячак беларускага нацыянальнага адраджэння, паэтак Цёткі (Алаізы Пашкевіч), Ларысы Геніюш і Дануты Бічэль, а таксама алегарычны партрэт адышоўшай чатыры гады таму ў лепшы свет Ядвігі Грыгаровіч — былой рэктаркі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту культуры і мастацтваў, дзе яна шмат год вяла рэй на ніве беларушчыны. Такі адмысловы выбар герояў свайго шасціпціху Алесь Цыркуноў патлумачыў духоўнай повязю гэтых цудоўных жанчын — годных патрыётак Бацькаўшчыны.

Апроч таго, жывапісец прадставіў сваю працу «Святое пакліканне герояў на Монтэ-Касіна», напісаную пасля мінулагодняй вандроўкі ў Італію невялікай групы беларускіх мастакоў дзеля пленэра на месцы баявых дзеянняў у гады Другой сусветнай вайны. Да мемарыялу яны ўсклалі беларускі сцяг, кветкі і бел-чырвона-белую стужку.

У выніку бітвы пад кляштарам Монтэ-Касіна, вядомай таксама як бітва за Рым, саюзнікі прарвалі нямецкія горныя ўмацаванні на непрыступнай «Лініі Густава» і вызвалілі сталіцу Італіі ад фашыстаў. Прычым поспех прыйшоў пасля чацвёртага штурму, што адбыўся з 11 па 19 мая 1944 года ў асноўным высілкамі Другога польскага корпусу пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса. Апроч гэтага корпусу ў атацы прымалі ўдзел брытанскія, амерыканскія, новазеландскія, паўднёваафрыканскія і французскія войскі. У выніку штурму, які праводзіўся праз замініраваную тэрыторыю, якая да таго ж цалкам прастрэльвалася з нямецкіх бункераў, польскі корпус згубіў 924 жаўнеры забітымі, 2 930 параненымі і 345 зніклымі без вестак. Паколькі асабісты склад корпусу на 30 адсоткаў складаўся з ураджэнцаў Беларусі, а галоўную ролю ў прарыве «Лініі Густва» адыгралі лепшыя беларускія фармаванні «Зубры» і «Рысі», падчас штурму загінулі 264 нашы суайчыннікі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, пахаваныя ля падножжа гары Монтэ-Касіна. Загінулым нашым землякам і прысвечаны твор Алеся Цыркунова.

Дарэчы, падчас сваёй вандроўкі ў Італію ён напісаў чатыры творы, прысвечаныя бітве за Рым, з гісторыяй і героямі якой беларуская грамадства пазнаёмілася толькі ў апошнія 20 гадоў. Трэба зазначыць, што гэтай сваёй нізкай твораў Алесь Цыркуноў распачаў увасабленне тэмы бітвы пад Монтэ-Касіна ў нацыянальным выяўленчым мастацтве.

Выстава будзе працаваць да 9 мая.

# «94» Развянчанне міфаў

Сяргей ПУЛЬША

**Дзевяностыя гады ўжо мінулага стагоддзя — рай для мемуарыстаў. Кніжак пра крах СССР, як мы здабылі незалежнасць, што гэтаму папярэднічала і што было пасля, павінна быць багата. Але кожныя новыя такія мемуары — падзея.**




Не выключэнне і новая кніга Сяргея Навумчыка «Дзевяноста чацвёрты». Яна выйшла ў кніжнай серыі Радыё Свабода «Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе». Хоць і прысвечаная часам зусім не XXI стагоддзя.

Кніга «Дзевяноста чацвёрты» — толькі адзін год з ягонага жыцця. Але ў той год уклалася шмат. Калі ўзгадваеш той год, то найперш на памяці — прыняцце Канстытуцыі і першыя прэзідэнцкія выбары ў краіне, і напрыканцы года — антыкарупцыйны даклад Сяргея Антончыка і «белыя плямы» ў газетах...

Як піша ў рэцэнзіі на кнігу Навумчыка Зянон Пазняк, «Навумчык не называе сябе гісторыкам, хаця, фактычна, апісвае гісторыю таго пераломнага часу. Яго вялікая перавага перад большынёй гісторыкаў у тым, што ён як парламенцкі палітык Фронту ведае і разумее прадмет палітыкі як з'яву, удзельнікам якой ён быў. Гэта тая асаблівасць, якой гісторыкі, як правіла, не валодаюць. Удакладню канкрэтна. Каб напісаць гісторыю палітычнай з'явы, трэба ведаць не толькі факты, але найперш валодаць палітычным мысленнем. З гэтага пункту гледжання тэкст Навумчыка напісаны ў форме ўспамінаў з апорай на дакументы і факты, мае большую каштоўнасць для гісторыі, чым міфалогія іншых гісторыкаў, заблытаных супярэчлівымі фактамі і незразумелымі для іх падзеямі».

Так, каштоўнасць гэтай кнізе дае менавіта ўключанасць аўтара ў тыя падзеі. Але, зазвычай, такія мемуары — гэта апісанне падзеяў. А найбольш цікава чытаць такія творы, калі аўтар не канстатуе, а апісвае тыя часы. Што думалі ўдзельнікі гэтых падзеяў, што адчувалі, што прагназавалі? Што спрабавалі рабіць? І што было б, каб яны зрабілі так, а не інакш? Думкі і пачуцці — гэтага зазвычай бракуе ў мемуарах.

**Гэта кніга яшчэ і адказвае на правакацыйныя пытанні. Напрыклад, чаму БНФ на выбарах не падтрымаў Шушкевіча? Ці пагражаў Пазняк павесіць камуністаў?**

У гэтым плане кніга Навумчыка — прыемнае выключэнне. Гэта не толькі апісанне падзеяў, гэта яшчэ і замалёўкі жыцця, атмасфера таго часу. Шмат увагі Навумчык надае амаль апакрыфічным фактам і непасрэдным удзельнікам прэзідэнцкай кампаніі 1994-га года.

Нельга не пагадзіцца з гісторыкам і літаратарам Уладзімірам Арловым, які адзначыў, што ўвага да асобы — яшчэ адзін моцны бок кнігі Сяргея Навумчыка.

Гэта ўжо другая кніга Навумчыка. Першая кніга выйшла паўтара гады таму і была пра 1991 год.

Сам Сяргей Навумчык прысутнічаў на прэзентацыі сваёй кнігі віртуальна — праз скайп са студыі Радыё Свабода ў Празе. Ён адзначыў, што другая кніга з гісторыі беларускага адраджэння — гэта «частка таго абяцання, якое з мяне ўзяў Васіль Быкаў, што я напішу гісторыю нашага нацыянальнага адраджэння, яго апошняй хвалі. Я хацеў гэта зрабіць пры жыцці Быкава, але гэтага не атрымалася. Але прайшоў пэўны час, і за адлегласцю гэтага часу асобы, постаці, падзеі лепш бачныя. Я таксама ўдзячны памерламу ўжо Генадзю Бураўкіну, які пасля першай кнігі пераконваў мяне працягваць гэтую справу, і Зянону Пазняку, які таксама падштурхоўваў да працягу», — зазначыў Навумчык.

Мэта першай кнігі — паказаць, што тэза «Незалежнасць для Беларусі звалілася з неба» — гэта фікцыя. «Здабыццё незалежнасці — гэта намаганні тысяч і тысяч людзей. Толькі БНФ налічваў 30 000 чалавек. Былі іншыя людзі, якія пісалі ў газеты, спрычыняліся да грамадскага жыцця, і гэтыя тысячы і тысячы чалавек надзвычайнымі высілкамі і дасягнулі незалежнасці», — кажа Навумчык.

У другой кнізе, па словах аўтара, ён імкнецца разбурыць яшчэ адзін міф. А менавіта міф пра тое, што прэзідэнцкія выбары 1994 года былі нейкай «народнай рэвалюцыяй», што Лукашэнка «прабіў сцяну наменклатуры», і «народная хваля вынесла яго на вяршыню ўлады». «Нічога гэтага не было», — сцвярджае Навумчык. А насамрэч былі калі не скаардынаваныя, то супольныя дзеянні розных сіл: «старой» і «новай» наменклатуры, каб не дапусціць да ўлады нацыянальныя дэмакратычныя сілы.

«Я думаю, што трэба падумаць, што будуць пісаць праз 500 гадоў пра Беларусь. А будуць пісаць прыкладна так: «Беларусь праз 200-гадовага панавання Расіі атрымала незалежнасць, якая працягнулася тры гады. З шматлікіх прычынаў, застаючыся незалежнай фармальна, яна зноў патрапіла ў залежнасць ад Расіі», — кажа Навумчык.

Гэта кніга акрамя іншага яшчэ і адказвае на правакацыйныя пытанні. Напрыклад, чаму БНФ на выбарах не падтрымаў Шушкевіча? Ці пагражаў Пазняк павесіць камуністаў? Ці сядзелі рускія людзі «на чамаданах», як сцвярджае Лукашэнка? І разглядаецца яшчэ шмат іншых розных і цікавых міфаў найноўшай беларускай гісторыі.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 405

Падпісана да друку 27. 03.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.